28 жніўня 2020 | № 32 (691)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Літаратурная Беларусь
стар. 7–18

ISSN 2218-2144







# Сімвалізм сучаснай Беларусі

**Падзеі жніўня яскрава прадэманстравалі нараджэнне новай Беларусі — краіны, якой захапляецца ўвесь свет**




Фота www.euronews.com



Фота www.ukrinform.ua



Фота www.24tv.ua



Фота www.charter97.org



Фота Дар'і Буракінай, www.tut.by



Фота www.facebook.com



Фота www.gazeta.ru



# «Нармальны чалавек не можа так біць»

**«Радыё Свабода» пагутарыла з віцяблянамі, якіх затрымалі пасля выбараў пры розных абставінах, пабілі і трымалі за кратамі, дзе здзекаваліся з іх і іншых гараджан.**


Фота Радыё Свабода
Мікола Качурэц


Фота Радыё Свабода
Сяргей Міраненка


Уладзімір Булаўскі

**Мікола Качурэц,** 61 год, кіроўца-міжнароднік. Нягледзячы на ўзрост, Міколу збівалі, выдзіралі валасы. Збітага трымалі ў камерах ІЧУ і СІЗА, адмаўлялі ў леках.

Два гады таму Мікола кінуў паліць, бо перанёс інфаркт і прымае лекі. Цягам апошніх тыдняў скурвае дзве пачкі штодня. Здымае стрэс.

— 9 жніўня, калі я выйшаў з дому, чуў, што машыны гудуць. Веры не было, што людзі выйдуць, але вырашыў прайсціся, паглядзець. Я ўзяў з сабой бела-чырвона-белы сцяг.

Бліжэй да плошчы мне сказалі, што АМАП разганяе і «круціць» людзей. Я пачаў расчахляць сцяг. Падняў. Нас ішло разам чалавек 50–60. Так мы дайшлі да «Брыганціны» (будынак былога кінатэатра на скрыжаванні вуліцы Чкалава і праспекта Будаўнікоў, дзе ў Віцебску некалькі дзён запар былі масавыя затрыманні).

Каля мяне спыніліся бусы. Амапаўцы беглі да маладзейшых. Я схапіў аднаго за руку, і тады пачалася барацьба. Падбег другі. Мяне скруцілі і зацягнулі ў бус. У бусе было ўражанне, што мяне забіваюць. Білі кулакамі — у галаву. Удары былі моцныя, бачна, што яны прафесійна натрэніраваныя.

Адзін з сілавікоў схапіў мяне за валасы. Крычаў: «А, ты яшчэ валасаты? Хочаш перамен? Трымай!» Біў моцна. Нармальны чалавек не можа так біць. Гэта зверства, фашызм. Ён крычаў і дзвюма рукамі драў валасы.

На мяне пасвяцілі ліхтарыкам. У мяне было рассечана каля вока, носам ішла кроў. Мяне працягвалі збіваць. Можа, я крыху блытаюся. Запамінаць не хацелася. Хацелася толькі перажыць гэта. Пасля мяне выцягнулі і кінулі ў другі бус.

Потым нас доўга вазілі па горадзе. Прывезлі ў ізалятар. Яшчэ дзве-тры гадзіны стаялі ў бусе ў двары. Нас не выпускалі ў прыбіральню. Крычалі, як на жывёл. Толькі а пятай гадзіне раніцай адвялі ў камеру.

Міколу прысудзілі 15 сутак. Пяць з іх ён адседзеў у камерах ізалятара і СІЗА, які віцябляне сталі называць «канцлагерам».

— Нас распраналі, абшуквалі. Былі здзекі, грубы тон, абразы. Да нас ставіліся як да злачынцаў і забойцаў. Усе былі ў масках, без бэйджаў.

Калі нас прывезлі ў турму, з аўтазака я выходзіў апошнім, чуў брэх сабак, стук дубінак па спінах. Я быў добра пабіты. Вельмі балелі рэбры. Думаў, што пераломі. Мяне штурхалі, бо бегчы не мог. Быў загад глядзець у падлогу. Мы сталі ўздоўж сцяны. Людзей збівалі. Я сеў на дыбачкі, астатнія стаялі на каленях. Побач стаяў віцебскі бізнесовец, у яго свая крама. Ён казаў, што ў яго дзве аперацыі на нагах, ён не можа стаць на калені. Яго збілі. На ўсе загады прымушалі адказваць: «Так точно!» Інакш — дубінка.

Медычнай дапамогі не аказалі. У мяне быў інфаркт. Я сяджу на таблетках. Штодзённа прымаю лекі для нармалізацыі ціску, разрэджвання крыві, зніжэння халестэрыну. Мая сяброўка даведалася, дзе я. Прынесла лекі, але мне іх не перадалі. Я прасіў штодня. Адну таблетку мне далі раніцай на пятыя суткі, калі стаўленне да нас змянілася і людзей пачалі адпускаць.

Мікола кажа, што яго баяліся вызваляць, бо вочы былі чорныя, а твар — увесь сіні і распухлы. Сукамернікі сталі прасіць: «Адпусці дзеда!» Сябры перадалі яму акуляры і маску. Мікола выходзіў на волю з прыхаваным тварам.

— Я пайшоў у траўмпункт. Зрабіў рэнтген, тамаграфію. Рэбры цэлыя. Пашкоджанні знешнія. У галаве, сказалі, гематомы няма. Доктар накіраваў вынікі агляду ў пракуратуру. Следчы мяне апытаў.

Мікола адзначае, што з кожным днём пачуваецца лепш.

— Першыя дні пасля вызвалення лячыўся і сядзеў у інтэрнэце. Плакаў ад таго, што адбываецца. Больш за ўсё я баяўся, калі выйду, даведацца, што ўсе разбегліся і пахаваліся.

У панядзелак, 17 жніўня, Мікола быў сярод пятнаццаці дэлегатаў ад народа на сустрэчы з чыноўніцтвам у аблвыканкаме. Як сведка і сведчанне жорсткага абыходжання з мірнымі дэманстрантамі.

— Чыноўнікі апраўдваліся, што дзеяннямі сілавікоў яны прадухілілі беспарадкі ў горадзе, баяліся, каб не разабралі плітку, не паламалі лаўкі. У выніку — пачалі ламаць людзей.

Такой жорсткасці я не памятаю. У маладосці мы біліся, але былі пэўныя прынцыпы. На дзяўчат альбо людзей сталага веку ніхто рукі не ўздымаў.

### «Гэта было падобна да нейкага выкрадання»

**Уладзімір Булаўскі,** 31 год, музыка, гісторык, грамадскі актывіст. Моцна збілі пры затрыманні ў асноўны дзень выбараў. Паводле доктара, які фіксаваў пабоі, траўмы маюць крымінальны характар.

— Увечары 9 жніўня пасля галасавання я сустрэўся з сябрамі ў цэнтры горада. У мяне на руцэ быў павязаны стужкай бел-чырвона-белы сцяг. Мы ўжо ведалі, што ў Віцебску ідуць затрыманні ў раёне плошчы Перамогі. Мы ішлі па Маскоўскім праспекце ў бок кавярні Zdoba. Я хацеў у прыбіральню, таму прапанаваў сябрам зайсці ў сярэдзіну. Мы не дайшлі да кавярні літаральна метраў 5–6.

Убачылі бусік і аўтазак. Але мы ішлі абсалютна мірна, нічога не выкрыквалі, я не падымаў сцяг. Да мяне ззаду падбег мужчына ў міліцэйскай форме. Як кажуць сведкі, гэта быў маёр. Ён не прадставіўся, сказаў, што я затрыманы, і пачаў душыць мяне дубінкай. Ён паваліў мяне на зямлю, працягваў душыць, перасціснуў мне мачавы пузыр каленам. Ад гэтага я абмачыўся.

Ён пачаў крычаць, каб я ўставаў і ішоў. Пры гэтым утрымліваў мяне на зямлі і ўдарыў па твары. Падбеглі ягоныя калегі і ўтрох пачалі збіваць мяне дубінкамі. Я казаў, што пайду сам. Ад болю я ішоў марудна, мяне пастаянна штурхалі. У аўтазак пхнулі так, што я моцна ўдарыўся галавой аб сценку. У камеры аўтазака, разлічанай на дваіх, мы сядзелі ўтрох. Не было чым дыхаць.

Пры затрыманні мне зламалі акуляры. Пакуль маёр іх не адрамантуе, буду хадзіць без дужкі. Хай бачаць.

Пасля мяне перавялі з аднаго аўтазака ў іншы. Некалькі гадзін вазілі па горадзе. У ІЧУ свабодных месцаў не аказалася. Нас павезлі далей. Куды — ніхто не адказваў. Гэта было падобна да нейкага выкрадання. Пасля я даведаўся, што мы былі ў спорткомплексе Дэпартамента аховы Першамайскага РУУС.

Нас вывелі з аўтазака і па адным заводзілі ў спартовую залу. Прымусілі зняць абутак і шкарпэткі. Усіх паставілі на калені, рукі за галаву. Я сказаў, што ў мяне праблемы з каленам, і мне дазволілі стаць так, як зручна. Унутры былі каля 20 міліцыянераў у масках. Старшыя па званні не хавалі свае твары.

Над спартовай залай быў другі паверх — балконам. Там стаялі нейкія жанчыны і смяяліся з таго, як паводзяць сябе затрыманыя. Нас было 33 чалавекі — хлопцы і адна дзяўчына. Двух хлопцаў пачалі збіваць, каб застрашыць астатніх. Аднаму з іх стала дрэнна. Яго забрала хуткая. У аднаго з мужчын, які быў са мной у аўтазаку, была праблема з прастатай. Яго не выпускалі ў прыбіральню. Проста далі бутэльку. У залі ў яго здарыўся сардэчны прыступ. Пакуль ехала хуткая, яму не аказвалі дапамогі.

Амаль гадзіну людзей трымалі на каленях. Забаранялі паварочваць галаву, мяняць становішча рук і ног, білі дубінкамі. Пасля па адным пачалі заводзіць у пакой да супрацоўнікаў. Пратаколаў не складалі. Толькі запісвалі тлумачэнні, пры якіх абставінах затрыманы.

Толькі праз чатыры гадзіны пасля затрымання мне дазволілі зайсці ў прыбіральню.

Адпусцілі мяне пасля трэцяй гадзіны ўначы.

### «Мне не верылі, бо я выглядаю іначай»

**Сяргей Міраненка,** свабодны мастак, 39 гадоў. Пасля вызвалення ў знак пратэсту мастак састрыг доўгія валасы.

Віцебскі мастак Сяргей Міраненка жыве недалёка ад плошчы Перамогі. У ноч з 9 на 10 жніўня ён сядзеў з малым дзіцём. Пасля выйшаў прайсціся.

— Мяне адразу затрымалі. Падбеглі ззаду, узялі пад рукі і павялі ў аўтазак. Затрымлівалі чалавек шэсць. Настолькі я небяспечна выглядаю знешне. Я спытаў прычыну затрымання, мне адказалі, што ўсё патлумачаць.

У РУУС сказалі, што ў мяне на твары напісана, што я экстрэміст, завадатар натоўпу, таму што я выглядаю, так, як выглядаю.

Сяргей адзначае, што ўсё жыццё хацеў быць не такім, як усе. Ужо некалькі гадоў мастака пазнаюць у Віцебску, у тым ліку па знешнім выглядзе: ён адзіны чалавек у горадзе, які носіць кілт. Вобраз быў дапоўнены доўгімі валасамі.

— Мне падабаецца кілт. У ім я адчуваю сябе свабодна. Мне так падабаецца. Я мастак. У мяне свой погляд на свет. Сумбурны. Я раблю над сабой лёгкія перформансы. Хтосьці мой вобраз успрымае, хтосьці — не. Часта глядзяць як на дзівака. Але мяне гэта не кранае.

У аўтазаку з мяне кпілі. Па дарозе намагаліся падняць дубінкай кілт і паглядзець, ці сапраўдны я шатландзец. Ён цяжкі, важыць амаль два кілаграмы, таму падняць яго дубінкай не ўдалося.

У ізалятары мяне паставілі ў калідоры. Прымусілі распранацца. Я стаяў каля сцяны, ногі на шырыні плеч, напаўсагнуты. Крычалі, што тварам я падобны да ўкраінца. Адказаў, што я беларус. Але мяне працягвалі пераконваць, што я ўкраінец. Стаяць было нязручна. Спіна ў напрузе, а ў мяне дзве траўмы пазваночніка. Мяне пачало трэсці, бо ў такім становішчы я не магу стаяць больш за пяць хвілін. Мне сказалі, што калі не так, то паставяць у гэткую позу, у якой я ўвогуле не змагу стаяць.

У асобным кабінеце мне задавалі пытанні пра абставіны затрымання. Мне не паверылі. Сказалі, што пры маім выглядзе гэта могуць быць толькі казкі. Таксама міліцыю цікавіла, колькі мне заплацілі, каб я выйшаў на вуліцу.

Кожны імкнуўся мне сказаць, што я вольны шатландзец, які прыехаў змагацца за свабоду Беларусі. І ўсё, чаго я дабіўся, — гэта арышт.

Сяргею далі 10 сутак.

— Суд адбыўся толькі са слоў службоўца, які мяне затрымліваў. Нібыта я ішоў у натоўпе, выкрыкваў лозунгі і махаў рукамі. Пры гэтым я чалавек апалітычны. Але апраўдвацца бессэнсоўна. Я напісаў, што нязгодны з тым, што мне прад'яўляюць. Адзіная мая віна ў тым, што я быў на вуліцы. І жыву ў цэнтры. Усім, хто згаджаўся з абвінавачваннем, давалі штрафы. Нязгодным — «суткі». Гэта быў маральны ціск. Імкнуліся давесці, што ўлада пакажа, як сябе трэба паводзіць.

Некалькі сутак пасля суда Сяргей правёў у турме.

— З ізалятара ў СІЗА нас вывозілі апоўначы. У камеру я зайшоў а шостай раніцы. Ніколі не думаў, што апынуся ў такім месцы. Што да цябе будзе стаўленне, як да злачынцы, асуджанага пажыццёва.

У турме святло гарыць круглыя суткі. Цэлы дзень сядзіш альбо стаіш. Замкнутая прастора, адсутнасць навін.

Сяргей адседзеў пяць сутак. Праз дзень пасля вызвалення ён састрыг валасы.

— Цяпер я лысы. Гэта ўнутраны пратэст адносна таго, што я ўбачыў. У мяне рэзка змянілася стаўленне да людзей, якія, як я думаў раней, павінны нас абараняць.

**Паводле «Радыё Свабода».**
**Друкуецца ў скарачэнні**

# Чаму беларускі АМАП паводзіць сябе так жорстка? Інтэрв’ю з былым байцом

**Свет абляцелі кадры і расповеды дэманстрантаў у Беларусі пра жорсткія затрыманні і здзекі ў ізалятарах. 16-гадовага Цімура з Мінска, па словах сваякоў, лекарам давялося ўвесці ў кому, каб справіцца з траўмамі, атрыманымі ад байцоў АМАПу; у Гомелі ў выходныя пахавалі 25-гадовага Аляксандра Віхора — збіты пры затрыманні хлопец памёр, не атрымаўшы медыцынскай дапамогі.**




Медыкі кажуць пра сур’ёзныя траўмы, атрыманыя ўдзельнікамі акцый пратэсту і выпадковымі мінакамі пасля зносін з супрацоўнікамі сіл правапарадку.

Следчы камітэт Беларусі атрымаў больш за 600 заяваў ад грамадзян наконт гвалту падчас затрыманняў, яшчэ каля 200 чалавек паскардзіліся на збіцці ў ізалятарах.

*Руская служба ВВС* паразмаўляла з былым байцом АМАПу пра тое, чым можна растлумачыць падобную жорсткасць.

У разгоне акцый пратэсту ў Беларусі ўдзельнічалі як супрацоўнікі МУС, так і іншыя структуры, не падпарадкаваныя міністэрству, — праваабаронцы сцвярджаюць, што такіх у краіне не менш за пяць. Часам вызначыць прыналежнасць да той ці іншай структуры было немагчыма — частка людзей была ў цывільным, а ў некаторых на форме адсутнічалі якія-небудзь апазнавальныя знакі.

Але менавіта байцы АМАПу, паводле шматлікіх звестак, жорстка затрымлівалі ўдзельнікаў акцый, укладвалі іх штабялямі ў аўтазаках, а таксама жорстка збівалі людзей у ізалятарах часовага ўтрымання.

Алег (імя зменена) праслужыў у мінскім АМАПе 17 гадоў — ад радавога байца да афіцэра і камандзіра падраздзялення. «Былых» у гэтых структурах не бывае, кажа ён.

«Я прыйшоў у АМАП напярэдадні першых прэзідэнцкіх выбараў. Адслужыў тэрміновую службу ў войску, там прайшоў адмысловую падрыхтоўку. У 1990-я гады хлопцы на “грамадзянцы” альбо ішлі ў бандыты, альбо ў міліцыю — выбару асабліва не было. Я пайшоў у міліцыю: я выхаваны быў у Савецкім Саюзе, гадаваўся на прыкладах гераічных подзвігаў. Я пайшоў туды працаваць за ідэю — зарплата ў 30 долараў, пагадзіцеся, — не стымул.

У той час у АМАПе было шмат “афганцаў” — хлопцаў, якія прайшлі гарачыя кропкі. Наш “кодэкс гонару” фарміравалі яны. Такога, што было цяпер, у апошнія дні, мы б ніколі не зрабілі. Мы былі жорсткімі, але не бязлітаснымі».

### «За сябе і за таго хлопца»

***— Вам даводзілася ўдзельнічаць у разгоне апазіцыйных выступаў? — спытаў карэспандэнт ВВС у былога амапаўца Алега.***

— Я звольніўся ў 2010-м, яшчэ да разгону Плошчы (гаворка ідзе пра разгон дэманстрантаў на плошчы Незалежнасці ў дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. — *Заўв. ВВС*). Я ўдзельнічаў у ахове грамадскага парадку ў 1996 годзе, на «Мінскай вясне», калі пераварочваліся машыны

**Ніколі не было такой нянавісці, як у гэтыя дні. Я разумею, што спарадзіла абурэнне народа на людзей у форме. Гэта вельмі небяспечны эфект, калі злосць, нянавісць і нават цкаванне распаўсюджваюцца на супрацоўнікаў аховы будынкаў, ДАІ, участковага**

і ішоў «Чарнобыльскі Шлях». У зачыстцы намётавага мястэчка на Кастрычніцкай плошчы [пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года] таксама ўдзельнічаў, але, пагадзіцеся, там не было збіцця, траўмаў і калецтваў у дэманстрантаў, пра якія паведамляюць цяпер.

***— Як рыхтуюць байцоў да разгону дэманстрацый? Гэта ідэалагічная праца? Вучаць «радзіму любіць» і біць яе «ворагаў»?***

— Я не ведаю, што цяпер байцам казалі. Яны рэальна верaць, што абаранілі краіну ад Майдана! Сувязь у мяне ёсць з людзьмі, якія там служаць, з маімі былымі падначаленымі, але што ў дадзены момант адбываецца ў падраздзяленні, я не ведаю. Чаму ў людзей з’яўляюцца такія прыступы нянавісці да народа? У нас такога не было. Супрацьдзеянне натоўпу заўсёды было адэкватным. Калі натоўп стаяў — ніхто не чапаў. АМАП стаяў у ачапленні — так, са шчытамі, без шчытоў. Калі фізічнага ўздзеяння на супрацоўнікаў міліцыі не было, праваахоўнікі ніколі не шчыравалі такім чынам.

***— Што адбываецца, калі дэманстранты праяўляюць агрэсію?***

— Як бы вам растлумачыць... Салдаты на вайне ваююць не за ўрад, не за кіраўніка краіны. Мужчыны на вайне ваююць за таго хлопца, які з табой побач сядзеў у акопе — і яго ўжо няма. Салдаты ваююць за гэта. І тут [пры разгоне дэманстрантаў] спрацоўвае такое ж. Таму што калі твайму напарніку, твайму таварышу прыляцеў камень у галаву, у табе натуральна ўзнікае хваля гневу — як у любым чалавеку. Хлопцы са шчытамі, калі на іх ідзе фізічнае ўздзеянне, гуртуюцца. Яны ўжо ваююць і за сябе, і за таго хлопца, які пацярпеў.

Але я не разумею таго, што адбываецца ў многіх выпадках цяпер. Разумею жорсткі адказ ля ўніверсама «Рыга», дзе пратэстоўцы будавалі барыкады, адбіваліся, чым маглі, кідалі, па некаторых звестках, у праваахоўнікаў «кактэйлі Молатава». Але не разумею, не магу зразумець, як можна біць 15-гадовага падлетка на пустым тратуары, тым больш, што ён крычыць, што яму толькі 15.

На мой погляд, адбылася нейкая падмена прынцыпаў баявога братэрства.

### Пабочны эфект

***— Тое, што адбываецца цяпер, — гэта каманда афіцэраў або самавольства падначаленых?***

— Натуральна, без каманды нічога не робіцца ў гэтых падраздзяленнях. Самавольства тут няма. Мяркуючы па ўсім, на самым вышэйшым узроўні была дадзеная каманда самым жорсткім чынам задушыць гэтыя выступы.

***— Што спрацоўвае? Псіхалагічны эфект? Чаму цяпер такая жорсткасць — бо каманду можна выконваць па-рознаму.***

— Не ведаю, як цяпер гэта можна растлумачыць. Як растлумачыць? Альбо байцам нешта давалі, але не сказалі ім, што з імі можа адбыцца. Можа, давалі псіхатропы нейкія, але сказалі, што гэта для падтрымання фізічнага стану. Не сказалі, што пабочны эфект — нястрымная лютасць і да таго падобнае. Я не выключаю гэтага.

Мы ў свой час працавалі ў адкрытую, у нас нават масак не было. У нас не было такога, каб чалавека ў кайданках біць — чалавек у кайданках табе ўжо нічога не можа зрабіць. Нас простыя людзі паважалі ў наш час, падонкі баяліся. Ніколі не было такой нянавісці, як у гэтыя дні. Я разумею, чым яна выкліканая, што спарадзіла абурэнне народа, злосць не толькі на супрацоўнікаў АМАПу, але наогул на людзей у форме. Гэта вельмі небяспечны эфект, калі злосць, нянавісць і нават цкаванне распаўсюджваюцца на супрацоўнікаў аховы будынкаў, ДАІ, участковага.

***— Можа, правакуюць жорсткасць чыста фізіялагічныя інстынкты? Сама назірала, як у чаканні каманды байцы па некалькі гадзін сядзяць у аўтобусах з зачыненымі вокнамі. Прабачце, але ж элементарна ў прыбіральню хочацца і дыхаць цяжка...***

— Так, калі доўга там сядзіш, табе, як любому чалавеку, хочацца дадому, выйсці з дыскамфорту — ты пяць гадзін сядзіш у душнай машыне. У прыбіральню перыядычна выпускаюць, ваду даюць, харчаванне таксама. Калі супрацоўнікі напружана працуюць ва ўзмоцненым рэжыме, яны могуць суткамі знаходзіцца на працы.

Але гэта не павінна правакаваць раз’юшанасць — так не мусіць быць. Можа, са сваёй званіцы гляджу, але з-за таго, што я сядзеў пяць гадзін у машыне, я не буду біць чалавека.

***— На шматлікіх акцыях мы бачым людзей у цывільным, якія часам правакуюць дэманстрантаў, ківаюць АМАПу, каго затрымліваць. Гэта людзі з падраздзяленняў АМАПу або з іншых структур?***

— Гэта могуць быць і амапаўцы, і супрацоўнікі іншых падраздзяленняў. Але, як правіла, калі працуе АМАП, то і ў грамадзянскім працуюць людзі з АМАПу. Таму што яны ведаюць адзін аднаго. Звычайная логіка: калі чалавек з іншай структуры мне нешта там будзе махаць, я адкуль ведаю, хто ён? На ім жа не напісана. Таму я не буду выконваць яго каманды. Толькі людзі, якія ўзаемадзейнічаюць у адным падраздзяленні, могуць так працаваць.

### Прасоўванне па службе

***— Людзі, якія выйшлі з ІЧУ, распавядаюць, што амапаўцы складвалі іх у спецтранспарт пластамі, збівалі і тапталіся па затрыманых. Ці ёсць нейкі рэгламент, інструкцыя аб межах прымянення сілы?***

— Ёсць закон аб міліцыі, у якім прапісана прымяненне фізічнай сілы і спецыяльных сродкаў. Пры Уладзіміры Навумаве, калі ён быў міністрам унутраных спраў, строга пыталіся за загад №1 — пра ветлівае і культурнае абыходжанне з грамадзянамі. Я вельмі шмат пісаў папер. Калі мой падначалены ўжываў фізічную сілу або спецсродкі да затрыманага, ён пісаў рапарт-тлумачэнне: рапарт, калі адзяваў кайданкі, рапарт, калі ўжываў гумавы дручок або фізічную сілу. Камандзір праводзіў праверку правамернасці дзеяння.

***— Людзі, якія выходзілі з ІЧУ, расказвалі пра зверствы нейкай супрацоўніцы Крысціны: яна біла мужчын у пах, жанчын у жывот. У падраздзяленнях АМАПу ёсць жанчыны?***

— Я пра гэта чытаў, але жанчыну гэтую не ведаю, не ведаю, у якой структуры яна служыць. У АМАПе ёсць жанчыны. У цяперашні час, наколькі я ведаю, ёсць жаночая рота; як правіла, туды трапляюць спартсменкі, прыярытэт аддаецца дзяўчатам, якія займаліся адзінаборствамі.

***— Колькі плацяць у АМАПе? Чым прыцягваюць?***

— Супрацоўнік, які толькі прыбыў, атрымлівае каля 900 рублёў, напэўна. Затым зарплата расце ў залежнасці ад выслугі гадоў, звання, пасады. Праз паўгода новапрыбылы атрымлівае службовае жыллё. Для хлопцаў з правінцыі гэта важна, асабліва ў сталіцы. Мы абмяркоўвалі з калегамі: зараз прыходзяць у АМАП хлопцы з недастатковай фізічнай падрыхтоўкай, нават пасля арміі. І — як бы гэта мякчэй сказаць — з недастатковай адукацыяй. У некаторых падраздзяленнях заахвочваюцца даносы — такі вось своеасаблівы спосаб прасоўвання па службе.

***— Вам цяжка было адаптавацца да іншага жыцця, калі пакінулі службу ў АМАПе?***

— Прафесійная дэфармацыя заўсёды існуе. Сыходзіць было цяжка. Не хапала таго калектыву, у якім працаваў, людзей, якія сталі сябрамі. У маім падраздзяленні адносіны будаваліся на павазе, і я, як камандзір, павінен быў дзейнічаць так, каб і ў працы, і ў побыце байцы паважалі мяне, а я паважаў іх.

Каля месяца была вельмі моцная дэпрэсія. Потым... Усё ж такі мужчына, чаго скардзіцца: сышоў і сышоў. Трэба зарабляць, утрымліваць сям’ю — і таксістам давялося папрацаваць.

**Паводле ВВС, пераклад НЧ**

Азбука паліталогіі

# Беларускі варыянт «Ста дзён адзіноты»

Сяргей НІКАЛЮК

**Што вывела сотні тысяч беларусаў на плошчы? Паводле афіцыйнай версіі, неаднаразова агучанай адзіным палітыкам (АП), — замежныя лялькаводы. Бо ўнутраных прычын для гэтага ў дзяржаве для народа няма і быць не можа. Прынамсі, асабіста ён іх не заўважыў.**

Але калі прызнаць, што такое тлумачэнне ўтрымлівае хоць бы драбніцу ісціны, то ўсіх дзяржаўных прапагандыстаў неабходна тэрмінова звальняць за прафнепрыдатнасць.

Звернемся да бюлетэня «Рэспубліка Беларусь у люстэрку сацыялогіі» за 2018 год, падрыхтаванага спецыялістамі Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ) пры АП. Салідны дакумент салідных людзей. У мяне няма падставаў яму не давяраць.

Цытую: «На сучасным этапе ў кожнага жыхара краіны ёсць магчымасць аператыўна атрымліваць звесткі пра сітуацыю ў краіне і за мяжой у зручнай для яго форме: на 1 лістапада 2018 года ў краіне дзейнічаюць 9 інфармацыйных агенцтваў, выдаюцца 746 газет і 860 часопісаў, транслююцца дзясяткі тэлеканалаў, ажыццяўляюць вяшчанне 176 радыёпраграм. Шырока прадстаўлены і вэб-сайты, якія публікуюць актуальныя навіны і забаўляльны кантэнт».

Колькасць газет уражвае. Але не будзем цешыць сябе. Не ўсё золата, што блішчыць, і не ўсё карыстаецца попытам, што надрукавана на газетнай паперы. У першай дзясятцы няма ні аднаго незалежнага выдання. А замыкае ТОП-10 газета «Звязда», чыя аўдыторыя (2%) не перавышае хібнасці вымярэння. Што ж тады казаць пра ўплывовасць выданняў, якія ў першую дзясятку не трапілі.

Ад друкаваных выданняў пяройдзем да тэлебачання, якое згодна з прызнаннем сацыёлагаў ІАЦ, «па-ранейшаму застаецца для беларускіх грамадзян галоўнай крыніцай інфармацыі пра падзеі ў рэспубліцы і свеце».

Аднак паводле папулярнасці і ўзроўню даверу, як і ў выпадку з газетамі, тэлеканалы «Белсат» і «Еўраньюс» вядучым дзяржаўным каналам — не супернікі.

Інтэрнэт, безумоўна, апісаную вышэй карціну «змазвае». Праз два-тры гады ён стане для большасці беларусаў галоўнай крыніцай інфармацыі пра падзеі ў краіне і свеце. Стане, але пакуль яшчэ не стаў.

Дык чаму ж лялькаводы з-за мяжы аказаліся настолькі эфектыўнымі пры рэалізацыі сваіх злачынных планаў? А дзе была пры гэтым ідэалагічная вертыкаль?

**У дзяржаве для народа, якая прэтэндуе на ролю донара еўрапейскай стабільнасці, людзей бударажыць, безумоўна, не варта. А пацукоў? Як нечакана высветлілася, многія з тых, каго добранадзейныя грамадзяне гадамі прымалі за людзей, насамрэч аказаліся... пацукамі**

### Выбары і сяржанты

Праўда, як любіць паўтараць палітолаг Станіслаў Бялкоўскі, — гэта версія, якая найбольш задавальняе. У вершнікаў — свая праўда, у пяхоты — своя.

Так, згодна з версіяй кіраўнікоў палатаў беларускага парламента Наталлі Качанавай і Уладзіміра Андрэйчанкі, якой яны падзяліліся са старшынямі парламентаў дзяржаў — чальцоў Еўрасаюза, выбары 9 жніўня прайшлі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі РБ. «Пры гэтым абсалютная большасць грамадзян падтрымала дзеючы курс на будаўніцтва моцнай незалежнай дзяржавы, ключавым прыярытэтам якой з'яўляецца чалавек, яго дабрабыт і бяспека».

Наконт колькасці грамадзян, якія рэальна падтрымалі дзеючы курс, у грамадстве ідуць гарачыя спрэчкі. Але, павінен прызнацца, яны мяне мала цікавяць. І тут спатрэбіцца тлумачэнне.

Галасы лічаць на выбарах. Аднак дзе тыя шчаслівчыкі, якія здолелі прыняць удзел у беларускіх выбарах пасля 1996 года? Выбары — гэта ў першую чаргу сумленны падлік галоў. Безумоўна, да такога падліку яны не зводзяцца, але калі сумленны падлік не забяспечаны, то пра якія выбары гаворка?

Каб выпадкова дарэмна не пакрыўдзіць людзей годных, з якіх і камплектуюцца ў Беларусі ўчастковыя выбарчыя камісіі (УВК), я — з дапамогай пісьменніка Габрыэля Маркеса — перанясуся ў Калумбію: «Выбары прайшлі спакойна. У нядзелю, у восем гадзін раніцы, на плошчы была ўстаноўлена драўляная скрыня пад ахавай шасці салдат. Галасаванне было цалкам свабодным, у чым Аўрэліана мог пераканацца сам — амаль увесь дзень ён прастаяў побач з цесцем і сачыў, каб ніхто не прагаласаваў больш за адзін раз. У чатыры гадзіны дня барабанны дроб абвясціў пра канец галасавання, і дон Апалінар Маскотэ апячатаў скрыню ярлыкам са сваім подпісам. Увечары, седзячы за партыяй у даміно з Аўрэліана, ён загадаў сяржанту сарваць ярлык і падлічыць галасы. Ружовых паперак было амаль столькі ж, колькі блакітных, але сяржант пакінуў толькі дзесяць ружовых і папоўніў нястачу блакітнымі. Потым скрыню апячаталі новым ярлыком, а на наступны дзень, ледзь развіднела, адвезлі ў галоўны горад правінцыі» («Сто гадоў адзіноты»).

Беларусь, наколькі мне вядома, знаходзіцца не ў Лацінскай Амерыцы, а ў геаграфічным цэнтры Еўропы. Ці азначае гэта, што мясцовыя сяржанты пазбаўленыя магчымасці ўплываць на падлік галасоў?

Каб знайсці правільны адказ, звернемся да статыстыкі фарміравання УВК. Паводле інфармацыі Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, да 24 чэрвеня было сфарміравана 5 723 участковых выбаркамаў, у склад якіх увайшлі 63 347 чалавек. З 539 прадстаўнікоў апазіцыйных партый у камісіі ўключылі ўсяго шэсць.

Далей працягваць?

### Паміж Богам і Д'яблам

Праўда, як любіць паўтараць палітолаг Станіслаў Бялкоўскі, — гэта версія, якая найбольш задавальняе. Прыведзеная вышэй статыстыка фарміравання УВК многіх у Беларусі задавальняе, і найперш задавальняе яна службоўцаў, што чэрпаюць свае даходы з бюджэтнай кармушкі.

Пазнаць гэтых людзей нескладана. Гэта яны сёння гучней за ўсіх крычаць наконт неабходнасці захавання законаў і палохаюць абывацеляў каляровымі рэвалюцыямі і танкамі NATO, што нібыта вось-вось гатовыя рушыць на Гродна.

Але не перавяліся яшчэ людзі, якія спрабуюць вярнуць праўдзе яе першапачатковую ўніверсальную прыроду. Прапаную прыслухацца да словаў архіепіскапа Гродзенскага Арцемія (Кішчанкі): «...нельга гуляцца з Праўдай, перакручваць яе на карысць палітычнай мэтазгоднасці. Таму што Праўда — гэта той каштоўнасны феномен і сэнсавая катэгорыя, за якой стаіць — БОГ! І калі Праўда бярэцца ў двукоссі і лёгкім рухам рукі ператвараецца ў хлусню, то зневажаецца Той, Хто — Бацька Праўды! І на арэну выходзіць іншы бацька. Бацька хлусні. Якога, як мы ведаем з Божага слова, завуць — Д'ябал. І яшчэ мы пра яго ведаем, што "Ён быў чалавеказабойцам ад пачатку" (Евангелле ад Іаана 8, 44)».

Рэакцыя з боку АП на такі погляд на праўду не прымусіла сябе доўга чакаць: «Мяне здзіўляе пазіцыя нашых канфесій. Дарагія мае святары, пасталейце ды займіцеся сваёй справай. У храмы людзі павінны прыходзіць маліцца! Цэрквы, касцёлы — не для палітыкі. Туды людзі душой павінны прыходзіць, як гэта было заўсёды».

АП перакананы, што святары пайшлі за адшчапенцамі. Галоўнаму спецыялісту па падзеле беларусаў на чыстых і нячыстых, зразумела, лепш бачна. Для тых жа, хто яшчэ не ведае, спатрэбіцца тлумачэнне: адшчапенцы, разам з пацукамі і уркамі — гэта новая генерацыя грамадзян рэспублікі-партызанкі, што на ўсю моц праявіла сябе падчас электаральнай кампаніі.

У іх шэрагі бліжэйшым часам залічаць і святароў, якія адмовіліся «пасталець». Царква ў Беларусі адасобленая ад дзяржавы, але яна не аддзеленая ад жыцця. У гэтым праблема.

### А дустам не спрабавалі?

У змрочныя часы Сярэднявечча існавала павер'е, што пацукі нараджаюцца з бруднай бялізны. Не ведаючы нічога пра інфекцыйныя захворванні, нашы продкі, тым не менш, заўважылі, што ўслед за пацукамі ў горад прыходзіла чума. Таму пацукі лічыліся вешчунамі бяды і смерці, а прафесія пацукалова была распаўсюджанай і грамадска значнай, хоць і не паважанай гараджанамі.

Чаму Пацукалоў са старадаўняй казкі ходзіць з жалейкай? Не з пасткамі, не з атрутай, а з жалейкай? Пацукі пацукамі, але для пацукалова-музыкі важна было ўздзейнічаць не на пацукоў, а на абывацеляў — адцягваць іх ад паўсядзённых праблем.

Сучасным пацукаловам — з іх цяперашнім наборам музычна-інфармацыйных інструментаў — падпарадкоўваць сваёй волі даверлівых слухачоў, здавалася б, яшчэ прасцей. Абмяжуюся адным прыкладам: «У інтэрнэце хто сядзіць? 60% паказалі сінякі. 60% пастановачныя кадры! 60%! Пройдзе час, мы спакойна вам пра гэта скажам і пакажам. Сёння не час пра гэта казаць, каб не бударажыць людзей».

У дзяржаве для народа, якая прэтэндуе на ролю донара еўрапейскай стабільнасці, людзей бударажыць, безумоўна, не варта. А пацукоў? Як нечакана высветлілася, многія з тых, каго добранадзейныя грамадзяне гадамі прымалі за людзей, насамрэч аказаліся... пацукамі. Гэта асабліва заўважна з ілюмінатара верталёта, калі глядзіш, як яны сабраліся мітынгаваць.

У гумавага дручка існуюць свае перавагі, але чаму б не паспрабаваць дустам? Прэпарат даўно апрабаваны. Сінякоў ён не пакідае.

# Ноч можа стаць доўгай

## Што будзе, калі ва ўладзе застануцца тыя ж людзі

**Рэйтынгавае агенцтва Fitch нядаўна ацаніла магчымыя рызыкі для Беларусі праз пастыбарчую сітуацыю.**




Можна доўга весці палеміку наконт узроўню зніжэння ВУП, глыбіні дэвальвацыі, магчымага абменнага курсу, усплёску інфляцыйных чаканняў. Напэўна, да асцярожных фармулёвак агенцтва варта дадаць, што спыненне доступу да міжнародных рынкаў капіталу, эрозія рэсурснай базы банкаў з-за зняцця дэпазітаў і ўнутраны адток капіталу праз куплю наяўнай валюты могуць рэалізавацца ў поўнамаштабны банкаўскі крызіс, які для пачатку паралізуе працу рэальнага сектара. Падзенне даходаў бюджэту і немагчымасць рэфінансавання дзярждоўгу як на знешнім, так і на ўнутраным рынках, верагодна, запатрабуюць манетызацыі дэфіцыту бюджэту, або, што больш зразумела, «запуску друкарскага станка». Зрэшты, любы больш-менш пісьменны макраэканаміст можа дадаць да гэтага яшчэ мноства страшылак.

Але гаворка не пра гэта. Любая краіна перажывала і будзе перажываць эканамічныя крызісы. Усе яны калісьці заканчваюцца, і тады ўзнікае пытанне: а што далей? І адказ на яго для Беларусі сёння значна важнейшы, чым бягучыя макраэканамічныя выклікі, якімі б яны ні былі складанымі.

Што адбудзецца, калі пройдуць новыя дэмакратычныя выбары, будзе шмат у чым залежаць ад таго, хто стане кіраўніком дзяржавы і якім чынам будзе пераразмеркаваная ўлада паміж яе галінамі. Але галоўнае, што гэта адкрывае цэлы спектр перспектыў, але ці здолее скарыстацца імі краіна, пакажа толькі час.

Аднак спрагназаваць, што адбудзецца, калі ва ўладзе застануцца тыя ж людзі, значна лягчэй. Наступствы згрупаваныя па блоках — выключна дзеля зручнасці, а не па часовых характарыстыках або значнасці для краіны.

### Заняпад IT-краіны

Непрыманне крайняга гвалту і знявагі грамадзянскіх свабодаў прывядзе да масавай міграцыі за мяжу як асобных спецыялістаў, так і кампаній цалкам, пра што было публічна заяўлена ў адкрытым лісце рэзідэнтаў ПВТ. Наўрад ці ўлады пакінуць без увагі і асабістыя выказванні многіх кіраўнікоў кампаній, што толькі паскорыць працэс. Шэраг прадпрыемстваў галіны ўжо заявілі пра частковую рэлакацыю сваіх каманд.

У кароткатэрміновым перыядзе, акрамя скарачэння ВУП, паступлення валютнай выручкі і падаткаў ад прамой працы кампаній, рэзка знізіцца ўнутраны попыт з-за памяншэння выдаткаў айцішнікаў унутры краіны. У даўжэйшай перспектыве — зніжэнне тэхналагічнасці краіны.

### Зніжэнне даступнасці якаснай медыцыны

Яшчэ ва ўмовах нарастання пандэміі каронавіруса пачаў фарміравацца рост незадаволенасці медыкаў як непразрыстымі ўмовамі даплат, так афіцыйным інфармацыйным фонам наконт маштабаў праблемы. Многія медыкі наўпрост сутыкнуліся з траўмамі дэманстрантаў, а непрыманне нечуванай жорсткасці ў дачыненні да затрыманых вылілася ў хвалю абурэнняў. Аднак спроба выказаць сваю пазіцыю наткнулася на фактычнае абвінавачванне з боку міністра ў ігнараванні пацыентаў, пагардзе сваімі прафесійнымі абавязкамі. У гэтых умовах шэраг вядомых лекараў ужо заявілі пра свае звальненні. Верагодна, праз пэўны час гэты працэс паскорыцца, асабліва ўлічваючы попыт на кваліфікаваны медыцынскі персанал у суседніх краінах. Пры гэтым з'язджаць будуць у першую чаргу прафесіяналы, а тыя, пра якіх казаў тады яшчэ міністр Каранік, з большай верагоднасцю застануцца. З улікам ужо наяўнага дэфіцыту медыцынскага персаналу, якасць медыцынскага абслугоўвання пагоршыцца.

### Пагаршэнне якасці адукацыі

Шырокі ўдзел выкладчыцкага складу ў выбарчых камісіях прывёў да фарміравання ў грамадстве стэрэатыпу наконт масавай датычнасці настаўнікаў да фальсіфікацый, што, па сутнасці, азначае недавер да школы. Гэтая пазіцыя ўжо знайшла адлюстраванне ў дэманстратыўным вяртанні ганаровых грамат і дыпломаў выпускнікоў. У атмасферы недаверу (а магчыма, і цкавання) якасна выконваць сваю працу цяжка. Таму выкладчыкі, неабыякавыя да сваёй працы, пачнуць сыходзіць са школы. У ВНУ можна чакаць «палявання на ведзьмаў» з паступовым выцісканнем нязгодных выкладчыкаў.

У эканамічнай навуцы такія працэсы называюцца эрозіяй чалавечага капіталу і, па сутнасці, азначаюць пагаршэнне глабальнай канкурэнтаздольнасці краіны ў перспектыве.

### Крызіс даверу да сілавых міністэрстваў

Каментары наконт прычынаў гэтага, відаць, залішнія. Напэўна, рана казаць пра магчымы рост злачыннасці ў кароткатэрміновай перспектыве. Аднак сфарміраваны вобраз міліцыі як своеасаблівага карнага органа дазваляе прагназаваць рост супраціву патрабаванням органаў аховы правапарадку, у тым ліку і законным.

### Пагаршэнне рэпутацыі судовай сістэмы

Масавыя пастановы пра штрафы і «суткі» за ўдзел у «несанкцыянаваных шэсцях» — фактычна без суда — не дазваляюць казаць пра бесстароннасць судовай сістэмы. Адпаведна, гэтыя рашэнні будуць праецыравацца на ўсю судовую сістэму (у тым ліку і на гаспадарчыя суды), што ў сярэднетэрміновай перспектыве будзе адбівацца на якасці выканання кантрактаў.

### Зніжэнне ўзроўню ўзаемадзеяння ўлады і грамадзянскай супольнасці

Адсутнасць канструктыўнага дыялогу паміж прадстаўнікамі ўсіх узроўняў выканаўчай улады, дэпутатамі з аднаго боку і пратэстоўцамі з другога сфарміравала адчуванне, што ўлада цалкам грэбуе патрэбамі народа. А паколькі размаўляць з тымі, хто цябе не здольны зразумець, бессэнсоўна, колькасць грамадзянскіх ініцыятыў будзе скарачацца, а эфектыўнасць дзеючых (уключаючы, напрыклад, працу бізнес-асацыяцый) будзе зніжаная.

Другі блок характарызуе дэградацыю інстытутаў у краіне, якія закліканыя ствараць умовы для эфектыўнай працы эканомікі і спрыяць яе росту. Паколькі наладжванне працы інстытутаў заўсёды патрабуе доўгага часу, іх разбурэнне затармозіць развіццё краіны на многія гады.

### Няздольнасць улады фарміраваць інфармацыйны фон

Адмова дзяржаўных СМІ ад асвятлення сітуацыі ў краіне на пачатковым этапе і далейшае звальненне супрацоўнікаў з іх на знак пратэсту прывялі да поўнай дыскрэдытацыі дзяржаўных тэлеканалаў і газет. Ключавая крыніца інфармацыі для насельніцтва — гэта некалькі недзяржаўных сайтаў і тэлеграм-каналаў. Аналіз расійскіх сайтаў паказвае, што асноўны кантэнт пры асвятленні сітуацыі ў Беларусі бярэцца не з дзяржаўных СМІ.

### Страта ўрадам камунікатыўнай функцыі

У дадатак да сказанага вышэй, істотна скарачаецца магчымасці ўплыву на грамадскую думку альтэрнатыўнымі спосабамі. Публічныя масавыя заявы дзеячаў культуры і мастацтва, рознага роду селебрыці, як айчынных, так і замежных, фарміруюць негатыўны вобраз улады. Адзін з найбольш балючых удараў — гэта выказванні топавых спартсменаў, што фактычна адбірае ў кіраўніка дзяржавы магчымасць гаварыць пра дасягненні ў галіне спорту. У выніку ўлада губляе магчымасць трансляваць карцінку паспяховасці.

### Адсутнасць пазітыўнага парадку дня развіцця ўрада

Яшчэ ў пасланні да беларускага народа і Нацыянальнага сходу кіраўнік Беларусі трансляваў адмаўленне ад пераўтварэнняў. Паствыбарчая рыторыка наогул становіцца негатыўнай з абвінавачваннем апанентаў улады ва ўсіх праблемах. Найбольш верагодна, што на фоне макраэканамічных пагрозаў, якія сфарміраваліся, урад вернецца да ручнога кіравання эканомікай як да найбольш знаёмага спосабу.

### Абмежаванае поле для эканамічнага манеўру

Акрамя ўнутранага супраціву рэформам ёсць яшчэ некалькі фактараў, якія стрымліваюць магчымасці эканамічных пераўтварэнняў. Па-першае, гэта дэфіцыт прафесіяналаў. Адносна невысокія заробатныя платы і абмежаваныя магчымасці для самарэалізацыі (гл. пункт вышэй) і да гэтага не стваралі перадумоў для захавання высокапрафесійных кадраў на дзяржаўнай службе.

У бягучых умовах, калі многія супрацоўнікі пазначылі сваю грамадзянскую пазіцыю, сітуацыя стане яшчэ больш вартай жалю. Па-другое, банальна адсутнічае давер да ўлады. Большасць даследаванняў сведчаць, што поспех рэформаў шмат у чым залежыць ад узроўню падтрымкі іх насельніцтвам. Ва ўмовах фактычна выказанага вотуму недаверу можна чакаць, што любыя ініцыятывы ўрада будуць падвергнутыя крытыцы. Па-трэцяе, рэформы — рэч затратная. Пры гэтым унутраныя рэсурсы адсутнічаюць, а прыцягнуць знешнюю дапамогу для садзейнічання структурным рэформам бягучае кіраўніцтва, баюся, ужо не зможа ніколі.

Гэта толькі найбольш відавочныя фактары, якія прывядуць да пагаршэння дзяржаўнага кіравання, што негатыўна адаб'ецца як на якасці рашэнняў, якія прымаюцца, так і на здольнасці ўрада ўвасобіць іх у жыццё.

Калі да пазначаных трох блокаў — эрозіі чалавечага капіталу, інстытуцыйнай дэградацыі, зніжэння якасці дзяржаўнага кіравання — дадаць агульную фрустрацыю грамадства, то можна смела казаць, што краіна будзе адкінутая ў развіцці гадоў на 10 назад. Рэалізацыя гэтага сцэнару вельмі негатыўна паўплывае на ўзровень прадпрымальніцкіх ініцыятыў, што заганяе развіццё краіны ў заганны круг, вырвацца з якога будзе вельмі складана.

На сённяшні дзень не ясна, ці разумее бягучае кіраўніцтва, што ёсць рызыка страціць цэлае пакаленне, за кошт якога ёсць магчымасць вырвацца з пасткі сярэдніх даходаў.

Вядома, усё калі-небудзь заканчваецца, і патэнцыял людзей у краіне дазволіць перамагчы тыя наступствы, пра якія гаварылася вышэй. Але ў што абернецца для будучыні беларусаў спроба захавання ўлады, колькі гадоў давядзецца выдаткаваць, каб нагнаць страчанае? Ацаніць гэта вельмі складана, зразумела толькі, што пры цяперашняй уладзе ноч будзе доўгай.

**TUT.BY, пераклад НЧ**

# Сцэнар развіцця падзей, якія ўжо былі

Таццяна ПРОЦЬКА

**Злачынствы і катаванні, ужытыя да беларускіх грамадзян у жніўні, выклікалі ў грамадстве параўнанні са здзекамі 1937 года. Але не толькі катаваннямі падобна тое, што адбываецца сёння ў Беларусі.**




Роля і месца спецслужбаў у палітычных, грамадскіх і эканамічных працэсах, падабенства месца і функцый у дзяржаўнай сістэме Адміністрацыі прэзідэнта і выканаўчых структур КПБ (райкамаў, абкамаў, ЦК), Першага сакратара ЦК КПБ і кіраўніка дзяржавы, Вярхоўнага Савета БССР і Палаты прадстаўнікоў.

Паспрабуем падоўжыць аналогію і прааналізаваць, наколькі мінулае ўплялося ў сучаснае беларускае жыццё, наколькі яно здольнае паўплываць на будучыню Беларусі.

## Які год у дзяржаве?

Як у часы СССР-БССР, так, па словах Лукашэнкі, і цяпер, Беларусь знаходзіцца ў асяроддзі краін-ворагаў. У 1937 годзе да іх належалі капіталістычныя Англія, Францыя, ЗША, Германія, Японія, Польшча, Літва, Латвія. Цяпер — тыя ж самыя краіны Еўрасаюза, ЗША, толькі замест Японіі стала Расія. Галоўныя ворагі для БССР — Польшча, часткова Літва, Латвія. Цяпер, акрамя гэтых краін, да ворагаў усё часцей далучаецца Украіна. «Майдан не дапусцім», «Майданутым не месца ў Беларусі», — ужо стала звычайнай рыторыкай у дзяржаўных СМІ і Лукашэнкі.

Згодна з Канстытуцыяй БССР 1927 года (арт. 2, 3), «уся ўлада ў межах Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі належыць саветам рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў... Носьбітам вярхоўнай улады ў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы з'яўляецца Усебеларускі З'езд Саветаў, а ў перыяд паміж з'ездамі — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саветаў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі». Але рэальнай уладай валодалі партыйныя выканаўчыя структуры — Бюро ЦК, абкамы, райкамы, палітбюро (у Маскве) і структуры органа дзяржаўнай бяспекі — НКУС. Менавіта яны ажыццяўлялі «дыктатуру пралетарыяту», якая стала як сімвалам, так і зместам беларускай дзяржаўнасці. Але беларусы за 20 гадоў панавання савецкай улады сталі крытычна ставіцца да Саветаў як формы народаўладдзя і дыктатуры пралетарыяту ў форме ўсеўладдзя НКУС.

У сучаснай Беларусі аўтарытэт Саветаў і іх уплыў на падзеі ў краіне мінімальны. Галоўнымі дзейснымі органамі з'яўляюцца кіраўнік дзяржавы, Адміністрацыя прэзідэнта і падпарадкаваныя ёй раённыя камітэты, кіраўнікі якіх прызначаюцца Лукашэнкам. Падобная сітуацыя і з органамі дзяржбяспекі — апошнім часам у Беларусі роля іх значна павысілася. Былыя супрацоўнікі КДБ узначалілі ключавыя органы дзяржкіраўніцтва.

Прыхільнікі фарсіраванай індустрыялізацыі і прымусовай калектывізацыі ў першую чаргу кажуць пра 1930-я гады як пра найбольш паспяховы перыяд развіцця савецкай эканомікі. У выніку палітыкі Сталіна памянялася структура эканомікі: доля прамысловасці вырасла ў структуры ВУП да траціны (перад першымі пяцігодкамі яна складала каля 20%). Не менш пазітыўных ацэнак гучыць цяпер з вуснаў прыхільнікаў Лукашэнкі — пра 26 гадоў развіцця пад яго кіраваннем.

20 гадоў знаходжання на кіруючых пасадах Сталіна, яго публічнае праслаўленне выклікалі ў часткі насельніцтва нараканні. Як інфармавалі органы НКУС БССР, людзі ў сваім асяродку скептычна і непаважліва ставіліся да кіраўнікоў партыі («цара скінулі, новы вырас»), расказваюць анекдоты, спяваюць зневажальныя прыпеўкі: «Стаіць Сталін на лугу, гложа конскую нагу, ах якая гадзіна савецкая гавядзіна».

Доўгатэрміновае знаходжанне ва ўладзе патрабуе ад тых, хто займае кіруючыя пасады, не проста дзейнасці, але абавязкова бурлівай і паспяховай дзейнасці. Каб забяспечыць «стабільнае развіццё», у 1937 годзе НКУС значна актывізаваўся і стаў галоўным органам дзяржкіраўніцтва. Яшчэ ў 1920-я гады, калі НЭП «паслалі да чорта», НКУС распаўсюдзіў свой уплыў не толькі на ажыццяўленне кантролю за палітычнай сітуацыяй, але і на кантроль за эканомікай. Чым далей СССР-БССР рухаўся па шляху так званага «сацыялістычнага развіцця», тым больш пашыраўся кантроль за эканомікай з боку спецслужбаў. Нядаўняе прызначэнне на пасаду старшыні КДК былога супрацоўніка КДБ сведчыць, што тэндэнцыі 1937 года паспяхова ўжываюцца і пашыраюцца ў сучаснай Беларусі.

Напрыканцы 1930-х гадоў у СССР пачало фарміравацца своеасаблівае двоеўладдзе: людзі перасталі дакладна разумець, хто важнейшы: мясцовыя партыйныя органы ці мясцовыя аддзяленні НКУС. Сёння падобнага двоеўладдзя не назіраецца — райвыканкамы пакуль не маюць канкурэнтаў з боку беларускіх сілавікоў.

У 1937 годзе словы «Яжоў», «яжовыя рукавіцы», «ГУЛАГ» выклікалі не столькі павагу, колькі сапраўдны жах, які стаў падмуркам савецкага развіцця. Жорсткія дзеянні АМАПу пасля выбараў, што адбыліся 9 жніўня 2020 года, жудасныя ўмовы ў ізалятарах часовага ўтрымання, якія толькі па афіцыйных звестках «паглядзелі» і адчулі на сабе больш за 7 тысяч беларусаў з розных куткоў краіны, сведчаць, што беларускі рэжым таксама пажадаў сцэментаваць грамадства страхам перад уладай.

Падобныя роля і дзейнасць прадстаўнічых органаў у БССР і сучаснай Беларусі. Як і раней, тагачасны парламент — Вярхоўны савет — і сучасная Палата прадстаўнікоў знаходзяцца па-за межамі ўплыву на падзеі. Ім дазвалялася і дазваляецца цяпер толькі ўхваляць зробленае ці кіраўніком партыі, ці Лукашэнкам.

Ёсць яшчэ адно жахлівае падабенства: у тым, якія сродкі выкарыстоўваліся савецкай дзяржавай для вырашэння праблем дзяржаўнага развіцця. Гаворка ідзе найперш пра масавыя жорсткія рэпрэсіі, якія былі разгорнутыя і разгортваюцца ў наш час супраць любога іншадумства практычна ва ўсіх плынях грамадства. Як і раней, рэпрэсіі маюць некалькі мэтаў. Першая: ізаляваць іншадумства, надаць яму ў вачах насельніцтва вобраз палітычнага вычварэнства, злачыннасці, антынароднасці. Другая: запалохаць насельніцтва, асабліва актыўнае, каб нейтралізаваць любыя дзеянні, якія могуць вырасці з іншадумства. Трэцяя: фізічнае вынішчэнне носьбітаў іншадумства. Першая і другая мэты і цяпер, і ў 1937 годзе, маюць аднолькавыя формы, трэцяя мае адрозненне — у 1937 годзе галоўнымі былі выключэнне іншадумнай асобы з грамадскага і палітычнага жыцця праз фізічнае і маральнае вынішчэнне, пазбаўленне яе волі на доўгія гады. Цяпер шляхі больш мяккія: звальненне з працы, стварэнне штучнай немагчымасці знайсці працу, штрафы з канфіскацыяй маёмасці ці без, кароткатэрміновыя тэрміны пазбаўлення волі.

Каб рэпрэсіі маглі праходзіць беспраблемна, былі выкарыстаныя і выкарыстоўваюцца яшчэ дзве формы: адцягванне ўвагі грамадства ад іх ажыццяўлення і стварэнне ілюзіі дэмакратычнага развіцця. Гэта ўвядзенне новай Канстытуцыі, кадравыя змены і выбары.

Савецкі палітычны рэжым вызначаўся даволі высокім узроўнем, як цяпер кажуць, інстытуцыяналізацыі — гэта значыць працэсу ператварэння сацыяльных адносін у сацыяльны інстытут, у форму з усталяванымі (пісьмова ці вусна) правіламі, нормамі, функцыямі. Напрыклад, ператварэнне народных сходаў у парламент; ператварэнне творчай спадчыны мысляра ў філасофскую ці рэлігійную школу; ператварэнне пропаведзяў «прарока» і яго паслядоўнікаў у рэлігію...

У сучасным узаемазалежным свеце палітычныя рэжымы інстытуцыяналізуюцца ў формах, падобных на ліберальную дэмакратыю. Інстытуцыяналізацыя беларускага кіраўніка, аднак, шмат у чым падобная на савецкую. Савецкая інстытуцыяналізацыя ўключала абавязковы элемент — безумоўную, абсалютную электаральную падтрымку. Кандыдат «блока Камуністычнай партыі і беспартыйных» на выбарах не мог атрымаць менш за 90% галасоў. Наяўнасць у беларускім палітычным полі вялікай колькасці савецкіх рудыментаў можна растлумачыць і вынікі апошніх выбараў прэзідэнта — электаральную падтрымку Лукашэнкі нельга было паказаць менш за 80%. Толькі ў гэтым выпадку ён можа выступаць ад імя народа, быць яму, як Сталін, айцом, ці, як цяпер, «бацькам».

Падабенства савецкага мінулага і сучаснага стану беларускага грамадства, эканомікі, палітыкі можна працягваць і надалей. Але што вынікае з гістарычнага вопыту БССР? Як ён уплывае на сучаснасць?

У жніўні 2020 года ў Беларусі адбыўся самы моцны з часу стварэння рэспублікі палітычны крызіс — Лукашэнка згубіў электаральную падтрымку. Дэманстрацыя высокіх працэнтаў галасоў, пададзеных за яго, выклікала незадавальненне і абурэнне ў розных плынях беларускага грамадства. Гэтае абурэнне вылілася ў масавыя акцыі пратэсту. Дзяржава адрэагавала на пратэсты ў стылі 1937 года — незаконнымі масавымі затрыманнямі, збіццём і нават забойствамі. Стаўленне да людзей у ізалятары часовага ўтрымання ў Мінску на Акрэсціна поўнасцю адпавядала сталінскім засценкам, пра якія пісалася ў папярэднім артыкуле (Новы Час №31 ад 21.08.2020).

Але нельга два разы ўвайсці ў адну і тую ж раку. Жорсткасць і публічная знявага — так людзі ўспрынялі абвешчаныя вынікі галасавання — выклікалі зусім не тую рэакцыю, што ў 1937 годзе. Акрамя мітынгаў і дэманстрацый пачаліся страйкі. Дзяржава ў адказ спачатку праз дзяржаўныя тэлефонныя сеткі адключыла інтэрнэт, потым заблакавала найбольш актыўныя і ўплывовыя недзяржаўныя СМІ. Да пратэстоўцаў ужылі жорсткія меры, 5 чалавек загінулі.

Беларускае грамадства дэманстрацыйна падзялілі на прыхільнікаў і праціўнікаў Лукашэнкі, сваіх і чужых. Апошніх — як і ў 1937 годзе — залічылі да ворагаў краіны. Кіраўнік выказаўся пра неабходнасць змены дзеючай Канстытуцыі і правядзення новых выбараў згодна з ужо новай Канстытуцыяй.

Цікава, што Лукашэнка прапанаваў тое, што адбылося ў 1937 годзе. Сталін таксама звязаў выбары ў Вярхоўны Савет СССР з прыняццем новай Канстытуцыі. Канстытуцыі СССР 1936 года і БССР 1937-га замацоўвалі вельмі дэмакратычныя правы і абавязкі грамадзян. Нягледзячы на гэта, самыя масавыя і жорсткія рэпрэсіі прыйшліся на 1937–1938 гады — каб выбары прайшлі спакойна, з правільным вынікам. Перад выбарамі краіну «ачысцілі» ад ворагаў.

Лукашэнка прапанаваў апазіцыі і страйкоўцам у кароткі тэрмін спыніць пратэсты. Ён недвухсэнсоўна даў зразумець, што гатовы да рашучых і яшчэ больш жорсткіх спосабаў спынення канфлікту. Увечары 23 жніўня, па вяртанні ў сваю рэзідэнцыю, ён выйшаў з верталёта ў бронекамізэльцы і з аўтаматам.

Што вынікае з гістарычных паралеляў? Дзеючы палітычны рэжым не існуе без рэпрэсій. Можна сказаць, што рэпрэсіі ёсць сутнасць савецкай сістэмы: як палітычнай, так і эканамічнай ды сацыяльнай.

Рэпрэсіі могуць быць больш масавымі ці менш, жорсткімі і больш лёгкімі, з пазбаўленнем волі і жыцця, ці толькі са звальненнем з працы. Гісторыя сведчыць, што калі пануючы рэжым не зменіцца, Беларусь чакаюць маштабныя рэпрэсіі, якія закрануць усе плыні грамадства. Цяжка сказаць, наколькі яны будуць жорсткія, але аўтамат у руках кіраўніка дзяржавы ў мірныя часы не дадае аптымізму.

Ёсць яшчэ адна асаблівасць таго, што адбывалася. Савецкая сістэма павінна перыядычна ачышчацца — тыя, хто праводзяць рэпрэсіі, раней ці пазней становяцца іх ахвярамі. Наступны крок улады, які нас чакае, — чыстка апарату кіравання: адміністрацыі, сілавікоў, проста міністраў. Незалежна ад былых заслуг і ад стану грамадства. Такі ён — гістарычны аптымізм.

Новы час | 28 жніўня 2020 | № 32(691) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | №8



# Літаратурная Беларусь

Выпуск №8 (168)
(жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест



**ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧЫ!**

**Гэты выпуск — спецыяльны. Ён складзены ў асноўным з папярэдніх публікацый «новачаснай» «Літаратурнай Беларусі» і незалежнага часопіса «Дзеяслоў». Гэта творы, у якіх гучыць спрадвечнае жаданне беларусаў «людзьмі звацца», у якіх выказваецца аўтарскі боль за сучаснае і будучае сваёй Краіны, пратэст і нескароная вера ў перамогу Дабра і Волі.**

**У сённяшнія дні злачыннага ўладнага ліхалецця споведзі катаваных мірных грамадзянаў Беларусі шмат у чым пераўзыходзяць па сваёй шчырасці і трагічнасці многія мастацкія тэксты. Яны — таксама складнік сучаснага духоўнага скрыпторыя.**

**Беларуская літаратура заўсёды была і застаецца выразнікам нацыянальнай ідэі і дзяржаватворчасці. Але друкам і гумавым кулям яна можа супрацьпаставіць толькі пранікнёныя вершы, апавяданні, аповесці.**

**Мінаюць гады, дзесяцігоддзі, а яны, такія творы, на жаль, застаюцца актуальнымі...**

**Але Беларусь — жыве!**

# Час second-hand

## (Канец чырвонага чалавека) Старонкі з кнігі



Святлана АЛЕКСІЕВІЧ

**Мы развітваемся з савецкім часам. З тым нашым жыццём. Я спрабую шчыра выслухаць усіх удзельнікаў сацыялістычнай драмы...**




У камунізму быў вар'яцкі план: перарабіць «старога» чалавека, старазапаветнага Адама. І гэта атрымалася... можа быць, адзінае, што атрымалася. За семдзясят з лішкам гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму вывелі асобны чалавечы тып — «homo soveticus». Адны лічаць, што гэта трагічны персанаж, іншыя называюць яго «саўком». Мне здаецца, я ведаю гэтага чалавека, ён мне добра знаёмы, я побач з ім, поплеч, пражыла шмат гадоў. Ён — гэта я.

Гэта мае знаёмыя, сябры, бацькі. Некалькі гадоў я ездзіла па ўсім былым Савецкім Саюзе, бо homo soveticus — гэта не толькі рускія, але і беларусы, туркмены, украінцы, казахі... Цяпер мы жывем у розных дзяржавах, размаўляем на розных мовах, але нас ні з кім не зблытаеш. Пазнаеш адразу!

Усе мы, людзі з сацыялізму, падобныя і не падобныя да астатніх людзей — у нас свой слоўнік, свае ўяўленні пра дабро і зло, пра герояў і пакутнікаў. У нас асаблівыя адносіны са смерцю. Пастаянна ў расповедах, якія я запісваю, рэжуць вуха словы: «страляць», «расстраляць», «ліквідаваць», «пусціць у расход» ці такія савецкія варыянты знікнення, як: «арышт», «дзесяць гадо ў без права перапіскі», «эміграцыя». Колькі можа каштаваць чалавечае жыццё, калі мы памятаем, што нядаўна гінулі мільёны?

Мы поўныя нянавісці і забабонаў. Усё адтуль, дзе быў ГУЛАГ і страшная вайна. Калектывізацыя, раскулачванне, перасяленне народаў...

Бацька ўспамінаў, што ён асабіста ў камунізм паверыў пасля палёту Гагарына. Мы — першыя! Мы ўсё можам! Гэтак яны з мамай нас і выхоўвалі. Я была акцябронкам, насіла значык з кучаравым хлопчыкам, была піянеркай, камсамолкай. Расчараванне прыйшло пазней.

Пасля перабудовы ўсе чакалі, калі расчыняць архівы. Іх адкрылі. Мы зведалі гісторыю, якую ад нас хавалі...

Людзі чыталі газеты, часопісы і маўчалі. На іх абрынуўся непад'ёмны жах! Як з гэтым жыць? Многія сустрэлі праўду, як ворага. І свабоду таксама. «Мы не ведаем сваю краіну. Не ведаем, аб чым думае большасць людзей, мы іх бачым, сустракаем кожны дзень, але пра што яны думаюць, чаго хочуць, мы не ведаем. Але бярэм на сябе смеласць іх вучыць. Хутка пра ўсё даведаемся — і жахнёмся», — казаў адзін мой знаёмы, з якім мы часта сядзелі ў мяне на кухні. Я з ім спрачалася. Было гэта ў дзевяностапершым годзе... Шчаслівы час! Мы верылі, што заўтра, літаральна заўтра пачнецца свабода. Пачнецца з нічога, з нашых жаданняў.

Бацькі ўжо няма. І я не магу дагаварыць з ім адну нашую размову... Ён сказаў, што ім паміраць на вайне было лягчэй, чым неабстраляным хлопчыкам, якія сёння гінуць у Чачні. У саракавыя — яны з пекла траплялі ў пекла. Перад вайной бацька вучыўся ў Мінску ў Інстытуце журналістыкі. Успамінаў, што калі яны вярталіся з канікулаў, часта ўжо не сустракалі ніводнага знаёмага выкладчыка, усе былі арыштаваныя. Яны не разумелі, што адбываецца, але было страшна. Страшна, як на вайне.

У мяне з бацькам было мала шчырых размоваў. Ён шкадаваў мяне. Ці я шкадавала яго? Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне... Мы былі бязлітасныя да сваіх бацькоў. Нам здавалася, што свабода — гэта вельмі проста. Прайшло трохі часу, і мы самі сагнуліся пад яе цяжарам, бо ніхто не вучыў нас свабодзе. Вучылі толькі, як паміраць за свабоду.

Вось яна — свабода! Ці такую мы яе чакалі? Мы былі гатовыя памерці за свае ідэалы. Змагацца ў баі. А пачалося «чэхаўскае» жыццё. Без гісторыі. Разбурыліся ўсе каштоўнасці, акрамя каштоўнасці жыцця. Жыцця наогул. Новыя мары: пабудаваць дом, купіць добрую машыну, пасадзіць агрэст... Свабода аказалася рэабілітацыяй мяшчанства, звычайна замардаванага ў рускім жыцці. Свабодай Яго Вялікасці Спажывання. Велічы цемры. Цемры жаданняў, інстынктаў — патаемнага чалавечага жыцця, пра якое мы мелі прыблізнае ўяўленне. Усю гісторыю выжывалі, а не жылі. А цяпер ваенны досвед ужо не патрэбны, на яго варта было забыцца. Тысячы новых эмоцыяў, станаў, рэакцый... Неяк раптам усё вакол стала іншым: шыльды, рэчы, грошы, сцяг... І сам чалавек. Ён стаў больш каляровым, асобным, маналіт узарвалі, і жыццё рассыпалася на выспачкі, атамы, ячэйкі. Як у Даля: свабода-воля... волечка-раздолечка... абшар. Вялікае зло ператварылася ў далёкую легенду, у палітычны дэтэктыў. Ніхто ўжо не казаў пра ідэю, казалі пра крэдыты, адсоткі, вэкселі, грошы не зараблялі, а «рабілі», «выйгравалі». Ці надоўга гэта? «Няпраўда грошай у рускай душы невытручальная», — пісала Цвятаева. Але быццам ажылі і разгульваюць па нашых вуліцах героі Астроўскага і Салтыкова-Шчадрына.

Ва ўсіх, з кім сустракалася, я пыталася: «Што такое — свабода?» Бацькі і дзеці адказвалі па-рознаму. У тых, хто нарадзіўся ў СССР, і тых, хто нарадзіўся не ў СССР, няма агульнага досведу. Яны — людзі з розных планет.

Бацькі: свабода — адсутнасць страху; тры дні ў жніўні, калі мы перамаглі путч; чалавек, які выбірае ў краме са ста гатункаў каўбасы, вальнейшы, чым чалавек, які выбірае з дзесяці гатункаў; быць нябітым, неадхвастаным, але неадхвастаных пакаленняў нам ніколі не дачакацца; рускі чалавек не разумее свабоду, яму патрэбен казáк і бізун.

Дзеці: свабода — каханне; унутраная свабода — абсалютная каштоўнасць; калі ты не баішся сваіх жаданняў; мець шмат грошай, тады ў цябе будзе ўсё; калі ты можаш жыць так, каб не задумвацца аб свабодзе. Свабода — гэта нармальна.

У грамадстве з'явіўся попыт на Савецкі Саюз. На культ Сталіна. Палова маладых людзей ад 19 да 30 гадоў лічыць Сталіна «найвялікшым палітычным дзеячам». У краіне, у якой Сталін знішчыў людзей не менш, чым Гітлер, новы культ Сталіна?! Зноў у модзе ўсё савецкае... На тэлебачанні дзясяткі перадачаў, а ў інтэрнэце дзясяткі «савецкіх» настальгічных сайтаў. У сталінскія лагеры — на Салаўкі, у Магадан вы можаце патрапіць турыстам. Рэклама абяцае, што для паўнаты адчуванняў вам выдадуць лагернае адзенне, кірку. Пакажуць адрэстаўраваныя баракі. А ў канцы арганізуюць рыбалку...

У Расіі адраджаюцца старамодныя ідэі: аб вялікай імперыі, аб «жалезнай руцэ», «аб адмысловым рускім шляху»... Вярнулі савецкі гімн, ёсць камсамол, толькі ён называецца «Нашы», ёсць партыя ўлады, якая капіюе камуністычную партыю. У Прэзідэнта ўлада, як у Генеральнага сакратара. Абсалютная. Замест марксізму-ленінізму — праваслаўе...

Перад рэвалюцыяй сямнаццатага года Аляксандр Грын напісаў: «А будучыня неяк перастала стаяць на сваім месцы». Прайшло сто гадоў — і будучыня зноў не на сваім месцы. Настаў час second-hand.

**Пераклад з рускай**
**Валера Стралко**

# Крыж Акрэсціна

Кастусь РАМАНКЕВІЧ

**Да мяне сёння ноччу прыйшоў Акрэсцін. Да гэтага я з ім знаёмы не быў, толькі прозвішча на слыху круцілася. Але вось прыйшоў, на канапку прысеў, сядзіць — як жывы. Геройская «Залатая Зорка» матава паблісквае, а ён кабінет мой разглядвае.**

Раблю выгляд, што сплю, — і пачынаю ўзгадваць. Завуць, здаецца, Барыс, масквіч. Сталінскі сокал, ліха раздзіраў лютага ворага на сваім штурмавіку. За прыгожыя вочкі, «бабкі» ды выкананне падрадаў на будаўніцтва паўднёвых мастоў у той час яшчэ «Герояў» не давалі. Класна ваяваў гвардыі старшы лейтэнант, ды вось спатыкнулася франтавая ўдача шостага ліпеня сорак чацвёртага года недалёка ад Мінска. Барыс Сямёнавіч загінуў геройскай смерцю, накіраваўшы сваю ахопленую полымем машыну на скопішча тэхнікі і жывой сілы праціўніка, як пазначана ва ўзнагародным дакуменце. Бабах! І паляцела яго дваццаціаднагадовая несмяротная душа ў вечнае і бяздоннае сіняе неба, а прозвішча — у вечную памяць нашчадкаў і ў назву сквера, вуліцы і завулка беларускай сталіцы.

— Паслухай, — загаварыў мой незвычайны візіцёр, — прачынайся ўжо, пісьменнік, так і жыццё праспаць можна. Што, да цябе кожную ноч госці з таго свету прыходзяць? Прачынайся, дапамога патрэбная.

Я канчаткова агоўтаўся, праціраю зенкі, абдумваю, як сябе трэба паводзіць з такімі гасцямі. Па-першае, Герой, па-другое, як бы гэта выкрутліва выказацца, не зусім чалавек... Прызнаюся, заўсёды ніякавеў перад геройскай зоркай, а тут яшчэ і на грудзях тагасветнага, так бы мовіць, суб'екта. Ну, думаю, будзе што будзе: набраў поўныя лёгкія паветра і адказваю:

— Не зразумеў, якія праблемы? Ты ж герой! Цябе ж ушаноўваюць, магілка пашанотная — як мае быць, сквер, вуліцу і завулак у твой гонар назвалі, дзяжурныя кветкі ў траўні прыносяць...

— Эх, таварыш палкоўнік! Не грэе гэтакая пашана маю лётную душу. Я ўжо дакладна ведаю, што праблема мая ў будынку 36-А майго завулка. Як бы прозвішча маё з назвы адвесці?

— Цікавая ў цябе прапанова. Думаю, з гэтым пытаннем табе ў мэрыю трэба, яны там, здаецца, за пераназванні адказныя. А з чаго ты ўзяў, што ў гэтым прычына твайго душэўнага неспакою?

— Мне мужыкі з пекла — мы з імі часам у адной сталоўцы харчуемся — казалі, што калі такое зрабіць, то раўнавага ўва мне можа наладзіцца. А яшчэ нашы ледзь не ў адзін голас цвердзяць, што страшнае гэтае месца для жывых людзей. Ды і мне самому неяк няёмка. Ледзь хто скажа, што я Акрэсцін, так дўшы суседнія папрыціхнуць адразу, — і бачком, бачком, ад мяне далей, быццам я да таго месца якое дачыненне маю, а многія і напраўду думаюць, што я ледзь не родапачынальнік яго. А я ні сном, ні духам, я ж лятун, чалавек неба і вораг фашызму!

— Так, сапраўды, — адказваю, — добрага мала. Шчыра скажу, у Мінску, ды і не толькі, прозвішча тваё кроў марозіць.

— Вось і я аб тым. Пайшоў па сябрах, па начальству, да самога Ключніка Пятра дайшоў. Ён паткліцу чухае, тэлефануе кудысьці, а потым і выдае: маўляў, у нас па табе поўны ажур, зямныя нешта там, як заўсёды, накасячылі. Ляці ты, брат, на месца пахаванняў, там хутчэй праўду адшукаеш. Словам, не той завулак табой назвалі, дакладней, няправільны будынак там узвялі, не па тваім лётным ведамстве.

— А што ж гэта за будынак такі? — у Апостала пытаюся. — Там, унізе, усе дамы для жыцця і працы будаваліся, наколькі я памятаю.

— Яно то так, — адказвае Пётр, — але часам з таго будынка да нас даўжэзная чарга стаіць, толькі брамку паспявай адчыняць. Так што ляці, шукай там народ з жывых, хто зможа дапамагчы саскрэбці тваё імя з крывавай сцяны. А можа, хто з іх і іншае што падкажа. Дык вось я, Мікалаевіч, што называецца, і дэсантаваўся. І тут, сярод вас, блукаю.

— І дзе ж вы ўжо пабывалі, Барыс Сямёнавіч?

— Ды які я Сямёнавіч? Малады яшчэ, маладым, як вядома, паміраць не страшна, а душы не старэюць, па сабе ведаю. Дзе быў? Дык як я даведаўся, што там турма, наўпрост туды. Лепш бы вочы мае невідушчыя гэта і не бачылі. Нампаліты ды тыя, каго з палону на фронт пусцілі, а не ў нашыя лагеры дагніваць адправілі, расказвалі пра зверствы нацыстаў і паліцаяў. Мы слухалі, ды не асабліва верылі, а тут сам сведкам стаў. Так што давялося наглядзецца, што там з народам твораць, валасы бесцялесныя на галаве варушыліся. І форма не нашая, і морды пад маскамі, а галоўнае — лупцуюць з заўзятасцю, з азартам, з мацюкамі і смехам. Напачатку думаў: можа, ворагаў дапытваюць, а прыглядзеўся — не, так, сабе ў ахвоту і, відаць, па волі ці па бязвольлі начальства. Там і дзеці былі, і хлапчукі, і дзяўчаты, дык і іх таксама — гумовымі дручкамі, толькі косткі кволенькія трашчаць. Не дай табе Бог такога ўбачыць! Я і цяпер як успомню, дык дрыжыкі бяруць. І шмат, ой шмат там пабітых было. Гэта ж я на зямлю акурат ноччу дзясятага жніўня заявіўся. Кананада тады над цэнтрам горада стаяла, аж вокны дрыжэлі. Я ўжо грэшным чынам падумаў, ці не вярнуліся фашысты ў Мінск, ці які дэсант карнікаў высадзіўся. Палётаў там над Свіслаччу, добра, што бесцялесны, а то б збілі нахрэн у другі раз. Дзіка мне было, ці за тое мы ваявалі, ці за тое гінулі ў свае маладыя гады, каб беларусы беларусаў, як гестапаўцы, палкамі білі, газамі труцілі ды гумовымі кулямі адстрэльвалі. Журботна мне, Мікалаіч, стала. Дадому, на той свет захацелася, адно ўтрымала: Пётр другі раз брамку не адчыніць і сюды больш не пусціць, і застануся да другога прышэсця з чужым таўром Каіна. Дык вось, рабіць няма чаго, і паляцеў я ўжо на гэтым свеце праўды па начальству шукаць. Спачатку падаўся ў Жоўты дом, па старшынстве, значыць. НКВД у такіх справах заўсёды галава.

— Ну гэтыя ж пры чым? — спрабую запярэчыць, аказваецца, дўшы — народ зацяты.

— Ты, кажаш, пры чым? Ды пры ўсім. У нас там Судаплатаў з Бабковым такія пазнавальныя лекцыі ў нядзелі закочваюць, што ажно анёлы з чарцямі вылазяць са сваіх непрымірымых зонаў паслухаць. Але самае пацешнае, калі Мюлер з Андропавым сабачыцца пачынаюць. Тут ужо ўсе ўсё кідаюць — і на майдан.

— Пачакай, і ў вас там майдан маецца? — шчыра здзіўляюся я.

— А як без майдана? Гэта ж плошча паміж Раем і Пеклам. На ёй па святых днях вельмі вялікія начальніцкія душы, не на ўзор вашых, выступаюць. Карацей, не перапыняй мяне. Прылятаю ў Жоўты дом і адразу да галоўнага, а таго няма, на дакладзе, кажуць. Я да намесніка — ад варот паварот, дзверы зачыненыя. Усе на «палетках». Адшукаў я нейкага палкоўніка, пытаюся пра сваю бяду. Той і слухаць не хоча, маўляў, я ні я і хата не мая. А сам цішком запросік у архіў, ці не стукачок я. А што — не дрэнна ж на тым свеце сексотаў мець і начальству адрапартаваць аб адноўленай вярбоўцы. Аднак і мы не лыкам шытыя! Душа — яна і ў Афрыцы душа, і бачыць усё, і чуе, і ведае, што будзе, і подумкі людскія чытае спакойна. Кажу свайму суразмоўцу: «Супакойся».

Асабісцік у нас добры быў, мы яго як на салдаціку з хлебарэзкі ў афіцэрскай сталоўцы злавілі, дык ён толькі пад нашу дыктоўку даносы пісаў. Потым, малайчына, выправіўся, дзяўчыну завёў з медсанбата. Загінуў, шкада, пры налёце на аэрадром. Дык што, не дапаможаш, пытаю ў яго. Не, гаворыць, не магу, ідзі да Чорнага, гэта яго зона адказнасці. Дзякуй, кажу, на добрым слове. Толькі ты хоць бойню на вуліцах спыні. А ён зноў рукі разводзіць: не магу, не мая епархія. Тут вышэй звяртацца трэба. Мы што... мы замуцілі, усё што трэба заплялі, страху на ворага нагналі, а ворагі — яны ж ёсць заўсёды і ўсюды, на Захадзе і на Усходзе. Калі дзе й няма, дык мы іх ураз выявім. Ёсць у нас і такія клоўны. Агентуру і даверaных асобаў паднялі ў масы, а самі вось сядзім, назіраем, сігналізуючы, што ды як. Ты хоць ведаеш, як наша старая эмблема расшыфроўваецца?

— Не, — адказваю, — я ж з першага дня толькі «крылцы» насіў.

— Эх ты, душа твая матёрная. «Сядзі ў кустах і чакай героя»!

— Хацеў я было запярэчыць, што за кусты сценку хутчэй даюць, а не героя, але з прыкрасцю махнуў рукой і падаўся да Чорнага. Аказалася, што той не толькі душой чорны, але яшчэ і не надта разумны. У яго на той момант быў адзін клопат: дзе і чаго ўзяць, якой бадзягі, каб сінякі з пабітых змыць. Якім пластылінам дзіркі ў целах пакалечаных заткнуць. Нават вунь спрабавалі Хрыста вы́клікаць, каб трохдзённых уваскрасіў. Яны завуць, а Гасподзь не ідзе. Не Божая гэта справа. А Нячысцік — тут як тут, так і круціцца, ды і давай яму нашэптваць, маўляў, закапай, закапай іх, Чарнушка, ці спалі ў крэматорыі, а то знойдуць забітых — віску грамадскага будзе, як пры стрыжцы свіней, а то глядзі і з крэсла скінуць. А генерал, па тупасці сваёй, пачаў самому Чорту агрызацца. Гляджу я, зусім мянты ў вас страх страцілі і барзатой парaслі.

— Не бойся, Чарціла, — рыкнуў галоўны па дручках, — пакуль Сам на месцы сядзіць, мяне нікуды не папруць. А ён яшчэ сядзець доўга будзе, яго ўсходнія браты ніколі не здадуць, ён дзеліцца. Эх ты, рагаты! Адышоў бы лепш, тут і без тваёй серы дыхаць няма чым. Ты нават і ўявіць не можаш, як цяжка Яму народ газам паліваць, сам дні тры чыхае, і вочы слязяцца. А гумовымі кулямі ці проста расстрэльваць? У іншым выпадку раз па пяць паліць даводзілася, пакуль якую пігаліцу з коскамі зваліш. Байцам жа за сябе соромна. Што — яны лохі якія? Ды і плячо ад аддачы баліць.

— Бачу, кашы з ім не зварыш, — працягвае лётчык-герой Акрэсцін. — А за такія размовы з Вельзевулам гарэць яму са сваімі змоўшчыкамі ў вечным агні, ды і тым, хто побач стаяў, не паздаровіцца. Павярнуўся я і скразануў на самы рэспубліканскі верх, абмінаючы народных абраннікаў. Ды і якія яны абраннікі, так, канкурсанты. У райвыканкаме конкурс выйгралі, пайшлі ў вобласць, вобласць праскочылі — спісы на вуліцу Карла Маркса, там іх прамікраскапілі, Галоўнаму прынеслі, той асабіста з лупай прагледзеў, зацвердзіў, — можна і ў бюлетэні, і на галасаванне. Вось так і выбіраліся... Ну, Мікалаевіч, я табе скажу, патуляўся я, пакуль усе афіцыйныя рэзідэнцыі абляптаў, адразу відаць, вельмі сціпла ў вас жывуць, так бы мовіць, кроў з крыві ад свайго народа, што як пацукі разбягаецца. Словам, апынуўся, у рэшце рэшт, у галоўным дамішчы, на палац усекітайскіх сходаў падобны. Там зусім спалохаўся: дзе тут чалавека адшукаеш, тут знішчальны полк схаваць можна. Гляджу, а мне насустрач Берыя з Цанавам ідуць. Я ў струнку і заціх. Міма прайшлі, нават брывамі не павялі. Ну, думаю, цьфу-цьфу. Ажно не, маршал спыніўся, павярнуўся, пенснэ бліснула, — і пытаецца:

— А чэго эта ты, старлей, тут ходыш, што, таго свэта мала?

— Аніяк не, Лаўрэнцій Паўлавіч, мне той свет мілы і прыемны, нашмат лепш, чым тут. Я па дазволу галоўнага Ключніка, «касяк» зямны трэба выправіць, Галоўнага Тутэйшага шукаю.

— Ох, братэц, хрэн ты яго найдзёш. За трое сутак мі не знайшлы. Справа ў нас сэр'ёзная, сам Сталін да нэго паслаў. Знаеш, Лэнін сэр'ёзно болэн, Іосіф Вэсарыонавіч на всэм хозайствэ, сваіх збырае. Даручэнне Тутэйшаму павінны былі пэрэдаць, але так і нэ знайшлы его. Што дакладываць будэм, нэ знаю. Зашылся он нэдзе, не выходыт. Дэло швах. Што за чэлавек, гастэй развэ так встрэчают? — павярнуўся і пайшоў. Цанава яму давай нешта нашэптваць на вуха. Берыя яшчэ раз спыніўся і павярнуўся. — А што ў тэбя за пытанне, гэрой? Можа, мі паможэм?

— Напраўду, Мікалаевіч, я ўзрадаваўся, коратка ўсё выклаў, стаю і чакаю. Яны падышлі бліжэй, параіліся і пачалі разважаць.

— Вы маеце рацыю, таварыш маршал, тое месца лепш так назваць, аднак Фелікс Эдмундавіч мяняцца не стане, заўпарціцца. Потым, зноў-такі, праспект мінскі на завулак — няроўны абмен. Там яшчэ Жукава праспект ёсць, але гэты лейтэнанта і ва ўпор бачыць адмовіцца. Ды і да вас яго стаўленне якое — самі ведаеце. Тут штосьці іншае трэба.

— Ну так думай, думай, Лаўрэнцій Фаміч. Нада жэ чэлавэку памоч. А можа, гэты пэрэулак твоім імэнэм назваць? Памятаецца, вы тут з Панамарэнкам нэ дрэнна папрацавалі.

— Не, мной назваць пабаяцца. Скажуць, з завулка Цанавы пачнеце, а плошчай Берыі скончыце.

— Катэгарычэскі нэт, плошчай імэні таварыша Сталіна. Але не пра нас рэч.

— Так-так. Я, Лаўрэнцій Паўлавіч, думаю, трэба пакінуць рашэнне гэтага пытання на сумленні саміх гараджан.

— Як эта?

— Хай збяруць подпісы пад петыцыяй і запатрабуюць рэабілітаваць сумленнае імя баявога лётчыка, ачысціць, так бы мовіць, героя ад брыдоты катаванняў і здзекаў. А завулак з домам 36-А перайменуюць. Хай яго назавуць імем якога-небудзь заўзятага нягодніка, скажам, з МУС, або завулак Катавальны, а можа, імя АМАПу, таксама добра гучыць. Але мне асабіста Катавальны вельмі падабаецца. Я гэты дом і завулак добра памятаю, там яшчэ мае, заплечных спраў майстры, пачыналі працаваць. Тады таксама, таварыш наркам, калі памятаеце, у асноўным бязвінных плюшчылі. Не думаў, што нашыя традыцыі на гэтай зямлі, а галоўнае, у мазгах кіраўніцтва так моцна прыжывуцца.

— Так што, гэрой, всэ твае на тэбэ. Шукай, хто эта завострыць, шум, можэт, падымэт. Сам думай, а вэрнэшся, прыхады, віна харошэго вып'ем, пагаварым. — І, паляпаўшы сваёй спадарожніка па плячы, міралюбна дадаў: — Пайшлі, Цанава, а то апяць да раніцы пад варотамі стаяць будзем.

— Дык вось яно і рашэнне, — узрадаваўся я і сарваўся з ложка, — ка́ты табе яго, дарагі візіцёр, і падказалі, ці трэба было з-за гэтага на грэшную зямлю перціся, яшчэ якую заразу на той свет прыцягнеш?

— Падказалі то падказалі, але ж я да Шчорса сам не пайду за сябе прашэнне пісаць. Не па-афіцэрску, ды і пісаць няма рук.

— Там ужо Шчорса няма, там Сіўлак пануе. Дык мне што — ад сябе па гэтым пытанні на імя мэра паперу напісаць? Аднак, думаю, не паверыць, што мы з табой вось так папросту размаўлялі...

— Ды не, заяву пісаць не трэба. Ты аповед напішы, ты ж пісьменнік, апублікуй яго, а народ, калі памяць у ім пра герояў жывая, няхай сам і вырашае, як і што рабіць. Навошта яму чужое дзярмо на маіх пагонах. Ну дык як — напішаш?

— Напішу, — адказаў я і прачнуўся. У пакоі цішыня, гадзіннік цікае, лёгкі пах авіяцыйнай газы ледзь казыча ноздры, — і толькі на душы чамусьці трывожна.

# Прыпавесці



Васіль БЫКАЎ



Фота www.pixabay.com

## ГЕРОЙ

Племя тэрарызаваў Дракон.

Дзе ён жыў-пасяляўся, ніхто не ведаў, — можа, дзе блізка, а можа далёка, можа, не на зямлі нават. Але ён дапякаў племю штогод. То хапаў у полі маладых дзяўчатаў, а то і хлопцаў, то дашчэнту вытоптваў пасевы, то бурыў халупы. А то насылаў на племя свой драконаўскі мор, калі ў полі не вырастала нічога, і племя трывала люты голад. Як было бараніцца ад таго зверыядаўца, ніхто не ведаў. Праўда, здавён часу было заведзена ахвяраваць. У пэўны вясновы дзень, як пачыналі сачыцца маладым сокам бярозы, старэйшыны родаў збіраліся ля трох камянёў на Дубовым капішчы і выбіралі Героя. Ахвярай яго не называлі, тое не было прынята, называлі ласкава і спаважліва Героем. Героя пасылалі ў ахвяру Дракону, які затым, і праўда, прыціхаў на колькі часу, пераставаў назаляць племю. На палёх спеў ураджай маісу і кукурузы, сыцеў статак. Дый хваробы быццам адкарасквaліся ад людзей. Але толькі на пэўны нядоўгі час. Між тым племя шанавала чарговага Героя-ахвяру. На капішчы яму ладзілі помнік — высока пілавалі самы тоўсты дуб і з таго мажнага пня высякалі чалавечую выяву. То была складаная праца, і давяралі яе самым майстравітым людзям, самым шчырым і адданым вернікам. Такіх пнёў-ідалаў на капішчы за гады набралася ўжо некалькі тузінаў, усе ссечаныя дубы, груба, але выразна аздобленыя людскімі абліччамі. Яны ўважаліся за святых, дужа шанаваліся. У іхні гонар спраўлялі імшу — напачатку лета, па заканчэнні палявога сезону, пасярод зімы. Ім таксама ахвяравалі, але не мужчынаў, якіх у племені ўсё ж шанавалі за іх рабочыя рукі, а найбольш з дзяцей — хлопчыкаў ці дзяўчынак. Тых, каму карцела ахвяравацца, бо тое было прыгожа — з вянкамі на галоўках, пад радасныя спевы наўкола. Ахвотнікаў і ахвотніц было нямала, выбіралі самых прыгожых і беззаганных у паводзінах. А таксама ад лепшых бацькоў, горшая таго не заслугоўвалі. Горшыя гаравалі пад драконаўскім прыгнётам — рабілі ў полі, пасвілі жывёлу, няньчылі малодшых. Абраныя разам з дымам узносіліся пад аблачыны, дзе было іншае, райскае жыццё. Разам з Героем іх таксама шанавалі шэраг наступных гадоў. Аж пакуль не з'яўляўся наступны Герой. Тады ўсё племя пераключалася на шанаванне таго, новага.

Хлопец Кім сапраўды быў самы дужы і, можа, самы смелы сярод немалой юначай грамады племя. І яшчэ ён дужа добра спяваў. Мабыць, менавіта таму, як з'явілася чарговая патрэба ахвяравання, выбар старэйшынаў патрапіў на яго. А патрэба сталася дужа пільная — ужо з вясны Дракон тройчы абрынаў свой гнеў супраць племя — найперш ушчэнт засушыў палеткі, пасля наслаў на іх град, і напаследак задушыў у ваколіцах трох маладых дзяўчатак. Старэйшыны меркавалі, што тое – не астатняе ў той год драконава злачынства, неўзабаве трэ чакаць новых. Бо ўжо другі год не ахвяравалі, не пасылалі да Дракона Героя.

Як сказалі Кіму, што сёлета ягоная чарга, хлопец узрадваўся гэткаму памяркоўнаму выбару. Тым болей, што ён ужо ведаў, з якога дуба будзе змайстраваны помнік яму — той самы высокі дуб ля скрыжавання дзвюх сцежак на капішчы быў бачны здалёк.

Праводзілі Героя ціхмяным летнім адвячоркам, як людзі папрыходзілі з поля. На капішчы расклалі вялікае вогнішча, наўкола якога сабралася ўсё племя. Галоўны і самы стары святар зычна пракрычаў заклцці на чатыры бакі свету. Усе радаваліся, будучы ўпэўненыя, што ўжо цяпер Дракон надоўга ўціхамірыцца, а Кім шчасліва ўвасобіцца ў пашаноўнага дубовага Ідала. Радаваліся бацькі Кіма, яго два малодшыя браты, якім стала наканавана зрабіцца роднымі братамі Героя; яны таксама гатовыя былі ў свой час пераняць ягоны прыклад. Радавалася каханая дзяўчына Кіма. Хоць, вядома, расстань — справа нялёгкая, але ж то расстанне не абы з кім — з Героем! Толькі Кімава маці не адчула вялікай радасці, дык то ж — маці. Не надта свядомая, абцяжараная матчынымі забабонамі, яна была бясільная перад самотай разлукі. Маці сама ад таго пакутвала, ды не магла перамагчы сябе.

Як змерклася, Кім узяў свой вострьі меч і, адышоўшы ад вогнішча, знік у цемрыве ночы.

Племя занялося спрадвечнымі, звыклымі для сябе справамі. Праз колькі дзён узялося ладзіць дуб-помнік. Тры майстры за тры дні ссеклі той самы высокі дуб, абсеклі голле і з вяршыні высокага камля пачалі высякаць знаёмыя рысы Героя. Атрымалася ўвогуле падобна да яго аздобы, хоць тое было і не абавязкова. Галоўнае, каб было мужна, гераічна і прыгожа. Але што да Кіма, дык тут нічога прыўкрашваць і не было патрэбы. Ідал-помнік атрымаўся выдатны. Ці не самы лепшы сярод усіх іншых — старых і нядаўніх, якія цеснаю купкай высіліся на капішчы. Найстарэйшыя з іх, праўда, паволі страчвалі сваё былое хараство, чарнелі, трэскаліся, некаторыя нават трухлелі. Але тое зразумела — ім даўно ўжо не ахвяравалі маладых і патроху забываліся на іх. Уся ўвага і любоў племя засяроджвалася на апошніх.

Апошняя ахвяра, здаецца, была прынятая Драконам (значыцца, Кім дагадзіў, выбар старэйшынаў быў правільны), напады на племя спыніліся. За паўгода не было ніводнага ўваравання, ніхто на полі не быў схоплены. Ураджай выспеў зусім неблагі. Увосень, як сабралі маіс і кукурузу, племя наладзіла ўрачыстую фэст у гонар апошняй, гэткай здатнай ахвяры.

І раптам аднойчы на сконе дня ў паселішчы паявіўся Кім.

Быў ён схуднелы, абдзёрты, босы, але ўсё з тым жа мячом у похвах, які яму ўручылі старэйшыны, і паведаміў, што забіў Дракона.

Тое было нечакана, нечувана і збянтэжыла ўсіх. Племя не ведала, як да таго аднесціся — ніколі раней нічога падобнага ў іх не здаралася. Ніхто не шкадаваў Дракона, людзі гатовыя былі парадавацца з нечуванай нагоды. Але гэтая навіна бурыла ўсю іерархію, блытала гісторыю, пляжыла веру, заснаваную на пэўным суіснаванні са злой варожаю сілай. Забойства Дракона будзіла ў душах людзей нестрываны страх: як бы цяпер не стала горш. Калі і праўда Дракон апынуўся забітым, ці не навáляцца на племя новыя жахлівыя выпрабаванні якой іншай злой сілы?

Зноў жа — што рабіць цяпер з выдатна зладжаным і ўжо ўшанаваным чурбаном-помнікам?

Нечаканае вяртанне Кіма выклікала вялікую узрушанасць усяго племя, але найбольшую — сярод родзічаў і крэўных Героя. Маці спярша ўзрадвалася, а затым аж спалохалася тае сваe радасці. Бацька схапіўся за галаву. Два браты Кіма адразу яго ўзненавідзелі — гэтак спляжыць усё сваё ды іхняе, вынашанае за год геройства! Каханая спахмурнела — яна адчула сябе ашуканай: каханак быў Героем, а стаў немаведама кім. Дні і ночы ён задуменна сядзеў у халупе, ні з кім не спатыкаўся, ранейшыя сябры пакінулі яго. Усе яго адцураліся. І нават Ідал-помнік без належнай ласкі і пашаны пачаў чарнець, трэскацца, яўна бурыцца. Таго, вядома, дапусціць было нельга.

Старэйшыны племя сабраліся ля трох камянёў на капішчы, вырашалі, як быць? Справа была сур'ёзная, трэба было прыняць неардынарнае вырашэнне. Належала выбраць адно з двух — ці Герой, ці ягоны помнік. Пасля нядоўгай дыскусіі вырашылі, што помнік усё ж даражэй. Ягонае захаванне не запатрабуе перарobкі іерархіі, не пабурыць традыцыяў. А Герой Кім? Героі яшчэ знойдуцца, калі будзе ў тым патрэба.

Герой Кім знік. Казалі, пайшоў у лес і не вярнуўся. Можа, утапіўся ў дрыгве, а можа, яго задралі звяры. Дракон жа таксама знік, падобна, сапраўды быў забіты, і пра яго паступова забыліся. Гэтаксама, як і пра Героя Кіма.

Дубы-ідалы не знікалі доўга, аднак шанавалі іх усё з меншым імпэтам. Мабыць, не было ў тым патрэбы.

А пасля перасталі і зусім.

## ЧОРНАЯ СІЛА

Тады ў краіне панаваў тэрор. Шмат каго вешалі, ссылалі, расстрэльвалі. Бальшыню саджалі ў вязніцы. Каго на восем гадоў, каго на дзесяць ці дваццаць пяць. Тых, хто скардзіўся, плакаў ці ад болю крычаў на допытах, саджалі назаўжды. Іх плач-енк уважаўся за пратэст ці знявагу працавітых карных органаў. Карныя органы дужа пільнаваліся адмысловага гонару і не трывалі знявагі.

Усе арыштаваныя прызнаваліся ў чым хочаш. У чым іх змушалі прызнацца. Быццам хацелі знішчыць дыктатара, атруціць суседзяў, утапіць жонку і дзяцей. Тое выклікала здзіўленне на волі, дзе не маглі даўмецца, чаму яны так робяць. Але во тых, што нядаўна яшчэ прызнаваліся ў самым жахлівым, началі выпушчаць на волю. Тое таксама было загадкава і таямніча. Адзін толькі Упарты Маўклівец з паддашша ведаў, што то скончыўся чорны касмічны цыкл, калі магчыма было ўсё. Усё, што захоча чорная сіла, якая панавала ў космасе. А чорная сіла заўсёды хацела шмат — часам дзівоснага і неверагоднага.

Так і тады. Настала пара выпушчаць тых, што ацалелі ад тэрору. І яны вярталіся — састарэлыя і хворыя — да сваіх не менш састарэлых ды хворых жанок і дзяцей. А то й да бацькоў, калі бацькі дажылі да таго нечаканага вяртання. Цяпер яны ціха апавядалі паначы, што невінаватыя, што прызнацца іх змусілі. Бо білі, катавалі, казалі, быццам родзічы ад іх адмовіліся, а жонкі здрадзілі. Яны сапраўды гады гэтак думалі. Толькі Упарты Маўклівец ведаў, што пад арыштам яны думалі інакш. Хто раней, хто пазней — шматлікія з іх паверылі следчым, што вінаватыя, і павініліся ў тым. Зрабіць тое ад іх дамаглася чорная сіла, якая запанавала ў грамадстве, і чалавеку нічога болей не заставалася, як скарыцца і павініцца. Што яны і зрабілі. Пра ўсё тое Упарты Маўклівец занатаваў у свае тоўстыя кнігі.

Але во чорная сіла саступіла, даючы месца новай. Тады пачалі вінаваціць нядаўніх абвінаваўцаў, катаў ды суддзяў. Віна гэтых была ва ўсіх навідавоку, наконт іх ні ў кога не ўзнікала сумнення. Ды тыя і не ўпарціліся – адразу прызналіся ва ўсім: білі, судзілі, стралялі. Але ж — верылі! Верылі ў ідэю, якая на той час валодала ўсімі — і правымі, і вінаватымі. А вернік, як здаўна вядома, таксама чалавек зацяты і ўжо таму не можа быць вінаваты.

Новы суд тое апраўданне прызнаў слушным. Бо і суддзі таксама верылі ў сваю ідэю і не хацелі памыляцца. Упарты Маўклівец рэагаваў на ўсё з разуменнем, але і з трывогай. Чарговы касмічны цыкл скончыўся, зачынаўся новы, значыць, належала чакаць змены. Толькі якой? Таго мудры Упарты Маўклівец яшчэ не ведаў.

Тым часам прадчуванне зменаў неслася ў паветры, гудзеў народ на вуліцах і ў крамах, дзе менела тавараў і раслі цэны. Дыктатар занепакоіўся і прыняў меры. Пакольку хлеба, масла і бензіну ён даць не мог, дык даў адмысловы ўказ пасадзіць і падсудных, і суддзяў, і правых, і вінаватых. Каб у адпаведнасці з папулярнай на Захадзе ідэяй дэмакратыі нікому не было крыўдна. Тысячы людзей селі ў вязніцы, яшчэ болей калонамі павалакліся на Поўнач, да вечнай мерзлаты, якая дужа спрыяла скарачэнню арыштанцкага кантынгенту. Адно было кепска, што ў вечнай мерзлаце не было як даць рады штабялям трупаў, і тыя ляжалі там, не гніючы. І закапаць іх не было як. А галоўнае — там побач адзін з адным ляжалі суддзі з падсуднымі, пракуроры з рэцыдывістымі, што, канешне ж, не лезла ні ў якія вароты. Ні савецкія, ні фашыстоўскія. Належала становішча выпраўляць.

Як памыляліся, так і выправілі: рашуча і хутка. На гэты раз арыштавалі ўсіх пракурораў, катаўнікоў і суддзяў, дзейнасцю якіх было дужа абуранае грамадства. Але толькі да той пары, як пачалі іх судзіць. Бо вядома ж, калі не вінаватыя ахвяры, дык, мабыць, вінаватыя іх кáты.

Працяг на стар. 10 (4) »



Малюнак www.eksmo.com

« Працяг.
Пачатак на стар. 9 (3)

Каты, аднак, ніколі не бываюць вінаватыя — таго чамусьці ніколі не ведалі людзі. Упарты Маўклівец, канешне ж, усё прадчуваў. Калі пачалі судзіць, усе, бы па камандзе, сказалі, што выконвалі загад. Не хацелі, а выконвалі; таму хай судзяць тых, хто аддаваў загады. Але ж тыя, хто аддаваў загады, не забілі нікога. Нават не кранулі пальцам — завошта ж было іх судзіць?

Мусіць, усё ж дыктатар ды яго памагатыя былі людзі разумныя. Яны хутка даўмеліся, што так можна дачакацца і якой неспадзёўкі. Таму найлепш, калі адказнасць за ўсё добрае і кепскае зрабіць калектыўнаю. Як і належыць — надаўшы дэмакратычныя формы Закону. Толькі тады льга будзе не турбавацца і спаць спакойна.

Заканадаўчы кангрэс склікалі дужа прадстаўнічы. Тысячы мужчынаў усіх узростаў сабраліся ў вялізнай спартовай залі. Спатрэбіўся прэзідыум, у які прыйшло некалькі сотняў, што шчыльнымі шэрагамі расселіся на сцэне. Упарты Маўклівец, зірнуўшы на іх, сціпла ўсміхнуўся: усё было зразумела. Ужо і ў прэзідыуме ім цесна, а як станецца ля карыта? Гэтым кормным парсюкам з неспатольным маладым апетытам не ўнікнуць бойкі. Значыць, доўга тое не праіснуе.

Быў прыняты строгі закон, які прадугледжваў усё. Цяпер караць належала адно вінаватых; невінаватых караць забаранялася. Хто вінаваты, а хто не — тое вырашаў суддзя са згоды начальства. Плакаць і ёнчыць у камерах дазвалялася колькі заўгодна, але не прасіць літасці. Літасць уважалася за найбольшае злачынства з боку суддзяў. Пратэставаць супраць мясцовага начальства дазвалялася толькі з яго пісьмовага дазволу і не бліжэй за пяць кіламетраў ад ягоных будынкаў. За дазвол на тое адказвалі ўсе інстанцыі, за забарону — ніхто. У тым палягаў галоўны выразнік новага, дэмакратычнага часу. Усё тое было новае і даволі загадкавае.

Увечары Упарты Маўклівец пагартаў на паддашшы свае тоўстыя кнігі і хутка натрапіў на пэўны адказ. Чорная касмічная сіла пакрысе саступала з неба, за ёй насоўвалася новая. Упарты Маўклівец ужо ведаў, што тыя чорныя хмары там не знікаюць ніколі. Ён хіба не здагадваўся, што генеруюцца яны зусім не ў космасе, а на зямлі. Толькі ўплываюць з космасу, куды па чарзе і вяртаюцца.

Такім чынам хмара прыходзіць і хмара зыходзіць, зрабіў няновую выснову Упарты Маўклівец і загарнуў сваю самую тоўстую кнігу.

## ІНТЭГРАЦЫЯ

Рэшта незалежніцкага беларускага войска засяродзілася на хваёвым узлеску. Наперадзе ляжала летняя, у красках лугавіна з крывулястаю рэчкай пасярэдзіне. За ёй на палявых схілах стаіліся расейцы.

Беларусы трывалі паразу — не адну, а шэраг паразаў запар, і не дзіва. Ваяваць з кантрактнікамі, якім плацілі шалёныя грошы ў далярах, было няпроста. Асабліва, калі ў іхняй краіне на вайне толькі і мажліва было зарабіць. У беларусаў жа даляраў не было, — былі адны «зайцы». Зноў жа іхняя вайна падпала пад ранг тэрарыстычнай, і беларусы спадзяваліся хіба на ўласны патрыятызм і нацыянальную свядомасьць, якую горача прапагандаваў вернуты з-за рубяжа Зянон Спазьняк. Вярнуў яго Камандуючы, маршал, які ўзначаліў барацьбу за незалежнасць гэтак жа апантана, як нядаўна змагаўся з адыёзнай «самасційнасцю». Некаторыя здзіўляліся, а бальшыня ўбачыла ў той палітычнай змене чарговы хітраванскі выверт любімага кіраўніка.

Памятаючы першасную сяржанцкую вывучку ў войсках КДБ, Камандуючы патрабаваў безумоўнага выканання ягонага загаду перамагчы праклятых расейцаў, ды тое памагала мала. Мала памагалі і красамоўныя заклікі да таго Зянона Спазьняка, што дзеля незалежнасці Беларусі адрынуў усе ранейшыя крыўды на маршала і заўзята заклікаў следаваць святым запаветам адраджэння. Нядаўнія калгаснікі ды рабочыя «паштовых скрынкаў» слухалі, але слаба разумелі ніколі не чутыя каманды накшталт «зважай!», «шыхт», «вайсковы чын» або нават слова «жаўнеры». Мала што ў тым сэнсе мог растлумачыць і былы старшыня беларускага савету Сцяпан Парэцкі, якому дазволілі вярнуцца з Амерыкі і ўзначаліць адну з вайсковых калонаў. Гэты з-за рубяжа прывёз некалькі кнігаў па беларускай гісторыі, але Камандуючы загадаў выкінуць ягоную гісторыю ў прыбіральню — яму патрэбны былі жаўнеры. Галоўны наконт бяспекі генерал-пракурор Мэйман густа абклаў яго стукачамі з задачай: высветліць, ці не зашыфравана ў кніжках старшыні якая адмысловая знявага гонару Камандуючага. (Наконт уласнага гонару той стаў надта чуйны.) Сам Мэйман, не зважаючы на дзівосныя зігзагі Камандуючага, захоўваў непахісную вернасць таму, што толькі і давала яму мажлівасць захаваць жыццё. Шматлікія ягоныя таварышы ўжо даўно пáрылі зямлю, і ўсё праз тое, што мелі даўгія языкі. Мэйман жа з кароткім языком за рэкордна кароткі час стаў генерал-пракурорам і гатовы быў змагацца за незалежнасць Беларусі, як шэраг гадоў змагаўся супраць яе.

Калі з лесу на ўскраек падцягнуліся апошнія з вайскоўцаў, Камандуючы загадаў падпалкоўніку Старкевічу пастроіць усіх у шарэнгу. Набралася няшмат, — змораных, кульгавых, абдзёртых, параненых з акрываўленымі бінтамі на руках і галовах. Як «вечны падпалкоўнік» Старкевіч далажыў, Камандуючы выйшаў з шыкоўнага, ушчэнт запэцканага гразёй «Джыпу Чыракі» і сказаў прастуджаным ці прапітым голасам:

— Ну што? Прасралі Беларусь? Я ж казаў… Цяпер будзем страляцца. Бо когда вазьмуць расейцы, горш будзет. Як вучоны-гісторык я ведаю… Так што — хто першы?

Усё ж гэта былі свядомыя людзі, выхаваныя на гераічным досведзе вялікай вайны ды партызанскай літаратуры, і цяпер увесь шэраг зрабіў крок наперад.

— Ну зачэм жа так многа? — сказаў Камандуючы. — Уначале — аднаму, для прымеру. Дык хто? Ты — Спазьняк?

— За Беларусь заўсёды гатоў! Смерць маскалям! — мовіў схуднелы, у абвіслым шынялі былы старшыня БНФ-ХДС і дастаў з-за дзягі крамнёвы пісталет узору XVI стагоддзя. Сучасны АК ён прынцыпова не хацеў браць у рукі і, стрэліўшы сабе ў грудзі, бы жытні сноп, упаў пад ногі сябрам.

— Стойкі быў барэц за незалежнасць, — пасля паузы сумна сказаў Камандуючы. — Я ўважаў яго. Ну хто далей? На мяне не глядзіце, я буду апошні. Як капітан з тонучага судна. Ты — Парэцкі?

— Але я — легітымны старшыня…

— Мне напляваць і расцерці, што ты легітымны. Калі трусіш — паможам. Мэйман!

Мэйман, які з прычыны недахопу кадраў даўно быў пракурорам, суддзёй і «спалніцелем прыгавораў» у адной асобе, спрытна падскочыў да разгубленага Парэцкага і стрэліў у патыліцу.

— Хто яшчэ надта легітымны? — строга папытаўся Камандуючы. Мабыць, болей такіх не знайшлося, і Камандуючы холадна патлумачыў: —Наш прынцып ізвесны: дабравольна, но абязацільна. Усе, хто любіць Беларусь, далжны ахвяраваць для яе. Правільна, беларусы?

— Правільна! — згодна, хоць і не дужа гучна пранеслася над шэрагам.

— Я бароўся, усе бачылі. Бароўся, як звер. Сначала за інтэграцыю, патом за суверэннасць. Так вынуждалі абстаяцільствы. Але я не Бог, враг пабядзіў. Так што майце чэсць, беларусы.

З шэрагу выйшлі два невялічкія вайскоўцы ў запэцканым камуфляжы, з аўтаматамі Калашнікава на грудзях.

— Мы гатовы, — ціха сказаў адзін, і Камандуючы бліснуў хцівым позіркам.

— Даўно ты далжон быць гатовы, грамадзянін Залябедзька, — Я табе гаварыл: плоха кончыш. А ты столька цянул. На дружка раўнялся?

— Мы не раўняліся. Мы са спадаром Ранчоркам належалі да розных партыяў і рухаў.

— Рухаў! — перадражніў Камандуючы. — Во дарухаліся. Удвох асталіся.

Амаль разам бухнулі два стрэлы. Пасля строй зусім разбурыўся, некаторыя саступілі ўбок, пачулася яшчэ некалькі стрэлаў. На роснай траве паболела нерухомых целаў. Іх не крáталі, нікуды не прыбіралі. Нерашучы стаялі з разгубленым выглядам. Перад невялічкаю купкай сваіх падначаленых Камандуючы аддаваў апошнія распараджэнні.

— І эта… Пагінем, дык нада, чтоб напісалі рэквіем. Перадайце мой указ Гучанку.

Гучанок даўно ў Маскве. Другую зорку на тратуары абмывае.

— Прадацель! А так на задніх лапках плясаў… — Вусаты твар Камандуючага зрабіўся зусім суровы і змрочны.

— Не трэба было яго пушчаць на Віцебскі базар. Хай бы сядзеў у Камаях, маліўся бы згарэў з уніятамі. Як Хадырка з Барадулям.

— А што — згарэлі? — з цікавасцю папытаўся Камандуючы.

— Да тла.

— Тым лепш. А то — месца на Усходніх могілках, пахараны… Гэтыя пахараны разарылі мне гасударства.

— Рынкавая эканоміка, — змрочна канстатаваў Мэйман. — Ні ў якое сравненіе з сацыялістычнай.

— Сацыялістычная таксама не аптымальная. Я ведаю, — асцярожна мовіў Старкевіч, апрануты ў шынель з пагонамі падпалкоўніка. — Як я камандваў ротай…

— Ты плоха камандваў, — адрэзаў Камандуючы. — І тады, і цяпер.

— А хто лепш? Я стараўся…

— Пастарайся ў паследні раз. Ну! Ці памагчы?

— Сам умею, — сказаў Старкевіч і адвярнуўся. Хутка бабахнуў пісталетны стрэл, і падпалкоўнік, сагнуўшыся, тыцнуўся галавой у траву.

— Во гэта іспалніцельнасць! І ні слова вапракі. Дажа на беларускай мове. На мове! — грэбліва мовіў Камандуючы. — Кстаці, а гдзе Білевіч? Наўрад ці застрэліўся. Гэты балабон-няўмека за што ні возмецца, усё праваліць. Столькі змагаўся за мову, і што? Нават трасянкі не дамогся. Гімна не склаў. Я яму даручыў гімн Камандуючага, чтобы он ваадушаўляў масы. Далжон он был пастарацца. Так нет. Сабатажнік он, ваш Білевіч!

— Бычкову трэба было, — падказаў хтось.

— Правільна! Трэба было Бычкову — я ягоныя вершы яшчэ ў чацвёртым класе вучыў. Да не падсказалі. Зеўрук гэны дэзінфармаваў, — са скрухай мовіў Камандуючы. — Сказаў, будта Бычкоў — вораг Беларусі і Расіі. А саўмесна — Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны і Польшчы. Я і паверыў. Падумаў, што Зеўрук ведае — у ЦК ды ў разлічных выведках працаваў. Напрасна, знаеце, даверыўся. Следавала давяраць, но правяраць. Паглядзіце там, ці Спазьняк ужо не дыхае? Апруцянеў? А то, можа, халастым стрэльнуў?

Нехта ад купкі ля «Гранду-Чыракі» пабег зірнуць на труп Спазьняка, і хутка адтуль пачулася:

— Спазьняк ляжыць. А Залябедзькі няма.

— Як няма? Ён жа застрэліўся.

— Мабыць, сапраўды халастым. Імітацыя, — змрочна мовіў Мэйман.

Гэта прадацельства! Он меня абхітрыў. Хацеў тады разам з Ганчаром, ды… Пажалеў. Вот і расплата за мяккасць душы. Дзейсцьвіцельна, очань мы рахманыя, беларусы. Не тое, што ты, Мэйман.

— Тое, што і ты! — з тайным папрокам надзьмуў вусы генерал-пракурор.

Камандуючы дастаў насоўку і старанна выцер змакрэлыя вочы. Падобна, ён гатовы быў заплакаць, хіба ў ягоным позірку раз-пораз бліскала непрыхаваная хцівасць.

— Я ж цібе прыказаў устраніць Гураўкіна. А он, аказваецца, у ААН зноў ваду муціць проці суверэннай дзяржавы… Паэт гэны.

— Праізашла памылка. Устранілі Гуралкіна. Супадзенне фамілій.

— Як жа вазможна! Нада ж ведаць нацыянальныя кадры, атлічаць паэта ад мастака. Не страляць абы-каво…

— Я сьчытал, у Беларусі адзін мастак — паважаны акадэмік Цавіцкі…

— Правільна! Очань мной паважаны. Как і явоны сын — маладой, но перспекціўный, — русскій, то есць беларускій па духу…

Строй тым часам зусім разбурыўся, стрэлы бахалі ўсё часьцей. Страляліся ад любові да Беларус, ад нянавісці да маскалёў, ад бязмежнае адданасці любаму Камандуючаму. Проста таму, што ўсё надакучыла, у тым ліку і д'ябальскае, крывавае жыццё ў краіне з бясконцай барацьбой і заблытанымі ідэямі. Дзе-ніздзе чуліся воклічы «Жыве Беларусь!», часам праклёны ці проста злая мужчынская лаянка. У доле на ўзлеску ўсё большала нерухомых целаў, скрозь на траве валялася зброя, нікому ўжо непатрэбны рыштунак. Найболей таго ляжала каля «Джыпу-Чыракі», дзе ўсё яшчэ тоўкся Камандуючы. Купка чыноў ля яго, аднак, усё менела. Нарэшце застаўся апошні — генерал-пракурор Мэйман.

— Мэйман, ты ўсе мае сакрэты знаеш, да?

— Знаю, да.

— І ты іх сахраніш. Назаўжды!

Генерал-пракурор не паспеў адказаць, як Камандуючы махнуў рукой — і ў яго, бы з рукава, грымнуў нечаканы стрэл. Як Мэйман упаў, Камандуючы яшчэ два разы стрэліў яму ў галаву і крута адвярнуўся.

Пасьля ён уключыў радыётэлефон і мовіў нейкую фразу — пароль ці што: 5485211А2. Сунуўшы ў кішэню HENDI, дастаў з багажніка сцяг — шырокую чырвоную палатніну з сярпом і молатам ля тэлескапічнага дрэўка — і ўскочыў у машыну.

— Газуй, Садам!

Звыкла абыякавы да ўсяго, што адбывалася навокал, чарнавусы кіроўца рыўком зрушыў машыну, якая палявой дарожкай нязграбна папаўзла па выбоінах убок рачулкі. Адной рукой Камандуючы трымаўся за кароткі дзяржак перад сабой, а другой праз вакно высока ўзнімаў сцяг, пад якім нарэшце мелася здзейсніцца вялікая мэта ягонага жыцця — інтэграцыя.

Што рабіць, калі кожная вялікая мэта патрабуе вялікіх намаганняў і няменшых ахвяраў…

## «БУКЕТ РУЖАЎ»

І гэтая краіна была бедная (шмат тады было бедных краінаў), з адсталай эканомікай і малакультурным насельніцтвам. Вугалю, нафты або алмазаў у яе не было зусім. Мала таксама было навукоўцаў, пісьменнікаў — хіба што эстрадных спевакоў хапала. Спорт таксама быў слаба развіты, людзі ўмелі гуляць у нарты ды ў класічную гульню — дурня. Краіна была няразвітая, затое мела гучны і модны тытул, звалася Арлінай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікай. Кіраваў ёю, канешне ж, самы мудры арол, ласкава званы ў народзе Грымучы Змей.

І ўсё ж народ меў адну адметную вартасць, якую можна паэтычна назваць — сакалінае вока. Ужо змалку арляняты ўмелі трапна страляць. Адзін вясковы арлёнак у часе вайсковае службы ні разу не спудлаваў у стралянине і стаў чэмпіёнам па стральбе ўсіх відаў. Клікалі яго Сокал. Той яго талент адразу трапіў пад увагу дыктатара Грымучага Змея.

Рэч у тым, што на той час дзе-ніздзе ў свеце загаварылі пра

кілераў. Мабыць, жыццё выявіла пэўную патрэбу ў той прафесіі. Калі дзе трэба было прыбраць празмерна шанцоўнага банкіра або папулярнага палітыка, дык найперш шукалі адмысловага кілера. Адмысловая аперацыя адмысловага спецыяліста патрабавала адмысловага кошту. У Арлінай рэспубліцы таксама ўзнікла пэўная праблема. Грымучы Змей надумаў знішчыць аднаго маладога палітыка, які мог некалі прэтэндаваць на ягонае месца. Зрабіць іначай дыктатар не меў магчымасці, бо на тое месца ўжо быў прызначаны яго родны сын Шыпучы Змяёнак, які пакуль што студыяваў вайсковую навуку ў заморскім Вест-Пойнце. У выніку складаны арганізатарскай аперацыі, праведзеная IX аддзелам аховы дыктатара, малады палітык быў замоўлены маладому кілеру Сокалу, які яго і прыбраў з першага стрэлу. Паховіны адбыліся за дзяржаўны кошт і дужа ўрачыста. Грымучы Змей праслаў прыгожы вянок чырвоных ружаў з цёплым спачувальным надпісам на стужцы чорнага дзяржаўнага колеру.

Кілерскі акт у адпаведнасці з сусветнымі стандартам належала стандартна скончыць: каб не пакідаць слядоў – прыбраць і кілера. Так, прынамсі, раілі кваліфікаваныя дарадцы Грымучага Змея. Але Грымучы Змей быў разумнейшы за ўсіх, разам узятых дарадцаў і ніколі няе слухаў іх. Сам ён паходзіў з сялянскага роду і ведаў, што парсючка сяляне не б'юць дачасна. Б'юць упару, калі той нагадуе сала і болей не мае жадных магчымасцяў. Кілер жа Сокал яшчэ меў магчымасці. Таму замест кулі міласэрнасці дыктатар узнагародзіў яго «Ордэнам высакароднасці» і паслаў на новае заданне. Належала ціха і неўпрыкмет прыбраць двух банкіраў і трох агалцелых апазіцыянераў, што сумняваліся ў правільнасці ўнутранай палітыкі дыктатара. Тых апазіцыянераў спрактыкаваны Сокал лёгка застрэліў, а для банкіраў запатрабаваў болей часу. Банкіры мелі моцную ахову.

Банкірскую аперацыю пакуль што адклалі, пачалі рыхтаваць памочнікаў Сокалу. Памочнікаў кілер нумар адзін рыхтаваў асабіста. На закрытым спартовым стадыёне «Дынама-машына» ўвесь божы дзень грымела страляніна – па нерухомых і рухомых мішэнях, вокнах, паверхах, аўтамабілях. Для гарантыі поспеху давялося купіць у замежжы добрую зброю, бо, як нараклаў Сокал, з бярданкі ўзору 1800/1900 года шмат не настраляеш. На закуп была выдаткаваная ладная сума з дохлага дзяржаўнага бюджэту. Грымучы Змей, вядома, быў незадаволены выдаткамі, але як абодва банкіры апынуліся на гарадскіх могілках, падабрэў і выказаў радаснае спачуванне радні банкіраў і кліентам банку. Кілераў жа ўзнагародзіў яшчэ болей высокімі ардэнамі — «За гонар і сумленне». Кілеры былі задаволеныя. Адно кепска, што тых узнагародаў нельга было насіць на грудзях — узнагароджанне лічылася абсалютна сакрэтным.

У Арлінай Народна-Дэмакратычнай Рэспубліцы між тым, як і ўсюды, дзеялі замежныя выведкі. Не зважаючы на надзвычайную сакрэтнасць, тым усё ж шмат што стала вядома з кілерскай справы, якая на той час атрымала кодавы назоў «Букет ружаў». Рэч у тым, што і ў суседніх краінах меліся падобныя праблемы, як з нахабнымі апазіцыянерамі, так і з прагнымі банкірамі. Ды не было кілераў. Адсталыя ў пэўных адносінах грамадствы не мелі разумных дыктатараў, болей налягалі на славутую абарону правоў чалавека і занядбалі трапнай стральбой. Вядома ж, апроч як да благога, такое становішча ні да чаго іншага прывесці не магло. Лідар адной з такіх краінаў у рэшце рэшт змушаны быў звярнуцца да Грымучага Змея з сяброўскай просьбай: пазычыць каманду кілераў для выканання аднаго спецзадання. Плата гарантавалася — вядома ж, у даларах. Грымучы Змей памеркаваў і згадзіўся: даляры яму заўсёды былі патрэбныя. Неўзабаве тры кілеры адправіліся ў далёкія заробкі. Між тым Сокал застаўся дома. Дзеля сакрэтнасці яму змянілі прозвішча, аздобу, засакрэцілі месца жыхарства і далі дзяржаўнае заданне — у сціслыя тэрміны навучыць пяцьдзясят кілераў.


Фота www.rt.com

Справа закіпела. Усё рабілася дужа таемна, з адмысловым дыпламатычным ды прапагандовым прыкрыццём. Стадыён, дзе трэніраваліся кілеры, атрымаў назоў «Прафсаюзны комплекс старога і немаўляці», база іхняга адпачынку звалася «Турбаза Арлёнак». У прыгожым і прэстыжным прыгарадзе сталіцы кілерам выдзелілі новыя шыкоўныя кватэры. Каму не хапіла новых, у старых зрабілі модны еўрарамонт — з фінскай сантэхнікай і шведскай сталяркай. Былі тэрмінова закупленыя імпартныя снайперскія стрэльбы з найноўшым аптычным прыцэлам. Экзамены ў кілераў прымаў сам дыктатар Грымучы Змей, поспехі навучэнцаў былі надта ўражлівыя. Толькі дзесяць чалавек атрымалі чацьвёркі, астатнія — адны пяцёркі. Пяцёрачнікаў адразу ж выправілі ў камандзіроўкі — далёкія і блізкія, а чацьвёрачнікаў пакінулі дзеля вырашэння ўнутраных праблемаў. Такія праблемы на той час пільна наспелі, і Грымучы Змей змушаны быў прыняць адэкватныя меры. Некаторыя з урадоўцаў не выказалі захаплення ад праекту «Букет ружаў», даводзілі, быццам ён незаконны, малаэфектыўны, нават стратны. Некаторыя намякалі на ягоную амаральнасць. Неўзабаве ўсім давялося на ўласных Галовах пераканацца ў яго эфектыўнасці. Наконт законнасці быў зроблены запыт у Канстытуцыйны суд, які на наступны ж дзень апублікаваў юрыдычнае абгрунтаванне яго абсалютнай законнасці. На трэці дзень наконт маральнасці адказаў галоўны іерарх — усё адпаведна канону. Болей у Арлінай рэспубліцы ніякіх пярэчанняў не было чуваць.

Тым часам сорак пяцёрачнікаў не вярталіся; выканаўшы заданне ў далёкай краіне, выправіліся ў яшчэ болей далёкую. На замежныя рахункі дыктатара плыла валюта, якою той мог падзяліцца з народам. Увогуле дыктатар быў чалавек не скупы, але вялікі прагматык і ўмеў лічыць лішнюю капейку. На немалую суму ён купіў за мяжой партыю яшчэ болей дасканалае зброі (хуткастрэльныя стрэльбы, кулі з адмысловым сардэчнікам) і разгарнуў сістэмную падрыхтоўку высокакваліфікаваных кілераў. Амбасады і гандлёвыя прадстаўніцтвы ў замежных краінах прымалі замовы на індывідуальныя і групавыя тэракты. Замоваў набіралася шмат, рэпутацыя фірмы была дужа высокай. Ніхто не мог супернічаць з сокаламі Грымучага Змея. І ніколі немагчыма было дазнацца, чыіх рук тое ці іншае забойства. Такі эфект дасягаўся комплексам мераў, якім займаліся не толькі кілеры, але і дыпламаты, палітыкі з палітолагамі, а таксама філосафы з барменамі ды горнічнымі гатэляў, — усе былі ўцягнутыя ў слаўную індустрыю тэрору. Звычайна забойства паходзіла на самагубства ці на трагічны вынік сямейных звадак або ўнутраных кланавых разборак. Адміністрацыя Грымучага Змея ніколі не спазнялася пасласць спачуванне на паховіны. Аднойчы здарыўся трагікамічны выпадак, калі з прычыны чынавенскага недагляду факс спачування быў пасланы да моманту забойства і тым павесяліў жывога нябожчыка ды ягоных сяброў. Але ўжо назаўтра сябры горка плакалі, калі знайшлі калегу з прастрэленай галавой. Грымучы Змей з таго выпадку ледзьве не займеў славу новага Настрадамуса, папулярнасць яго ў свеце значна павялічылася. Чыноўнік жа, вінаваты ў недаглядзе, хутка загінуў ва ўласным ложку, як было афіцыйна аб'яўлена, ад стрэлу палюбоўніцы. І ніхто яго не пашкадаваў, нават уласная жонка.

Кілерскую справу паставілі на дзяржаўны паток.

У Арлінай рэспубліцы рыхтаваліся не толькі ўласныя кілерскія кадры, але і навучаліся людзі з іншых краінаў, пераважна з краінаў трэцяга свету. На вуліцах сталічнага горада, асабліва ў выхадны дзень, можна было спаткаць маладых людзей самага розмага колеру скуры, розных формаў вачэй. Калі ў іх пыталіся цікаўныя, дык на ламанай ангельскай мове тыя тлумачылі, што прыехалі вывучаць медыцыну, механіку, будаўніцтва. І то была праўда. Але галоўная праўда палягала ў тым, што толькі трудная навука трапнай стральбы займала іхнюю ўвагу. Іхнія ўрады добра плацілі Грымучаму Змею, які на тыя сродкі збудаваў сабе новы палац, абсталяваў падземны і нават падводны ціры. Гадоў праз дзесяць сучасную кілерскую зброю ўжо не куплялі ў замежжы — наладзілі ўласную вытворчасць. Дзеля таго падрыхтавалі за мяжой неблагія кадры збройнікаў, развілі збройную навуку. Толькі за апошні год у мясцовым тэхналагічным універсітэце на кафедрах кулі, затвора і парахавых газаў было абаронена каля сотні доктарскіх дысертацый, столькі ж прысвоена прафесарскіх званняў. Уся краіна жыла надзвычай папулярнымі праблемамі зброі і страляніны. Кілераў шырока выкарыстоўвалі таксама і ў пабытовым жыцці: пакрыўджаныя жонкі за невялікую плату наймалі кілераў для крыўдзіцеля-мужа; тыя ў сваю чаргу тэлефанавалі ў кілерскую кантору, каб замовіць здрадніцу-жонку. Пра кілераў ды іхнія подзвігі штодня пісалі газеты, спявалі эстрадныя гурты. Кожны тамтэйшы падлетак марыў, падросшы, стаць кілерам і з'ехаць у якую-небудзь з заходніх краінаў. Кілеры завіхаліся ўвесь час і ўсюды стралялі. Вясной — лібералаў, улетку — дэмакратаў, пад восень пачалі адстрэл вахабітаў.

Трываючы нечуваны бум, збройная індустрыя краіны прагнула новых інвестыцыяў. Тых немалых сродкаў, што кілеры зараблялі за мяжой, надта не хапала. Мудры Грымучы Змей звярнуўся ў міжнародныя інстанцыі па дапамогу. Канешне, не дзеля вытворчасці зброі, а з прычыны недароду, які быццам бы напаткаў краіну. Дыпламаты за мяжой давялі, што, калі такая дапамога не будзе аказаная, дык народ вымра, і тое ляжа на далікатнае сумленне сусветнай супольнасці. Дапамога была аказаная. Першы і самы буйны транш у валюце дыктатар, не марудзячы, пусціў на вытворчасць навейшае (лазерная) зброі. Гэта была цуд-зброя. Кожны кілер мог весці хуткастрэльны агонь нават у натоўп на плошчы або на вуліцы. Мушка ў каляровым прыцэле з начным бачаннем, пэўным чыпам запраграмаваная, аўтаматычна выбірала цэль з улікам ідэйнасці і палітычнай заангажаванасці ахвяры. Лабараторыю, якая вынайшла той цуд, дыктатар узнагародзіў у поўным складзе. Усе — ад дырэктара да апошняй прыбіральшчыцы і шафёра сталі «Героямі нацыі», або «змеевікамі», як іх клікалі па-навуковаму.

У той жа прыкладна час была вынайдзеная і яшчэ болей дзівосная зброя — віртуальная куля. Варта было ёй у каго-небудзь трапіць, як ахвяра знікала, бы растваралася ў паветры, не накідаючы ні следу, ні дыму. Менавіта з тае пары ў свеце пачалі знікаць людзі, без знаку і следу. І ніводны пракурор, ніводны следчы не маглі здабыць жадных улікаў. Сведак не было таксама. Ніхто нічога не чуў, нічога не бачыў. Гэта была вяршыня тэрарыстычнае мары. Багатыя краіны Захаду і Усходу пачалі палявацьна мудрых вынаходцаў краіны Арлоў. Найлепшы сродак у такіх выпадках — класічны: калі нельга знішчыць, дык льга перакупіць. Як ні ўзнагароджваў Грымучы Змей сваіх збройнікаў, тыя неўзабаве сцямілі, што не адныя ўзнагароды жыве чалавек. На Захадзе жылі і яшчэ шмат чым, мелі куды болей і лепшага. Спярша застаўся ў камандзіроўцы на Захадзе, куды паехаў, адзін з лепшых кілераў. Пасля на Усход збег вучоны, ён жа вядомы акадэмік і сакрэтны выведнік. Гэты, апроч уласных мазгоў, прыхапіў з сабой надзвычай важныя звесткі. І паводле адной з іх, для таго, каб забіць чалавека, не трэба ў яго нават цэліць. Даволі за сотню міль ад яго набраць на кампутары пэўны код, і чалавек умомант знікаў, растваруўся ў віртуальнай прасторы. Гэтак аднойчы на пачатку вясны знік і дыктатар, мудры і вялікі Грымучы Змей. Быў, сядзеў за сталом, падпісваў чарговы пук высокіх указаў і — знік. На стале засталася адно залатая асадка. Затым загадкава знік і ягоны наступнік — малады Шыпучы Змяёнак. Можа, таксама стаўся ахвярай, а можа, ірвануў кіпці ў Бермудскую афшорную зону — бліжэй да сваіх банкаўскіх рахункаў. Слаўны праект «Букет ружаў» з таго часу непапраўна завяў.

Арліная Народна-Дэмакратычная Рэспубліка зазнала нечуваны занепад. Пачаўся голад, міжнацыянальныя ды міжканфесійныя разборкі. Родзічы шматлікіх кілерскіх ахвяраў запатрабавалі суду над выканаўцамі даўніх і свежых тэрактаў. Пранырлівыя журналісты ды папарацы раскапалі сакрэтныя архівы, дзе знайшлі нямала імёнаў славутых у краіне людзей з іх вельмі непрывабнымі справамі. Грамадскасць запатрабавала суду і пакарання. Тады ж выявілася і пэўная несправядлівасць лёсу гэтых людзей. Калі імі ганарылася нацыя, тады яны змушаныя былі заставацца інкогніта, а як справа дайшла да адказнасці, дык іхнія імёны выдрукавалі ўсе газеты. Без карысці засталіся і шматлікія высокія ўзнагароды. Тое было крыўдна і несправядліва, людзі абураліся. Але што ў свеце ёсць справядлівае?

# Слуп

Луіс ЛЬЯК

*Дзед мне казаў на парозе,*
*покуль чакалі святла,*
*а ля слупа пры дарозе*
*сумна жывёла раўла:*
*«Слуп, як нашая доля,*
*так прывязаны і мы».*
*Звалім яго, каб ніколі*
*болей не ведаць турмы!*

*Давай наляжам дружна ўсе!*
*Ён не ўстаіць, яго трасе.*
*Ён хутка рухне, рухне, рухне,*
*бо струхлеў, прагніў, прасеў.*
*Хістай мацней ганебны слуп!*
*Ён вораг волі і святлу.*
*Ён хутка рухне, рухне, рухне,*
*і дабро дасць рады злу!*

*Вёсны мінаюць і зімы,*
*рукі падзерліся ў кроў,*
*а слуп у сэрцы радзімы*
*магутнейшы ад муроў.*
*Я ведаю, ён прагнілы,*
*ды ўбіты глыбока ў душу,*
*і я, губляючы сілы,*
*у песні падмогі прашу.*

*Давай наляжам дружна ўсе!*
*Ён не ўстаіць, яго трасе.*
*Ён хутка рухне, рухне, рухне,*
*бо струхлеў, прагніў, прасеў.*
*Хістай мацней ганебны слуп!*
*Ён вораг волі і святлу.*
*Ён хутка рухне, рухне, рухне,*
*і дабро дасць рады злу!*

*Дзед не спяе ужо нічога,*
*знеслі злыя вятры*
*ў вырай майго старога,*
*і я ўсё болей стары.*
*Ды каб маладыя пачулі,*
*стаю на парозе й пяю*
*апошнюю песню дзядулі,*
*як першую песню сваю.*

*Давай наляжам дружна ўсе!*
*Ён не ўстаіць, яго трасе.*
*Ён хутка рухне, рухне, рухне,*
*бо струхлеў, прагніў, прасеў.*
*Хістай мацней ганебны слуп!*
*Ён вораг волі і святлу.*
*Ён хутка рухне, рухне, рухне,*
*і дабро дасць рады злу!*

**Пераклаў з каталанскай Андрэй Хадановіч**

# Перамен

Віктар ЦОЙ

*Прывід цяпла ў зелені шкла,*
*прывід агню — дым.*
*З кратаў гадоў каляндар выхапіў дзень.*
*Вогнішча сонца згарае датла,*
*дзень дагарае з ім,*
*на распалены горад падае цень.*
*«Перамен!» — прагнуць мільёны вачэй.*
*«Перамен!» — грукаюць сэрцы хутчэй.*
*У нашым смеху і ў нашых слязах, і ў пульсацыі вен*
*«Перамен! Хутчэй перамен!».*

*Электрычны прамень нам працягвае дзень,*
*не шукайма запалак — дарма,*
*ды на кухні, як сіні квет, гарыць газ.*
*Цыгарэты ў руках, чай на стале, схема працуе сама,*
*і больш нічога няма — усё астатняе ў нас!*
*«Перамен!» — прагнуць мільёны вачэй.*
*«Перамен!» — грукаюць сэрцы хутчэй.*
*У нашым смеху і ў нашых слязах,*
*і ў пульсацыі вен*
*«Перамен! Хутчэй перамен!»*

*Мы не будзем фарсіць красамоўствам вачэй,*
*ані зграбнымі рухамі рук,*
*нам не трэба таго, каб адно аднаму не змяніць.*
*Цыгарэты ў руках, чай на стале, так замыкаецца круг,*
*і раптам нам робіцца страшна нешта змяніць.*
*«Перамен!» — прагнуць мільёны вачэй.*
*«Перамен!» — грукаюць сэрцы хутчэй.*
*У нашым смеху і ў нашых слязах, і ў пульсацыі вен*
*«Перамен! Хутчэй перамен!».*

**Пераклаў з рускай Андрэй Хадановіч**


Фота www.humanities.by

# Малітва

Генадзь БУРАЎКІН

*Мы здалёку ўбачылі свабоду*
*І яшчэ не вырваліся з пут...*
*Божа,*
*не дабаў майму народу*
*пошасці,*
*няпраўды*
*і пакут.*

*У чужым нялюдскім землятрусе*
*хіба ў нечым мелі мы віну?..*
*Божа,*
*адвядзі ад Беларусі*
*здраду,*
*вераломства*
*і вайну.*

*Смутнаю парою нелюдзімай,*
*калі ўсё вакол ідзе на злом,*
*Божа,*
*захіні маю Радзіму*
*мудрасцю,*
*спакоем,*
*і цяплом.*

# ***

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

*Народу можа засціць зрок*
*без дай прычыны.*
*Ды бачыць Госпад кожны крок*
*на звод Айчыны.*

*У вочы вам адплаты час*
*зірне сурова.*
*Каб дзеці апраўдалі вас —*
*вярніце Мову!*

*Няма пачаткау і канцоў,*
*усё — працяг.*
*Каб не ўскіпела ў жылах кроў —*
*вярніце Сцяг!*

*Улады сверб, што вас скубе,*
*і славы сверб —*
*пакіньце ўсё сваё сабе,*
*вярніце Герб!*

*Дальбог, пра гэта не са зла*
*малюся ў скрусе,*
*а каб зямля вас прыняла*
*на Беларусі.*

# Напярэдадні рэферэндуму

Алесь КАСКО

*Вось — галоўны гісторыі ход:*
*пагарджаны вякамі народ,*
*што душою аглух і аслеп,*
*плюе ў мову, і ў сцяг свой, і ў герб.*

*І тады, як адвернецца свет,*
*не апомніцеся, прэзідэнт?*
*— Нет.*

*Набрыняе крывёй каляндар,*
*кіне Бога сумленны святар.*
*Роспач вусны прароку замкне,*
*вучні ўтопяць жалобу ў віне.*

*І тады, як смерць прыме паэт,*
*не пакаецеся, прэзідэнт?*
*— Нет.*

*Шчэ ёсць вера ў інакшы зыход:*
*да глумлення не дойдзе народ*
*са святыняў сваіх, напаказ...*

*І тады, калі грымне адказ,*
*што не гнюс ён і не самаед, —*
*не застрэліцеся, прэзідэнт?*
*— Нет.*

# Лебяда

Алесь ПАШКЕВІЧ

*Адцвілі васількі на пожні,*
*лебяда ля хат, —*
*у краіне, дзе кожны*
*ці вораг, ці кат.*

*І ні радасці, і ні хлеба,*
*ні вады жывой.*
*Паміраем пад сонным небам*
*на зямлі з лебядой,*

*дзе і пан, і прарок найпершы —*
*збродны зяць,*
*загадаць можа й вершы*
*не пісаць...*

*А яны ў нас і так без рыфмаў,*
*нібы сэрцы без пульсу-біцця,*
*нібы сцежкі марскія без рыфаў,*
*быццам смерць — без жыцця.*

# Пераможам

Анатоль ІВАШЧАНКА

*Ад таго, што наўкола,*
*няпроста не страціць розум.*
*Словы рэжуць горла,*
*па сэрцы ідуць баразны.*
*Пацукоў ванітуе,*
*іх човен трасе.*
*Але здрыснулі з борта*
*далёка яшчэ не ўсе.*
*Можа, моцныя ды смелыя*
*ўсе*
*закапаны ў полі?*
*Бел-чырвона-белыя*
*душы*
*равуць ад болю.*
*Выбух. Святло.*
*Ціша.*
*І...*
*новы гук.*
*Гэта недакладна, але*
*нараджаецца пацук.*
*Жывіцца праклёнамі лжывы псіхапат.*
*Ў белых палітонах стратэгі.*
*Шах і мат.*
*Ружы нашыя*
*ператворацца*
*ў ружжы раптам.*
*Нават херувімы цяпер*
*размаўляюць матам.*
*Гэтыя радкі, імаверна,*
*начынены тратылам.*
*Ключык залаты*
*Тартыла*
*зжэрла ды забыла.*
*Гэтыя радкі, верагодна,*
*прапітаны напалмам.*
*Моцныя ды смелыя,*
*мы*
*пераможам малпаў...*

# * * *

Усевалад СЦЕБУРАКА

*Я не мару — не той узрост,*
*не баюся — не тая цемра.*
*Падымаюся ў поўны рост —*
*не пабачыць пакоры хеўра.*

*Хай паўсюль цікуюць віжы:*
*не маўчу і трымаю слова,*
*бо за мною — мае крыжы*
*і мая ўкрыжаваная мова.*

*Не за славай стаю ў чарзе,*
*не праспешваю рух падзеяў,*
*толькі праўда й тады жыве,*
*калі даўна няма надзеяў.*

*Толькі б тут на зямлі датрываць,*
*а пасля адпрашуся і ў Бога —*
*буду й мёртвы ў шыхце стаяць*
*не слабей за сябе жывога.*

# * * *

Аксана СПРЫНЧАН

*лепей не азірацца*
*бо за спінай тваёю*
*заўжды аўтазак*
*нават калі яго яшчэ не відаць*
*ён ёсць за хмызамі*
*дамамі*
*за крывёю яго не відаць*
*за крыкамі і стогнамі*
*не чуваць*
*лепей ісці насустрач Волі*
*нават калі вертазакі ў небе*
*нават калі пад зямлёй метразакі*
*ісці пад вятрамі*
*залевамі*
*градам*
*каб не пакінуць*
*Беларусь*
*гадам*

# Незалежнасць — гэта...



Уладзімір АРЛОЎ

**Незалежнасць — гэта калі ты з'явішся на свет у радзільні, дзе няма самых стэрыльных на зямлі савецкіх прусакоў, затое ёсць аднаразовыя шпрыцы і пялюшкі.**

Незалежнасць — гэта калі твой бацька пойдзе ў ЗАГС, каб атрымаць дакумент, што ты сапраўды нарадзіўся і што цябе назвалі ў гонар дзеда Рыгорам, і кабета, якая сядзіць там, спакойна выпіша яму гэты дакумент, а не выцягне са стала «Справочник личных имён народов СССР» і не будзе, размахваючы ім, гістэрычна тлумачыць твайму бацьку, што ён можа без праблем назваць сына Файзулой ці нават Мамаем, а вось Рыгорам — не можа, бо такога імя проста не існуе ў прыродзе (а существует нормальное человеческое имя Григорий).

Незалежнасць — гэта калі ты пойдзеш у школу і цябе будуць вучыць на тваёй мове (а дзяўчынку Гражынку, якая падабалася табе ў дзіцячым садзе, — на яе мове, а твайго суседа хлопчыка Мішу, тату якога завуць Ісакам, — на ягонай, а другога твайго суседа хлопчыка Алёшу, бацькі якога прыехалі сюды, бо ў іхнім горадзе на Волзе, каб купіць малому малака, трэба займаць чаргу а пятай гадзіне раніцы, — на ягонай). Цябе будуць вучыць на тваёй мове, і дзеля гэтага тваім тату й маме не трэба будзе ўсё лета збіраць па кватэрах заявы бацькоў, якія не тое каб не хацелі вучыць сваіх дзетак так, як твае тата й мама, а проста ніколі пра гэта не думалі, бо выраслі пры інтэрнацыяналізме. І гэтыя заявы не трэба будзе губляць тры разы дырэктару й два — сакратарцы, і ў першы вераснёвы дзень ты не пачуеш на ўрачыстай лінейцы, што «год от года хорошеет материально-техническая база нашей школы», а прыйшоўшы ў свой клас не даведаешся, што дзякуючы няўхільнаму клопату партыі й ураду, у вас на ўвесь клас толькі адзін лемантар і дзве «матэматыкі» на роднай мове.

Незалежнасць — гэта калі твая дружына не будзе змагацца за права насіць імя Паўліка Марозава ці Аляксандра Мяснікова, бо ўсе вы цудоўна ведаеце, як любіў свайго татку Паўлік і як любіў беларусаў Мяснікоў.

Незалежнасць — гэта калі ты будзеш студэнтам і на лекцыі па вышэйшай матэматыцы твой раўналетак з Мадагаскару, які вучыцца за грошы сваёй, а не тваёй краіны, нахінецца да цябе і запытае, што значыць слова «імавернасць», і ты па-французску растлумачыш яму.

Незалежнасць — гэта калі ты будзеш служыць у войску не далей за памежны горад ці вёску тваёй зямлі, затое табе ніколі не загадаюць фарбаваць траву і прыбіраць тэрыторыю «вот от сюда и до обеда». У нядзелю ты зможаш прыехаць да бацькоў ці да сваёй дзяўчыны, затое ніхто не назаве цябе «бульбашом», а твайго сябра — «черножопым» за тое, што вы думаеце й гаворыце ў сне па-свойму, і выдатнікі баявой і палітычнай падрыхтоўкі не будуць у працэсе гэтай падрыхтоўкі рабіць табе «велосипед», і табе ніколі не загадаюць гастрыць сапёрную рыдлёўку, каб акапацца ў Баку ці ў Тбілісі.

Незалежнасць — гэта калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выходныя ў Вену, і ты з чыстым сумленнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы вып'яце кавы насупраць палацу Шонбрун, і ведаеш, што перад вашай вандроўкаю ніхто не будзе высвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве габрэем, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык з якой мэтаю.

Незалежнасць — гэта калі на Дзяды, у Дзень памяці продкаў, ты ідзеш на магілкі й ведаеш, што паставіш там свечку й пакладзеш кветкі, а не станеш удзельнікам выпрабавання балончыкаў з нервова-паралітычным газам ці новае мадэлі гумовага дручка.

Незалежнасць — гэта калі твой сын прынёс са школы пяцёрку па гісторыі і ты хваліш яго за гэтую пяцёрку, бо ведаеш, што ён атрымаў яе не па тым прадмеце, дзе вучаць пра Лядовае пабоішча і перамогу калектывізацыі, а па тым, дзе вучаць пра Грунвальдскую бітву, якая ўратавала твой народ ад смерці, і кажуць праўду пра тую ўладу, што растраляла твойго дзеда й задушыла голадам тваю бабулю.

Незалежнасць — гэта калі да цябе завітае спявак з Нью-Ёрку, і ты вып'еш з ім добрую чарку вішнёўкі, і пасля ветлівыя дзядзькі ў цывільным не запрапануюць табе падрабязна напісаць, дзе й што вы пілі й каго пры гэтым лаялі.

Незалежнасць — гэта калі ты пазбаўлены магчымасці пачуць, як твой прэзідэнт вучыць з экрана суайчыннікаў: «Хто как хаціт, той так і гаварыт», бо твой прэзідэнт — чалавек пісьменны і хоць адну мову ўсё ж ведае.

Незалежнасць — гэта калі з тэлеперадач і газет раптам знікаюць лісты нястомна-таямнічых ветэранаў і вусцішныя паведамленні пра нацыяналістаў і экстрэмістаў з народных франтоў, якія нават уначы не спяць, а распальваюць паміж табой, Алёшам і Мішам, тату якога звалі Ісакам, а таксама Гражынаю, якая даўно ўжо твая жонка, міжнацыянальную варожасць, каб учыніць сярод вас крывавую разню й пусціць пад адхон цягнік перабудовы.

Незалежнасць — гэта калі ніхто не страшыць цябе, што твой народ не зможа выжыць без вялікага старэйшага брата, бо не мае сваіх баксітаў ці алмазаў, і ты разумееш, што зусім дарэмна шкадаваў гарапашных галандцаў ці бельгійцаў, якія не маюць ні баксітаў, ні алмазаў, ні нават старэйшага брата.

Незалежнасць — гэта калі велізарныя фуры з надпісам «Центровывоз» (ці бачыў ты хоць раз такія фуры з надпісам «Центрввоз»?) падрулююць не да чужых, а да нашых крамаў.

Незалежнасць — гэта калі раптам высветліцца, што разумныя людзі ёсць і ў нас, і калі — крый Божа! — выбухне завод ці прычыніцца якое іншае ліха, не трэба будзе чакаць, пакуль прыедзе камісія з маскоўскіх разумнікаў.

Незалежнасць — гэта калі на Божай пасцелі ведаеш, што пасля таго, як ты памяняеш гэты свет на лепшы, на месцы царквы ці касцёла, дзе цябе хрысцілі і дзе ты вянчаўся, не выкапаюць сажалку з брудным лебедзем і не пабудуюць басейн імя XXVIII з'езда КПСС, а могілкі, дзе будуць спачываць твае косці, не знясуць і не ператвораць у закіданы пустымі пляшкамі парк культуры й адпачынку імя таварыша Гарбачова або імя таварыша Лігачова.

Незалежнасць — гэта...

Незалежнасць — гэта калі ад нараджэння да скону пачуваешся сваім чалавекам на сваёй зямлі.

Я веру, што калі-небудзь так будзе.

Бо інакшай проста не варта жыць.

**1990 год**

# Лапаціна



Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

**Прыпавесць**

*“Литвинку божи?!. Тю, литвинку ти ж чортів!”*

*“Ага, хай і чортів, аби не твой!”*

*З украінскага фальклору*

**Сонца над Ярылавай гарой узыходзіла вясёлае — зусім не па настроі Ціта. Але што зробіш з сонцам? З Ярылам? Тут з самім сабой не зробіш нічога, а не тое што з богам...**

Апошнімі гадамі Ярыла не ўзлюбіў за нешта Нальшу. Вось і ў гэтым годзе яшчэ напачатку лета спаліў збажыну. Чаму ён бяду наслаў, на каго, на што злаваў? — пра тое нават вайдэлот Тур і вярхоўны вяшчун Крыва-Крывэйта, які прыехаў у Крэва, каб прынесці ахвяры Ярылу, не дазналіся. Увесь чэрвень стаяла гэткая спёка, што, здавалася, плавіліся камяні, і сям'ю Ціта, да якой хутка павінен быў дадацца яшчэ адзін рот, зімой чакаў голад. Дый не толькі сям'і Ціта, а ўсяму Крэву, усёй Нальшы, на зямлі якой і без сонечных пажараў было ледзьве пракарміцца, выпадала гэтым годам галадаваць.

— Давайце мне лапаціну, — сказаў Ціт сынам, як толькі паснедалі. І паклаў каля пустой місы, выцершы хлебам, лыжку. — Мілава хутка народзіць, до мне ўжо...

Сыны ягоныя, старэйшы Віт, сярэдні Дан, муж Мілавы, ад якой не сёння-заўтра павінен быў з'явіцца ў Ціта ўнук, і малодшы Юр даелі сваё, таксама выцерлі хлебам і паклалі на стол лыжкі.

— Сёння?.. Ці заўтра? — спытаў Віт па праву старэйшага. І калі бацька, прамаўчаўшы на першае пытанне, на другое кіўнуў, Віт падняўся з-за стала. — Заўтра дык заўтра.

За ім падняліся Дан з Юрам. Гаварыць болей не было пра што. Воля бацькі — гэта воля бацькі. Як сказаў, гэтак мусіць быць.

З сівой даўніны вёўся ў Нальшанскай зямлі звычай: калі гаспадар, састарэўшы, знемагаў, не мог ні пасеяць, ні пажаць, ні змалаціць, а толькі з'есці, ён ці перасяляўся з чырвонага, падарскага кута ў запечча, ці, каб не быць у сям'і нахлебнікам, прасіў даць яму лапаціну.

Большасць выбірала запечча. А лапаціну выбіраў той, хто не хацеў дажываць жыццё з мышамі.

Звычай патрабаваў, каб лапаціна была альбо з гумна, дзе ёй збожжа на таку веялі, альбо з хаты, дзе на ёй цеста ў печ ставілі. Каб мела дачыненне да хлеба — і было зразумела: усё. Сыта ці не, але наеўся. З'еў чалавек сваё.

Пад захад сонца ён падымаўся з лапацінай на Ярылаву гару, дзевяць разоў абыходзіў вяршыню, укленчваў на капішчы, маліўся Ярылу, а ў хвіліну, калі сонца хавалася за небасхіл, нахіляўся ўслед за ім, кладучы галаву на ахвярны камень. Лапаціну, якую прынёс ён на плячах, браў ягоны наймалодшы сын і біў па патыліцы. Звычай патрабаваў, каб абавязкова наймалодшы — гэтак замыкаўся чарговы круг жыцця. З апошнімі сонечнымі іскрамі цвіркала, пырскала кроў, і жыццё заходзіла, закочвалася за мяжу зямлі і неба разам з сонцам...

Ціт не мог выбраць запечча.

— Што гэта з бацькам? — спытаў Дан братоў, збіраючыся ў сваю буду ў Багушоўскім лесе, дзе ён драў бяросту, нарыхтоўваў смалу, дзёгаць, вугаль. — Яму ж не час, здаровы яшчэ.

— Сын твой здаравейшы будзе, — кіўнуў Віт на Мілаву, якая грэла на сонцы пад сцяной пуні свой вялізны жывот. — Не сёння-заўтра адным ротам стане болей. Значыць, адным ротам мусіць меней стаць.

«Хто ж ведаў, што голад...» — хацеў сказаць Дан, але Юр раней сказаў: «Ты чаго яго вінаваціш? Ён жа не ведаў, што голад. А калі б і ведаў, дык што?..».

На тым размова між братамі скончылася. Юр пайшоў на свой пчальнік, а Віт, глянуўшы на круглыя грудзі над круглым жыватам Мілавы, сказаў, аблізаўшыся:

— А тое. Не трэба было гэтую смалянку да нас цягнуць. Праз яе ўсе беды. І вось пабачыш, Дан: яны яшчэ не скончыліся. Калі не так, няхай мне ні рыбы ў рацэ, ні звера ў лесе.

Юр у іх сям'і пчалярыў, бортнічаў, бо чым яшчэ, як не пчоламі, аднарукаму займацца, а Віт паляваў ды рыбачыў. Ён склаў высушаныя сеці, каб паставіць іх у Крэўлянцы на стронгу, зірнуў яшчэ раз на Мілаву і пайшоў да ракі.

Пра тое, што было, Віт праўду сказаў. Але пра тое, што будзе, багам ведаць, а не Віту.

Беды пачаліся пасля наезда на Смаленскае княства, адкуль вярнуліся нальшанцы з багатымі абозамі, лупамі, а Дан яшчэ й з паланянкай. Ён не ведаў, як насамрэч яе зваць, а яна не казала, дык Дан сам назваў паланянку Мілавай. Вядома, сапраўднае імя яе было іншае, хрысціянскае, смаляне не трымаліся гэтак за паганскую веру і звычаі продкаў, як нальшанцы, але якая розніца, як называецца гэткае дзіва...

Мілава была прыгожая, як Ляля. Багіня прыгажосці. Высокая, гнуткая, з васільковымі вачыма, белая-белая з чорнымі, як смоль, валасамі. Дан казаў, што знайшоў яе ў палацы князя, але што яна там рабіла, кім была, ад Мілавы было не дазнацца.

Смалянаў падчас апошняга наезда Нальшы ўжо абклала данінай Арда, так што выходзіла, нібы нальшанцы ўзялі ў Смаленску не сваё, ардынскае. Таму меней чым праз год паскакала на Нальшу шалёнае войска хана Бурундая разам з дружынай валынскага князя Васількі Раманавіча. Нальшанскі князь Даўмонт кінуўся па дапамогу ў Наваградак да сваяка, вялікага князя літоўскага Міндава, але сваяк не дапамог. Было ў яго іншае на мэце: далучыць да Наваградка, да Літвы нальшанскую зямлю, аслабленую набегам Бурундая. А ў Крэва разам з князем Васількам прыскакаў смаленскі князь Глеб, і разам яны Крэва нішчылі, палілі, шукаючы паланянку, пра якую казалі, што яна была нявесткай смаленскага князя, але не знайшлі яе, схаваную Данам у будзе ў Багушоўскім лесе.

Калі Васілька з Глебам пакінулі абрабаванае Крэва, калі Дан прывёў Мілаву, і калі ўсе, хто застаўся жывы, запатрабавалі прынесці яе ў ахвяру Ярылу, каб ён злітаваўся над Нальшай, вайдэлот Тур сказаў: «Не. Ярыла даў мне знак, што яму патрэбная іншая ахвяра. Большая, чым паланянка. А якая — пакуль знаку не было». І ўсе, пераглядзеўшы адзін на аднаго, прамаўчалі, не ведаючы, што гэта Ціт шапнуў вайдэлоту Туру: «Калі першай ахвярай стане смалянка, другой станеш ты». А вайдэлот Тур ведаў, як і ўсе ведалі, што Ціт, які колькі жыў на зямлі, столькі ваярыў, назабіваўшы людзей больш, чым іх засталося ў Крэве, слоў на вецер не кідае.

Быў той знак ці не было таго знаку, але паланянку Мілаву не ахвяравалі Ярылу, а ў Наваградку нечакана памерла вялікая княгіня Марта. Жонка вялікага князя Міндава. Сястра княгіні Агны, жонкі князя Даўмонта. Здаровая, трыццацігадовая — і раптам.

Дзіўная смерць. «Вялікая княгіня — вялікая ахвяра, якой хацеў Ярыла!» — абвясціў вайдэлот Тур, і ўсе на нейкі час супакоіліся, апроч самога Ярылы і вялікага князя Міндава.

Некалі Марта звалася Ведай і была жонкай князя Вішымунта, якога разам з братамі ягонымі Ердзівілам і Спрудзейкам забіў Міндаў, каб узяць Веду — гэтак яна яму глянулася. І ўзяў ён паганку Веду, якую ахрысцілі ў Марту, і яна нарадзіла яму двух сыноў, Рэпіка і Руклю. Гуляючы з імі перад сном, Марта й памерла.

# Аповесць пра чалавека,



Сяргей ЕГАРЭЙЧАНКА

Спякотны травеньскі дзень пераваліў за сярэдзіну. Сонца завісла над вершалінамі елак, яго промні хутка сушылі аголеную рыдлёўкамі глебу. Сярод зялёнага дывана маладой травы чорнымі плямамі зеўралі тры глыбокія ямы. Рота байцоў страйбата ўжо некалькі гадзінаў працягвала працу, абсалютна не разумеючы, для чаго яна патрэбна.

Але былі тут і тыя, для каго гэтая справа была не толькі не бессэнсоўнай, але й выключнай. Такіх людзей некалькі: спецыялісты-археолагі Інстытута гісторыі ды мясцовыя партыйныя функцыянеры.

— Вацлаў Міхайлавіч, — з аднаго раскопу пачуўся нізкі голас салдата. — Вам трэба на гэта паглядзець.

— Костка… — прашаптаў навуковец, асцярожна прымаючы знаходку. Нельга было вызначыць, што гэта за костка — рыдлёўка салдата, стомленага працай, проста размалацила яе на шмат маленькіх фрагментаў, якія не паддаваліся ніякай ідэнтыфікацыі.

— Далей капаць з максімальнай асцярожнасцю!

Да справы падключыліся прафесіяналы-археолагі. Праз дваццаць хвілінаў перад вачыма непрыемна здзіўленых чыноўнікаў з'явілася жахлівае відовішча: добра захаваны чэрап з акуратнай дзірачкай на патыліцы. Верхняй пярэдняй часткі фактычна не існавала — яе праламала куля на выхадзе.

Мы хацелі жыць. Вось усё, чаго мы хацелі. Жыць і працаваць. У нас не было дзяцей — мы былі яшчэ занадта маладымі.

Я спецыяльна кажу «мы». «Мы» — гэта я і мая жонка, разам з якой закончылі настаўніцкія курсы. Нам пашчасціла: размеркавалі з улікам нашага шлюбу.

Мне было дваццаць шэсць. Ёй — дваццаць чатыры. Мяне звалі Савіцкі Максім Леанідавіч. Яе — Савіцкая (Самусевіч) Таццяна Віктараўна.

Ішла восень тысяча дзевяцьсот трыццаць шостага… <…>

За пяць хвілінаў да пачатку ўрока ў дзверы зайшлі высокі малады чалавек, апрануты ў вайсковае галіфэ, і дзяўчынка.

— Старшы лейтэнант дзяржбяспекі Звягінцаў, — прадставіўся ён. — Да вас учора заходзіў маёр Раманаў…

— Так, так, вітаю, — я падняўся. — А гэта, напэўна, Валя, так?

— Дакладна, — кіўнуў галавой лейтэнант.

— Наколькі разумею, вам трэба атрымаць дакументы?

— Так, вядома. Але гэта зойме няшмат часу.

Я запісаў дадзеныя дачкі маёра ў ведамасць: Раманава Валянціна Віктараўна, 1928 года нараджэння, першы клас скончыла ў Смаленску. Я нічога не наблытаў?

— Не. Усё дакладна.

— Выдатна. У такім выпадку, я больш не буду вас затрымліваць.

— Калі мне зайсці па Валю? — запытаўся лейтэнант.

— Можаце забраць яе а палове на трэцюю.

— Дзякую, — ён казырнуў і хуткім крокам выйшаў з памяшкання…

Вацлаў Міхайлавіч Міраноўскі прыгладзіў адной рукой напаўсівыя валасы. Археолагу ішоў пяцьдзясят шосты год. Менавіта ён і кіраваў тымі раскопкамі, падчас якіх і былі знойдзеныя пахаванні расстраляных. Незвычайныя знаходкі ён дэманстраваў свайму вучню — аспіранту Акадэміі, дваццацітрохгадоваму хлопцу, які стаяў побач з ім і з вялікай цікавасцю разглядаў прадметы, выцягнутыя ягоным настаўнікам з пластыкавых пакетаў.

— Вось пагледзі сюды. Партсігар алюмініевы, цікавая знаходка. Большасць ахвяраў яўна паходзіла з простых людзей…

— Вацлаў Міхайлавіч, — аспірант адважыўся на пытанне. — А колькі чалавек было ў раскапанай яме?

— Калі падлічыць усе фрагменты костак, атрымліваецца, што не менш сарака пяці.

— А колькі выяўлена магільняў?

— Ах, вось ты да чаго… Мы налічылі дзвесце трынаццаць.

— То бок, калі ўзяць за сярэднюю колькасць сорак пяць, атрымліваецца каля… — аспірант моўчкі шавяліў вуснамі, падлічваючы пра сябе. — …дзесяці тысячаў чалавек!!!

— Я лічу, што ўсё ж такі менш. Па-першае, гэта даволі вялікая яма. Ну а па-другое… Мы не можам быць упэўненымі, што ва ўсіх ямах ёсць пахаванні. Пэўная частка з іх можа быць пустымі. Але на гэтым палігоне, мяркую, ляжыць не менш за сем-восем тысячаў чалавек.

— Сем тысячаў… А колькі можа быць такіх месцаў?..

— Ніхто не скажа табе цяпер, колькі. Адно магу сказаць — шмат.

На століку ля вакна раптам зайшоўся залівістым перакатам тэлефон. Вацлаў Міхайлавіч цяжка падняўся з-за стала і падышоў.

— Слухаю.

— Вацлаў Міхайлавіч Міраноўскі?

— Так.

— Вацлаў Міхайлавіч, вам лепей згарнуць вашыя даследаванні адносна масавых пахаванняў, якімі вы займаецеся ад мінулага тыдня, і перадаць справу вайсковай пракуратуры.

— З кім я размаўляю? Назавіцеся.

— Вацлаў Міхайлавіч, гэта вельмі настойлівая парада. Даследаванні могуць быць вельмі непажаданымі, а іх вынікі даволі небяспечнымі. Пакуль гэта толькі парада.

— Назавіце сябе!

— Маёр Камітэта дзяржбяспекі Міхалевіч… <…>

Аднекуль з гораду праз нашую вёску пачалі гойсаць вялікія чорныя машыны з крытым кузавам. Пакрысе яны прабілі праз снег і



прамерзлую глебу глыбокія каляіны — аж да самага лесу.

А на пачатку снежня ў лесе пачалося будаўніцтва. Побач з чорнымі крытымі грузавікамі з'явіліся грузавікі з адкрытымі бартамі, на якіх везлі ў лес апрацаваныя дошкі і будаўнічы матэрыял. За два тыдні трохметровы плот абкружыў лес на пяць кіламетраў углыб. На ўездзе ў лес была збітая агромістая брама. Штодзень і штоноч каля яе неслі варту два шарагоўцы НКУС…

Заняткі скончыліся дваццаць хвілінаў таму. Я пакрысе збіраў свае рэчы, перыядычна адказваючы на дзіцячыя словы развітання. Ля задніх сталоў стаялі і аб чымсьці шапталіся Ясік зВаляй. Дзеці пасябравалі, я часта заўважаў, як яны разам сыходзілі са школы, калі па Валю не заходзіў бацька-маёр альбо Звягінцаў.

— А вы чаму не сыходзіце дадому? — ветліва запытаўся я.

Яны асцярожна наблізіліся да мяне.

— Максім Леанідавіч… мы… Мы б хацелі…

— Калі ласка, я вас слухаю. У вас штосьці здарылася?

— Максім Леанідавіч… мы наконт той высокай брамы ў лесе.

— Тааак… — жэстам я загадаў ім сесці за стол перада мной, сам пайшоў і зачыніў дзверы ў класны пакой. — Вы хадзілі да брамы?

— Так, мы хадзілі. Мы… — голас Валі дрыжэў і зрываўся, было добра бачна, што яна вельмі хвалявалася і ледзьве стрымлівалася ад таго, каб не заплакаць.

Размову працягнуў Ясік.

— Максім Леанідавіч, толькі не лайцеся на нас! Мы… нам няма чаго было рабіць, і мае, і Валіны бацькі затрымліваюцца на працы ажно да ночы, вось мы і бадзяемся разам… Прыкладна за кіламетр ад брамы мы знайшлі лаз… Мы пралезлі і выйшлі да вялікай прагаліны. Там было шмат людзей у форме. Яны размаўлялі паміж сабой, палілі цыгарэты. Частка з іх збірала нейкія рэчы. А за імі вялікі бульдозер раўняў чамусьці раскапаную яму — яна была ўжо засыпаная. Але галоўнае не гэта. Галоўнае, што… гэтая яма дыхала! — Валя ледзьве не закрычала, і па яе шчоках нарэшце пацяклі слёзы.

— Цішэй, калі ласка!

— Максім Леанідавіч, яма насамрэч дыхала <…>.

Дзверы былі адчыненыя, калі я вярнуўся дадому. Я не здзівіўся — мы зрэдку зачынялі хату. Але штосьці было не так, як звычайна…

— Таня! Таняяяя!

Ты не адгукнулася.

— Таааaня!

Шкло. Бітае шкло пад нагамі. Абрус, скінуты са стала, перагорнутая шафа з кнігамі.

— Паненку забралі, Максім Леанідавіч, — я раптам пачуў асцярожны голас за спіной.

За дзвярыма стаяла нашая суседка — суханькая бабка, якая заўсёды прыносіла нам яйкі і малако. Яна стаяла, прыціснуўшы тонкія рукі да грудзей, і вачыма, напоўненымі слязьмі, глядзела на мяне.

— Хто забраў? Куды?

— Тыя самыя, з Камісарыяту, якія да вас прыходзілі некалькі разоў. Іх было чалавек пяць, і Звя… Звягінцаў…

Я ўжо не слухаў, я бег да ўпраўлення НКУС, якое месцілася праз дзве вуліцы ад нашага дома. Людзі спалохана глядзелі мне ўслед, але мне было не да іх. Хутчэй, хутчэй…

У дзверы я ўламаўся не спыняючыся, наўпрост наляцеўшы на іх локцем. Адшукаў дзяжурнага. Мне падалося, што ён не пазнаў мяне, але праз секунду ўжо расплыўся цынічнай пахмылкай.

— А, гэта вы, Максім Леанідавіч! Чым магу быць карысным?

— Звягінцаў! Дзе ён?

— Капітан Звягінцаў, вы маеце на ўвазе?

— Як… капітан?! Мне патрэбен старшы лейтэнант… Звягінцаў.

— Ну, у нашым аддзеле Звягінцаў толькі адзін, і ад учорашняга дня ён капітан, так што, мяркую, вы шукаеце менавіта яго. На жаль, яго няма на месцы, ён з'ехаў па працы.

— Мая жонка, ён сёння арыштаваў маю жонку! Я хачу ведаць, на якой падставе і дзе яна цяпер!

— А, Таццяна Віктараўна, калі не памыляюся? Так-так, сёння сапраўды арыштавалі такую. Прашу прабачэння, не магу вам нічога сказаць. Службовая тайна, вы ж разумееце, — і гэтая курва зноўку агаліла свае жоўтыя зубы ў крысінай пасмешцы.

— Дзе яна? Дзе мая жонка?!

— Вашая жонка, шаноўны настаўнік, этапавана па рашэнні пазасудовай тройкі для прыняцця пакарання згодна з артыкулам… Эй! Эй! А ну вярніся!

Я зноўку бег, не спыняючыся ні на секунду, але ўжо не адчуваў шалёнага сэрца. Тройка? Пакаранне? Таня! Танечка!!! Этапавалі… Канешне, яе адправілі кудысьці, але з ёй усё будзе добра, яна вернецца, жывая і здаровая. Этапавалі. Ці не ў лес?!

Я застагнаў ад гэтай думкі. Неее! За што?!…

Лаз, той самы лаз пад плотам. Хутчэй!

У лесе гучалі стрэлы. Што, калі я спазніўся? Што, калі яна тут? Нее. Яна не тут… яна не тут. Не тут!

Я ўпаў на зямлю, папоўз, як змяя. Безумоўна, яна не тут, але я мушу сам, на свае вочы праверыць гэта, інакш мне ніколі не будзе спакою.

Я спыніўся толькі за дваццаць метраў ад расстрэльнай каманды. Падпаўзці бліжэй было б шаленствам нават для мяне. Мяне й так не заўважылі толькі дзякуючы таму, што чэкісты былі цалкам занятыя «выкананнем».

Я адшукаў вачыма Звягінцава. Гэтая курва не прымала ўдзелу ў самім расстрэле, ён толькі аддаваў загады, флегматычна назіраючы за працэсам. Ягоныя рукі паціралі элегантны нямецкі «Вальтэр».

Яма была запоўненая ўжо амаль напалову. Нават са свайго месца я мог бачыць, што сярод расстраляных не было аніводнай жанчыны. У мяне нібыта скала звалілася з плячэй.

Мае вусны лічылі кожнага забітага. Іх колькасць блізілася ўжо да трыццаці. Па ўсім, хутка партыя павінна была скончыцца, яшчэ чалавек пяць, не больш. Божачкі, Божа, яе няма?

— Усё, таварыш капітан, — старшы з групы хутка адрапартаваў Звягінцаву. Ён казаў штосьці яшчэ, але я не чуў ягоных слоў.

Яе няма тут! Няма! Яна жывая, яна будзе жыць! Будзе жыць, мая мілая, мая каханая!

— Застаўся толькі адзін кліент, — старшы панізіў голас. — Той самы.

Па маіх вушах нібыта молатам грукнулі халодныя словы Звягінцава.

# які не хацеў быць богам

— Вывадзіце.

Цябе нават не вывалаклі — выштурхнулі з машыны. Ты білася, білася, як кацяня, на якое навалілася зграя шалёных сабак! Маё цела адмаўлялася падпарадкавацца мне. Перад вачыма паплылі чырвоныя плямы. Я сплю! Сплю! Гэтага проста не можа быць. Таня!

Капітан павольна падышоў да цябе, паглядзеў зверху ўніз, падняў нагу, нібыта з лянотай піхнуў. Ты пакацілася па бруднай зямлі, прыціскаючы свае маленькія ручкі да жывата. Ты нават не крычала ўжо, толькі ледзьве чутна ўсхліпвала, але я чуў усё.

Звягінцаў зноўку наблізіўся. Ён схапіў цябе за валасы і пацягнуў да ямы.

Раптам ты паглядзела ў мой бок. Вочы, твае самыя прыгожыя ў свеце зялёныя вочы, злавілі мяне пасярод высокай травы і маладых дрэваў і сачылі за мной.

Раптам сілы вярнуліся да майго цела. Я паспрабаваў падняцца на ногі, але твой спужаны погляд зноўку прыкаваў мяне да зямлі. Ён крычаў мне: «Не! Не!»...

— Таццяна Віктараўна, вы ж верыце ў бога? Памаліцеся яму, я дазваляю! У вас роўна паўхвіліны, — ён падняў «Вальтэр» і рэзка ўзвёў курок.

Ты не чула яго. Ты не чула ані слова з таго, што ён казаў — ты толькі глядзела на мяне і моўчкі развітвалася са мной.

Хлоп!

Твае зрэнкі ўздрыгануліся, і я мільгануў у іх на секунду, толькі на секунду, каб застацца там на вечныя стагоддзі.

— Як твой бог, сука? Да сустрэчы ТАМ!

— Кахаю, — прашаптала ты і заплюшчыла вочы.

І не было ні болю, ні надзеі. У свеце панавала чорная цішыня.

Прачнуўся і загаманіў лес. Зноўку заспявалі птушкі. Недзе далей забрахалі сабакі. Забрахалі сабакі? Забрахалі сабакі!! Брэх гучаў дзесьці наперадзе. Што за?..

Я занадта позна зразумеў, што іду па ветру. Калі ў мінулыя разы я ішоў убок ад брамы супраць ветру, сабакі не адчувалі чужога паху. Цяпер жа...

Нечакана я зноў убачыў лаз. Убачыў нібыта ў тумане — зрок адмаўляўся мне падпарадкоўвацца, ногі таксама, але я ўсё роўна ішоў нібыта ў сне туды, дзе чарнела прагаліна на месцы праламаных дошак.

Стрэлу я нават і не пачуў. Куля раструшчыла дрэва на ўзроўні галавы справа ад мяне. Да лазу заставалася яшчэ нейкіх метраў пяць, калі я пачуў крыкі вартаўнікоў. На бліжэйшым кусце яшчэ адна куля зрэзала галінку... Я кінуўся на зямлю і папоўз на жываце да ратавальнага лазу.

Брэх сабак зноўку нагнаў мяне каля хаты дзеда Юрася. Пагоня дакацілася да вёскі, і цяпер пачыналі абшукваць хаты.

— Што за... — Стары пачаў было сварыцца праз тое, што яго паднялі на досвітку, але на паўслове яго скарга абарвалася. — Максім? Што з табой? Што здарылася? Дзе Таня?

— Таня не жыве!!!

— Што? Што ты вярзеш?!

Я не адказаў. Я проста пераваліўся за парог і ўпаў на падлогу.

— Хто? Хто забіў?! Хто забіў яе?!

Я адказаў адным толькі словам:

— Звягінцаў.

Стары закрычаў. Ён крычаў у ранішняе неба, ён слаў праклёны гэтаму небу, сонцу, Звягінцаву і ўсяму свету.

З боку расстрэльнага лесу ў вёску ўварваліся чатыры чорныя варанкі. Хату абкружылі.

Стары зачыніў дзверы на замок, схапіў лом і адарваў ад падлогі чатыры дошкі. Пад імі была неглыбокая яма, у якой ляжала штосьці доўгае, загорнутае ў тканіну. Пад тканінай я ўбачыў тры вінтоўкі.

Цішыня стаяла з хвіліну. Потым на двары мы пачулі хуткія і ўпэўненыя крокі.

— Ад імя савецкай улады я загадваю вам адчыніць дзверы і даць супрацоўнікам Камісарыята арыштаваць злачынцу, — добра знаёмы голас адразу прабраў марозам да самых касцей.

— Тваё імя! — прагрымеў голас старога.

— Я паўтараю...

— Тваё, курва, імя!!!

— Капітан Камісарыята ўнутраных спраў Звягінцаў.

Гэтага было дастаткова. Дзед выбіў ствалом вінтоўкі шкло ў вакне і стрэліў.

— Па вокнах плі!

Я нават не паспеў націснуць на курок, як рэзкі боль адкінуў мяне ад вакна. Плячо было прастрэлена, з яго біла кроў.

Дзед Юрась высунуўся ў акно, каб адшукаць Звягінцава, і раптам схапіўся за грудзі ды апляў на падлогу.

— Вось... і ўсё, сынку... — ён расцягнуў вусны ў змучанай усмешцы. — Я б... хацеў быць... богам... каб іх... — ён закашляўся, на вуснах з'явілася кроў. — Іх... на нашае месца...

Дні ў раённым аддзяленні Камісарыята нічым не адрозніваліся ад начэй. Тут заўсёды было цёмна, пахла сырасцю, крывёй і дымам. А яшчэ тут былі пацукі. Шмат пацукоў — цэлае пацучынае войска маршыравала па падлозе падземных камераў. Пацукі не нападалі на жывых вязняў — яны былі сытыя, бо маглі пачаставацца тымі, каму было ўжо ўсё роўна.

Допыты цягнуліся бясконца, адзін за адным. Змяняліся следчыя, змяняліся ахоўнікі. Нязменным было толькі пачуццё поўнай пустэчы. Так, я не адчуваў абсалютна нічога: ні болю, ні страху, ні жалю. Мяне білі, а я не заўважаў гэтага. Часам мне падавалася, што я памёр, і мая душааднекуль зверху назірае за тым, як нястомныя ка́ты чамусьці працягваюць здзекавацца з мёртвага цела.

Я згубіў лік часу. Для мяне было абсалютнай тайнай, колькі я быў тут ужо — дзень, месяц, год альбо стагоддзе.

Памятаю, калі я ўпершыню абудзіўся тут, я папрасіў следчага — маладога хлопца маіх гадоў з абыякавым выразам на твары — паклікаць маёра Раманава. Той падняў галаву ад сваіх папераў і крыху здзіўлена запытаўся:

— Раманава? Маёр Раманаў выбыў ужо два тыдні таму.

— Выбыў? Што гэта значыць?

— Быў зняты з пасады і расстраляны...

Увесь час мне задавалі нейкія пытанні, сэнсу якіх я не мог зразумець. Здаецца, мяне вінавацілі ў злачынствах супраць Саветаў, шпіянажы...

Я не чакаў смерці як вызвалення. Я нічога не чакаў, як нічога не адчуваў. Бог быў там, наверсе, і ён назіраў за ўсім, што са мной адбывалася. Я не хацеў быць богам. Я б не змог быць такім бессардэчным, якім павінен быць Бог.

Праз тыдзень — ці тысячагоддзе? — мяне ў чарговы раз вывалаклі з камеры, каб адвесці на допыт. Кабінет следчага, у якім я ведаў кожны міліметр падлогі, у якім на кожнай сцяне былі сляды маёй крыві, быў незачынены. За сталом сядзеў хтосьці, каго я яшчэ ні разу не бачыў на сваіх допытах. Гэты чалавек, апусціўшы галаву, чытаў нейкія дакументы, якія ляжалі перад ім.

Канваіры пасадзілі мяне на цвёрды стул, нехта адрапартаваў:

— Савіцкага прывялі, таварыш капітан.

Ах вось яно што! Чарговы следчы быў нікім іншым, як самім Звягінцавым. Прывітанне, гад, даўно не бачыліся!

Забойца падняў галаву і з усмешкай паглядзеў на мяне.

— Ну як вашыя справы, Максім Леанідавіч? Чуў, што вы ніяк не жадаеце праявіць разуменне і пасупрацоўнічаць са следствам. Гэта нявытлівa з вашага боку! Бачыце, нават мяне ад працы адарвалі, каб я з вамі паразмаўляў... Мне тут казалі, што ты, сука, нібыта, не баішся болю і біць цябе не мае аніякага сэнсу. Можа быць, я не буду правяраць, мне ўсё роўна. Хачу, каб ты разумеў: у мяне вельмі мала часу, сам ведаеш, палігон чакае, — ён зноўку ўсміхнуўся. — З гэтай нагоды я не буду расцягваць бясспрэчную радасць ад размовы з табой, ты падпішаш пратакол, які павінен быў падпісаць яшчэ тыдзень таму, і мы з табой назаўсёды развітаемся. Як табе такі варыянт?

— Паршыва. Твае, капітан, выблядкі так і не змаглі мне растлумачыць сутнасць усіх абвінавачванняў. — Я закашляўся.

Капітан схапіў мяне за валасы і прыпячатаў галавой да сталешніцы. Па шэрым метале расплылася цёмначырвоная пляма.

Звягінцаў схапіў са стала дакументы, якія ён вывучаў да майго з'яўлення, і падсунуў мне пад нос:

— Распавяду табе адну цікавую гісторыю. Наколькі я ведаю, ты ўсюды казаў, што не ведаеш свайго бацьку, табе пра яго ніколі не распавядалі і сам ён памёр яшчэ да тваёго нараджэння. Гэтым казкам верылі, праверыць усё роўна не было аніякай магчымасці. А некалькі месяцаў таму я ўздзельнічаў у арышце аднаго старога, якога вінавацілі ва ўзброенай барацьбе супраць савецкай улады. У ягонай хаце мы знайшлі досыць цікавыя дакументы і фотаздымкі. Паглядзі сюды, — і ён ткнуў пальцам у нейкую паперу.

Я прагледзеў дакумент. Наколькі зразумеў, гэта было штосьці накшталт узнагароднага ліста. Дзясятым у спісе стаяла прозвішча... Савіцкага Леаніда Мікалаевіча!

— Ён быў асабістым ад'ютантам вядомай гніды, якую ягоныя шаўкі звалі генералам Булак-Балаховічам!.. — капітан гагатнуў. — Цэлы стос дакументаў гэтага злачынцы захаваўся ў схроне, які ён зладзіў наўпрост у сваёй хаце. А цяпер глянь сюды, — і Звягінцаў падштурхнуў да мяне жоўты фотаздымак. На ім я ўбачыў шмат людзей у вайсковай форме, якія абкружылі маладога мужчыну з чорнымі вусамі, георгіеўскім крыжом і яшчэ нейкімі ўзнагародамі, якія я не пазнаў.

Звягінцаў ткнуў пальцам у самы кут фотаздымка, на аднаго з вайскоўцаў, які стаяў асобна.

— Паглядзі! Не пазнаеш?

Я пазнаваў. З фотаздымка на мяне глядзеў... нібыта я сам!..

Перада мной ляжалі паперы, якія я мусіў падпісаць. Я адсунуў пратакол.

— Ну і як гэта разумець? — спакойна спытаў капітан.

— Падавіся ты, гад. Колькі б ты мяне не біў, колькі б не ламаў касцей і не зрываў скуры з мяса, я нічога не падпішу. Якая мне розніца, калі ты ўсё роўна загадаеш расстраляць мяне. Можа быць там, наверсе, я зноўку буду з маёй Таццянкай? Хто ведае, можа быць, мы вернемся на зямлю, вернемся, каб адпомсціць табе і табе падобным. Даставай свой «вальтэр», забі мяне, як забіў яе.

Звягінцаў сапраўды дастаў «вальтэр». Але ён не стаў страляць. Ён толькі размахнуўся і ўдарыў мяне па галаве. Я праваліўся ў цемру...

А калі праз дзве гадзіны расплюшчыў вочы, капітан сядзеў насупраць і з нязменнай усмешкай разглядаў паперы, якія я адмовіўся падпісаць.

— Добрай раніцы, Максім Леанідавіч! Паглядзі сюды, — і ён зноў сунуў мне пратакол.

Я не верыў сваім вачам: мой подпіс стаяў пад дакументам.

— Цікава, праўда? Ну вось што перашкаджала мне адразу самому паставіць за цябе твой подпіс? Узор у мяне быў, а разбірацца ніхто не будзе, гэта я гарантую. Мог бы не марнаваць некалькі гадзінаў, — ён зарагатаў. — Ты ведаеш, я ж хацеў табе аказаць адну паслугу. Калі б ты падпісаў паперу сам, ты б сапраўды атрымаў па-хуценьку кулю ў патыліцу. Хто ведае, а раптам ТАМ ты б сапраўды сустрэў сваю суку, а? — Ён зноўку зарагатаў. — А так... ты не пажадаў супрацоўнічаць, гэта заўсёды караецца вельмі жорстка. Шмат хто лічыць, што самае страшнае пакаранне, якое можа прызначыць Камісарыят, гэта расстрэл. Глупства. У мяне тут ёсць два аркушы. На іх два варыянты прысудаў для цябе. Абодва яны могуць быць правамоцнымі пасля таго, як я пастаўлю свой подпіс. Такім чынам... — ён выцягнуў адзін аркуш. — Першы прысуд: «Савіцкаму Максіму Леанідавічу прызначыць пакаранне ў выглядзе расстрэлу». Другі прысуд... так, так, а вось, тое што трэба: «...прызначыць пакаранне ў выглядзе пажыццёвага зняволення ў сістэме папраўчых лагераў Савецкага Саюза, без права амністыі, без права ліставання, без права...». Тут яшчэ шмат без якога права, прасцей для цябе будзе зразумець, што ад гэтага моманту ў цябе няма права ні на што абсалютна. Такім чынам, што ж мне абраць... — Ён тэатралізавана задумаўся. — Думаю, што такога лёгкага пакарання, як расстрэл, ты не заслужыў, — ён парваў першы аркуш. Пад другім жа паставіў подпіс і адклаў яго ў планшэт.

Вагон быў халодны і сыры. Як і ў камеры, тут было шмат пацукоў. Але ў адрозненне ад тых, турэмных, гэтыя былі галоднымі...

Нам не казалі, куды рухаецца этап. Мы не павінны былі гэтага ведаць. Адгэтуль мы не павінны былі ведаць нічога. Мы былі нікім, і імя нам было ніхто. Адзінае, што мы ведалі — мы больш не людзі. Нам нельга было размаўляць, нельга было скардзіцца, нельга прасіць.

У вагоне нас такіх было чалавек семдзесят. Як шапнуў адзін з вязняў, нам яшчэ пашанцавала: чэкісты перавозілі ў такіх вагонах і па дзвесце чалавек. Але мне было ўсё роўна. Для мяне навокал не было больш нікога — толькі душы пакутнікаў, яшчэ не мёртвых, але ўжо й не жывых.

А яшчэ са мной побач былі мае анёлы. Ты, мая мілая, і дзед Юрась. Вы кожны вечар былі са мной, вы шапталі мне ласкавыя словы, вы суцяшалі мяне. Толькі вы былі рэальнымі, усё ж астатняе, што я бачыў навокал: сцэны вагона, канвойных, вязняў, — яны былі прывіднымі, ілюзорнымі, ненатуральнымі. Я нібыта бачыў гэта ўсё ў сне і, як і ў сне, спакойна назіраў, нібыта ведаючы, што сон рана ці позна скончыцца, што я расплюшчу вочы, а навокал мне будуць зычыць добрай раніцы мае родныя, мае дарагія, мае светлыя. І хоць сон будзе доўжыцца шмат страшных гадоў, я не хваляваўся.

Усё ж такі Звягінцаў не перамог. Ён хацеў, каб я пражыў доўгае жыццё, поўнае пакутлівай рэальнасці і балючых успамінаў. Ён пралічыўся толькі ў адным: больш не было жыцця. Было існаванне, быў толькі сон, а без жыцця пакуты не маюць аніякага сэнсу — іх нельга адчуваць. І я ўсміхаўся начамі, калі мяне ніхто не бачыў, усміхаўся ад адной гэтай думкі — што хоць у чымсьці я перамог д'ябла.

Я бачыў наперадзе доўгія дзесяцігоддзі, бачыў гэтак жа ясна, нібыта ўжо пражыў іх і ведаў, што чакае маю краіну. Я не баяўся нічога. Я толькі чакаў...

**(Тэкст друкуецца ў скароце.)**

# Далёка ад родных нябёсаў



Уладзімір АРЛОЎ

**Адсутнасць сваёй дзяржавы, каланіяльны стан краю наканаваў шматлікім адораным разнастайнымі талентамі ліцьвінам-беларусам служыць не сваёй культуры: ствараць кнігі, займацца гісторыяй, філалогіяй, педагогікай. Мы ведаем пра геніяльнага Адама Міцкевіча, які называў сваю радзіму Літвой, высока цаніў беларускую мову, але мусіў пісаць па-польску. У гэтым апавяданні пойдзе гаворка пра іншых творцаў, а таксама пра вучоных-гуманітарыяў, якія пакінулі сваю важкую спадчыну суседнім, а часам і далёкім народам і краінам. Разам з тым дасягненнямі суайчыннікаў маем права ганарыцца і мы, беларусы.**

## Слуга музы Кліо

У антычных міфах згадваюцца музы — багіні, шанаваныя як апякункі навук і мастацтваў. Музай гісторыі сярод дзевяці сясцёр была Кліо. Верным слугой Кліо любіў называць сябе выпускнік Полацкай езуіцкай Акадэміі народжаны ў мястэчку Падароск Ваўкавыскага павета Максімілян Рыла.

У 1820 годзе цар Аляксандр I выдаў указ пра высылку сяброў Таварыства Ісуса з Расейскай імперыі і закрыцці ўсіх езуіцкіх навучальных установаў, якія былі самымі перадавымі для свайго часу. Высланцамі сталі болей чым трыста выкладчыкаў, навукоўцаў, святароў. Радзіму пакінуў і малады магістр філасофіі Рыла. Ён працягваў навучанне ў Папскім універсітэце ў Рыме і стаў там прафесарам.

Як давераная асоба Ватыкана Максімілян наведаў Ліван, Сірыю, Егіпет, Мальту і Сіцылію. Паўсюль ён, апрача дзейнасці прапаведніка і місіянера, займаўся археалагічнымі росшукамі. Рыла першы з еўрапейцаў вывучаў руіны Вавілона. Ён сабраў і падараваў Ватыканскаму музею вялікую калекцыю сваіх знаходак і быў абраны ў Папскую археалагічную акадэмію. У сталіцы Лівана горадзе Бейруце прафесар Рыла заснаваў каталіцкі калегіюм, што па часе стаў універсітэтам. Жыццёвы шлях Максіміляна заўчасна абарваўся ў час місіянерскай вандроўкі ў Судан, а пахавалі прафесара ў Каіры.

## «Клянуся Зеўсам, Зямлёю, Сонцам...»

У раскрыццi таямніцаў далёкай гісторыі вызначыўся яшчэ адзін ліцьвін-беларус — Кароль Касцюшка-Валюжыніч родам з Дрысенскага павета Віцебскай губерні. Маёнтак яго бацькі Новае Сяло месціўся побач з мястэчкам Друя. Пра сваё паходжанне народжаны ў 1847 годзе Кароль пісаў: «Не хаваю ліцьвінскай нацыянальнасці і рымска-каталіцкага веравызнання».

Дзед будучага вучонага ваяваў пад сцягамі Тадэвуша Касцюшкі, а бацька падтрымліваў



Кароль Касцюшка-Валюжыніч. Здымак канца XIX – пачатку XX ст.

змагароў 1863 года. Успаміны пра тыя падзеі часта гучалі ў сямейным коле і фармавалі светапогляд Тадзіка. Старадаўняя Друя з велічным Траецкім касцёлам і недалёкі Полацак, дзе Кароль часта бываў з бацькамі, рана нарадзілі ў хлопчыка схільнасць да гісторыі. Асабліва ўражваў яго авеяны легендамі Сафійскі сабор — сведка нашай даўняй дзяржаўнасці і культуры.

Вучыцца Караля выправілі на падрыхтоўчае аддзяленне Пецярбургскага Горнага інстытута, які забяспечваў выпускнікам добрыя пасады і заможнае жыццё. Аднак начальства звярнула ўвагу на вольналюбівая погляды навучэнца. Апрача таго ён даводзіўся сваяком правадыру антырасейскага паўстання 1794 года... Юнаку давялося вярнуцца ў бацькаў маёнтак і ўладкавацца працаваць на чыгунку. Жыццё склалася так, што з прычыны цяжкай хваробы лёгкіх дактары параілі Каралю памяняць клімат на крымскі, і ён набыў дом у Севастопалі.

Крым, дзе некалі існавалі антычныя гарады, нездарма называлі «залатым дном для гісторыкаў». Касцюшка-Валюжыніч вырашыў, што далучыцца да пошуку старажытных помнікаў. Ён заснаваў гурток аматараў гісторыі Крыма, пры якім дзейнічалі музей і бібліятэка. З таго часу галоўнаю справай для Караля сталі раскопкі колішняга грэцкага Херсанеса, што стаяў на месцы Севастопаля. Гэтым росшукам ён аддаў дваццаць гадоў жыцця.

Касцюшка-Валюжыніч адкрыў антычныя храмы, муры і гарадскую браму, скляпы з залатымі і срэбнымі ўпрыгожваннямі. Самай значнай знаходкай стала мармуровая стэла з прысягаю жыхароў Херсанеса III стагоддзя да нашай эры. На думку гісторыкаў, гэтая клятва роднаму гораду паўнатой свайго зместу і літаратурнымі вартасцямі перасягае прысягу афінянаў.

Археолаг з Дрысеншчыны стварыў Музей старажытнага Херсанеса і быў яго першым дырэктарам. Сучасныя студэнты-гісторыкі, якія прыязджаюць у Крым на археалагічную практыку, паводле даўняй традыцыі прамаўляюць каля магілы Караля Касцюшкі-Валюжыніча словы адкрытай ім прысягі: «Клянуся Зеўсам, Зямлёю, Сонцам, багамі, багінямі і героямі алімпійскімі, што не здраджу Херсанесу...».

## Прататып адваката Фецюковіча

Уклад у гістарычную навуку XIX стагоддзя зрабіў і рэчыцкі нараджэнец, выпускнік Менскай гімназіі Уладзімір Спасовіч. Ён займаўся мінулым заходнееўрапейскіх і славянскіх краін, падрыхтаваў да выдання Статуты Вялікага Княства Літоўскага (іх забаранілі друкаваць у сувязі з паўстаннем 1863 года).

З-пад пяра Спасовіча, які быў адным з заснавальнікаў Варшаўскага навуковага таварыства і ганаровым доктарам Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве, выйшлі працы па гісторыі літаратуры, у тым ліку прысвечаныя Адаму Міцкевічу і Уладзіславу Сыракомлю.

Спасовіч атрымаў дыплом юрыдычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта, загадваў там катэдрай крымінальнага права і напісаў адзін з найлепшых падручнікаў па гэтай дысцыпліне. Праславіўся і як адзін з самых паспяховых адвакатаў Пецярбурга і Варшавы. Узгадайце ягонае імя, калі будзеце чытаць раман Фёдара Дастаеўскага «Браты Карамазавы». Уладзімір Спасовіч — прататып адваката-беларуса Фецюковіча.

## «Над Нёманам» і «Кароль у Нясвіжы»

Беларусь «падаравала» — найперш Польшчы і Расеі — шмат знакамітых пісьменнікаў. Паміж іх былі тыя, хто ўсведамляў сябе не расейцамі і не палякамі, а ліцьвінамі-беларусамі, аднак воляю лёсу здабылі прызнанне на чужыне.

Беларуская рэчаіснасць, жыццё сялянаў і шляхты, падзеі 1863–1864 гадоў адлюстраваліся ў прозе польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі. Непарыўна звязаны з нашай зямлёю сюжэтам ды вобразамі і раман «Над Нёманам» — вяршыня творчасці Ажэшкі. Яна нарадзілася паблізу Горадні, а затым доўгі час жыла ў гэтым горадзе. Сёння там працуе яе дом-музей, ёсць вуліца Ажэшкі і помнік пісьменніцы. Вялікімі тыражамі выдаюцца яе кнігі ў перакладзе на беларускую мову.

З беларускага роду выводзіў сваё паходжанне польскі пісьменнік, аўтар амаль 600 тамоў твораў Язэп Крашэўскі. За такое дасягненне літаратара ўнеслі ў Кнігу рэкордаў Гінэса, дзе яго называюць «чэмпіёнам прыгожага пісьменства эпохі гусінага пяра». Магчыма, вы ўжо чыталі пераўвасобленыя па-беларуску гістарычныя аповесці Крашэўскага «Кароль у Нясвіжы», «Апошнія хвіліны князя ваяводы (Пане Каханку)», «Маці каралёў» (пра жонку Ягайлы Соф'ю Гальшанскую), «Апошняя з слуцкіх князёў» (пра асветніцу і святую Сафію Слуцкую).

## Нямцэвіч, Мілаш, Апалінэр

Ліцьвінамі-беларусамі былі бацькі польскага літаратара, аўтара раманаў, п'ес, вершаў і перакладаў Юльяна Нямцэвіча. У 1794 годзе Нямцэвіч стаў ад'ютантам і сакратаром Тадэвуша Касцюшкі. Яны разам адбывалі зняволенне ў Петрапаўлаўскай фартэцы, а потым выехалі ў ЗША. Юльян напісаў кнігу-біяграфію першага прэзідэнта гэтай краіны Джорджа Вашынгтона, якога ведаў асабіста. З-пад пяра Нямцэвіча выйшлі падарожныя нататкі, успаміны, гістарычныя нарысы, дзе апісаныя беларускія гарады, жыццё і побыт сялянаў.

Мястэчка Чарэя, што недалёка ад Чашнікаў, — радзіма выдатнага французскага паэта Оскара Мілаша. Далёка ад беларускіх краявідаў ён пісаў, што часта бачыць у снах старадаўнюю Траецкую (Белую) царкву на беразе вялікага і прыгожага Чарэйскага возера. Цяпер у тых мясцінах адбываюцца міжнародныя фестывалі музыкі і мастацтва.

З беларускага рода Кастравіцкіх — класік французскай паэзіі Гіём Апалінэр. Маёнтак ягоных



Гіём Апалінэр

продкаў канфіскавалі за ўдзел у паўстанні 1863 года, і дзед будучага творцы выехаў за мяжу.

## Ахрышчаны ў гонар Касцюшкі

У Расеі праславіўся як літаратар Фадзей (Тадэвуш) Булгарын. Ягоны бацька меў маёнтак у Менскім павеце, змагаўся ў шэрагах касцюшкаўцаў і даў сыну імя ў гонар паўстанцкага правадыра. Пасля сібірскай высылкі Булгарын-старэйшы выхоўваў сына ў «сармацкім духу»: уранні будзіў яго стрэламі з пісталета або сцюдзёнай вадой, рана навучыў ездзіць конна і абыходзіцца са зброяй, на некалькі дзён браў з сабой на паляванні. Такая загартоўка спатрэбілася Тадэвушу, калі ён ваяваў у Вялікай арміі Напалеона. За геразім Булгарын асабіста ад французскага імператара атрымаў званне капітана і стаў кавалерам ордэна Ганаровага легіёна.

Першыя творы Тадэвуш Булгарын пісаў і друкаваў па-польску. Настала пасяліўшыся ў Пецярбурзе, ён перайшоў на мову імперыі і хутка апынуўся ў ліку самых папулярных пісьменнікаў, журналістаў і выдаўцоў. Стварыў першы ў Расеі тэатральны альманах, заснаваў літаратурна-палітычную газету «Паўночная пчала».

Булгарын выдаў цэлую бібліятэку ўласных твораў. Найвялікшы поспех напаткаў ягоны раман «Іван Выжыгін». Ён тройчы перавыдаваўся ў Расеі і быў перакладзены на пяць еўрапейскіх моваў. У літаратуры нашых усходніх суседзяў менавіта Булгарын — заснавальнік жанраў авантурнага і фантастычнага раманаў. Тым часам пісьменнік не парываў сувязяў з радзімаю бацькоў. У сваіх творах ён шмат разоў згадваў беларусаў і Беларусь, смела называючы яе «крайнай».

## З даўніх ліцьвінскіх родаў

Беларусы з паходжання — расейскія пісьменнікі Фёдар Дастаеўскі, Іван Бунін (з роду Бунікоўскіх), Аляксандр Грыбаедаў (з роду Грыбоўскіх), Фёдар Глінка, Аляксандр Грын (сын высланага каліноўца Стэфана Грынеўскага).

А ці ведаеце вы, што продкі няньки Аляксандра Пушкіна — прыгоннай сялянкі Арыны Радзівонаўны — былі высланыя з-пад Кобрына за падтрымку вызвольнага паўстання Касцюшкі? Тут дарэчы нагадаць, што беларускія казкі, якія паэт слухаў у дзяцінстве, — адны з найбагацейшых па сваіх сюжэтах у Еўропе.

Дагэтуль малавядомая і такая цікавая рэч: словы да дзіцячай навагодняй песні «В лесу родилась ёлочка» сто дваццаць гадоў таму напісала нашая суайчынніца Раіса Гедройц, якая служыла ў Маскве гувернанткай...

## Зоркі першай велічыні

Беларускія таленты спрыяліся да развіцця ў Расеі тэатральнага і музычнага мастацтва.

З Шклоўскага прыгоннага тэатра царскага вяльможы Сямёна Зорыча ў Пецярбург перавялі чатырнаццаць самых таленавітых артыстаў і артыстак. Балярыны сёстры Кацярына і Пелагея Азарэвіч сталі зоркамі першай велічыні на пецярбургскай і маскоўскай сцэнах.

Дочкі Кацярыны — Надзея і Марыя — таксама бліскуча выступалі ў балетных і драматычных спектаклях сталічных тэатраў. Марыя першай выканала ролю Лізы ў пастаноўцы камедыі «Гора ад розуму» паводле п'есы Аляксандра Грыбаедава.

Пасаду «дырэктара музыкі» пецярбургскіх імператарскіх тэатраў тады займаў кампазітар Восіп Казлоўскі, беларускі шляхціц з Мсціслаўшчыны. Некалі ён даваў урокі юнаму Міхалу Клеафасу Агінскаму, а пазней выдаваў ягоныя музычныя творы. Казлоўскі — адзін з пачынальнікаў жанру расейскага рамансa. Ён напісаў паланэз «Гром победы, раздавайся», што нейкі час лічыўся гімнам імперыі.

## Натхняліся беларускімі мелодыямі

Вёска Наваспаскае ў цяперашнім Ельнінскім раёне Смаленшчыны — радзіма заснавальніка расейскай класічнай музыкі Міхаіла Глінкі. Яшчэ ў 1970-я гады старэйшыя жыхары Наваспаскага — аўтар гэтых радкоў чуў на свае вушы — гаварылі на цудоўнай беларускай мове.

Глінка стварыў оперы «Іван Сусанін» і «Руслан і Людміла», раманс «Я помню чудное мгновенье», якімі ганарыцца культура ўсходніх суседзяў Беларусі.



Міхаіл Глінка. Патрэт А. Гараўскага

Праўда, расейцы звычайна «забываюць» адзначыць, што творчасць кампазітара заўсёды несла ў сабе водгук беларускіх народных песняў. Менавіта ў мясцінах дзяцінства Міхаіл Глінка запісаў мелодыю славутай «Камарынскай».

З беларускіх родаў паходзілі кампазітары Мадэст Мусаргскі і спявак, зорка пецярбургскага Марыінскага тэатра Фёдар Стравінскі. Ягоны сын Ігар здабудзе славу аднаго з найвыдатнейшых кампазітараў ХХ стагоддзя. Знакаміты дзеяч музычнага мастацтва Дзмітрый Шастаковіч — унук паўстанца 1863 года.

Заходнія суседзі Беларусі лічаць «бацькам польскай оперы» Станіслава Манюшку. Дзіцячыя і юначыя гады будучага кампазітара прайшлі ў мястэчку Убель Ігуменскага павета (цяпер у Чэрвеньскім раёне) і ў Менску. Манюшка быў пачынальнікам і нашага опернага мастацтва: паставіў на менскай сцэне ў суаўтарстве з пісьменнікам Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам оперу «Сялянка». Пражыўшы другую частку жыцця ў Варшаве, Станіслаў Манюшка часта натхняўся роднымі яму з малых гадоў беларускімі мелодыямі.



Станіслаў Манюшка

Польскі кампазітар і дырыжор Мечыслаў Карловіч, якога называюць пачынальнікам польскай сімфанічнай музыкі, родам з Смаргоншчыны. Сімфанічная паэма Карловіча «Літоўская рапсодыя» заснаваная на беларускіх народных песнях, а ў паэме «Адвечныя песні» выразна гучаць мелодыі беларускіх жалобных спеваў.

## «Махабхарата» і японскі слоўнік

Беларусь дала тагачаснай навуцы шмат таленавітых мовазнаўцаў.

Палачанін, сын вуніяцкага святара і выхаванец Полацкай вышэйшай піярскай вучэльні Каятан Касовіч стаў першым у Расеі санскрытолагам — знаўцам санскрыту (даўняй літаратурнай мовы Індыі). Ён склаў санскрыта-расейскі слоўнік і пераклаў адзін з найкаштоўнейшых твораў сусветнай літаратуры — індыйскую «Махабхарату».

Касовіч займаўся перакладамі з старажытных грэцкай, персідскай і габрэйскай моваў. Ён быў праўдзейным сябрам французскіх, нямецкіх і англійскіх навуковых таварыстваў. Персідскі шах адзначыў Касовіча адной з самых высокіх узнагародаў сваёй дзяржавы — ордэнам Льва і Сонца. Наведваючы ў Лондане праслаўлены Брытанскі музей, дасведчаны палачанін звярнуў увагу яго супрацоўнікаў на тое, што асірыйскія клінапісныя таблічы вісяць у іхняй экспазіцыі дагары нагамі.

У сям'і вуніяцкага святара нарадзіўся і Язэп Гашкевіч родам з Рэчыцкага павета. Гэты выпускнік Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі даследваў культуру Кітая, Карэі ды Японіі, выдаў першы японска-расейскі слоўнік. Ён стаў першым расейскім консулам у Японіі, а таксама адным з першых іншаземцаў, каму японская ўлады дазволілі наведаць унутраныя раёны краіны. Калекцыі флоры і фаўны, сабраныя ў вандроўках, Гашкевіч падараваў заалагічнаму музею ў Пецярбурзе.



Бюст Язэпа Гашкевіча ў Астраўцы

Імя нашага земляка ўвекавечанае ў назвах затокі ў Паўночнай Карэі і вуліцы ў Менску. Помнікі Язэпу Гашкевічу ўсталяваныя ў горадзе Хакадатэ на японскім востраве Хакайда і ў беларускім Астраўцы, паблізу якога стаяў маёнтак, дзе вучоны пражыў апошнія гады. Пісьменнік Васіль Гузанаў выдаў пра Гашкевіча дакументальную аповесць «Адысей з Беларусі».

Бацька філолага і гісторыка Восіпа Кавалеўскага служыў святаром у вуніяцкай царкве на Гарадзеншчыне. Такое паходжанне яшчэ раз сведчыць, што вуніяцкае асяроддзе вельмі часта давала адукаваных асобаў з шырокім кругаглядам і здольнасцю сказаць сваё слова ў навуцы і культуры.

З сям'і святара-вуніята з Віцебшчыны выйшаў і расейскі філосаф Мікалай Лоскі.

## Восіп Кавалеўскі і Эдвард Пякарскі

За прыналежнасць да філаматаў і філарэтаў Восіпа Кавалеўскага выключылі з Віленскага ўніверсітэта і выслалі ў Казань. Там ён дасягнуў поспехаў у вывучэнні ўсходніх моваў і асабліва зацікавіўся мангольскай. Малады навуковец шмат падарожнічаў па Манголіі ды Кітаі і вярнуўся ў Казанскі ўніверсітэт з казачна багатым зборам рукапісаў на мангольскай, тыбецкай, кітайскай і маньчжурскай мовах. Ён выдаў граматыку мангольскай мовы, мангольска-расейска-французскі слоўнік, «Мангольскую хрэстаматыю». Кавалеўскага абралі акадэмікам Пецярбургскай акадэміі навук, а затым — рэктарам Казанскага ўніверсітэта.

Этнографа, географа і фальклярыста Эдварда Пякарскага, які нарадзіўся ў Ігуменскім павеце, лічаць «бацькам якуцкай літаратуры». За ўдзел у руху рэвалюцыянераў-народнікаў Пякарскага адлічылі з інстытута



Эдуард Пякарскі

без права паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Яго выслалі ў Якуцію, дзе давялося пражыць дваццаць гадоў. Навуковы склад розуму Пякарскага не дазваляў яму сядзець без справы. Ён заняўся вывучэннем якуцкіх традыцый і абрадаў, казак і песняў. Але галоўным клопатам стала складанне першага ў гісторыі слоўніка якуцкай мовы. У гонар Эдуарда Пякарскага ў Якуцку названыя вуліца і школа, створаны яго музей. Урад сучаснай Рэспублікі Саха (Якуціі) заснаваў стыпендыі імя Пякарскага і выдзеліў грошы на рэстаўрацыю ягонага паўразбуранага надмагільля ў Пецярбурзе. Мясцовыя чыноўнікі помнікам славутаму беларусу не цікавіліся...

## У падмурак Адраджэння

Выпускнік Магілёўскай духоўнай семінарыі Іван Насовіч супрацоўнічаў з Пецярбургскай Акадэміяй навук і Расейскім геаграфічным таварыствам, выконваў іх замовы і ганараваўся высокімі прэміямі. Ён склаў першы гістарычны слоўнік беларускай мовы на 13 тысяч слоў, зборнікі прыказак і прымавак, народных песняў, легендаў і баек. У гэтым дапамагалі шматлікія падарожжы па родным краі.

Галоўная праца Івана Насовіча, якая прынесла яму ўдзячную памяць суайчыннікаў, — выдадзены ў 1870 годзе «Слоўнік беларускай мовы». Туды ўвайшло болей за 30 тысяч слоў, запісаных самім аўтарам у Віцебскай, Магілёўскай, Менскай і Гарадзенскай губернях, а таксама ўзятых з даўніх помнікаў пісьменства і вуснай народнай творчасці.

Праца Насовіча — з тых, што леглі ў падмурак беларускага



Іван Насовіч

Адраджэння. Слоўнік перавыдадзены пры канцы ХХ стагоддзя і дагэтуль лічыцца ўнікальным зборам айчыннай лексікі.

## Настаўнік настаўнікаў

Шмат хто з вас, відаць, чуў пра знакамітага педагога Канстанціна Ушынскага. Паводле апошніх звестак, гэты асветнік і заснавальнік педагагічнай навукі ў Расеі нарадзіўся не ў Туле (так сцвярджаюць расейскія даведнікі і энцыклапедыі), а ў сям'і беларускага шляхціча пад Маладзечнам.

У сваіх педагагічных кнігах, падручніках і артыкулах Ушынскі падкрэсліваў: школа павінна не толькі падрыхтаваць чалавека да жыцця і працы, але і выхаваць пачуцці патрыятызму, абавязку перад народам. Ён лічыў, што ў выхаванні дзяцей велізарную ролю адыгрывае сям'я. Вялікую ўвагу Ушынскі надаваў мове навучання і быў перакананы, што кожны народ мае права мець школу на роднай мове.

Настаўніку настаўнікаў, як называлі Ушынскага, належаць мудрыя словы-папярэджанне: «Калі вымерла мова ў вуснах народа, вымер і народ».

Уявіце, колькі зрабіў бы для свайго народа Канстанцін Ушынскі, калі б тады існавалі беларуская дзяржава і адукацыя на беларускай мове...

***

...У 1897 годзе ў Расейскай імперыі адбыўся першы ўсеагульны перапіс насельніцтва. Апытання пра нацыянальнасць не праводзілася, але перапісчыкі павінны былі высветліць родную мову жыхароў. 5 мільёнаў 711 тысяч чалавек назвалі роднай мовай беларускую. Бальшыня з іх жыла ў Віленскай, Гарадзенскай, Менскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях. Некалькі сотняў тысяч беларусаў налічвалася ў Смаленскай, Чарнігаўскай і Ковенскай губернях. У «Северо-Западном крае» — так афіцыйна менавалі Літву-Беларусь імперскія ўлады — пра беларускую мову як родную заявілі звыш 50 працэнтаў шляхты, 60 працэнтаў настаўнікаў, 40 працэнтаў чыноўнікаў. Гэта сведчыла, што каланізатары, нягледзячы на ўсе намаганні, не здолелі ператварыць нашых продкаў у расейцаў. З кожным годам колькасць беларусаў няўхільна расла.

У ХХ стагоддзе былыя Літва і ліцьвіны ўступілі ужо як Беларусь і беларусы. Мацнела беларускае нацыянальнае Адраджэнне. Першая сусветная вайна, што пачалася ў 1914-м, прывяла да краху Расейскую, Аўстра-Вугорскую, Нямецкую і Асманскую імперыі. Гэта спрыяла вызваленню паняволеных народаў.

25 сакавіка 1918 года была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспубліцы. Бальшавікі знішчылі БНР, ды перамагчы ідэю нашай дзяржаўнасці яны не змаглі. Да сапраўднай незалежнасці заставаўся цяжкі і доўгі шлях. Беларусы прайшлі яго, і ў 1991-м на палітычнай карце свету з'явілася незалежная Рэспубліка Беларусь.

Падзеям ХХ стагоддзя будзе прысвечаная трэцяя частка кнігі «Айчына: маляўнічая гісторыя».

## ГІСТАРЫЧНАЯ ВІКТАРЫНА

1. Чым праславіўся выпускнік Полацкай акадэміі Максімілян Рыла?
2. Хто такі Кароль Касцюшка-Валюжыніч? Якая ягоная знаходка прызнаная самай значнай?
3. Чаму Уладзіміру Спасовічу не дазволілі выдаць Статуты Вялікага Княства Літоўскага?
4. Якія мовы ведаў Каятан Касовіч? Якую заўвагу ён выказаў супрацоўнікам Брытанскага музея ў Лондане?
5. Хто такая Эліза Ажэшка?
6. За якое дасягненне Язэп Крашэўскі трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса?
7. Што вы ведаеце пра Юльяна Нямцэвіча?
8. Які французскі паэт паходзіць з нашых шляхецкіх родаў?
9. Чым знакаміты Фадзей (Тадэвуш) Булгарын?
10. Якія іншыя расейскія пісьменнікі маюць беларускае паходжанне?
11. Адкуль родам продкі нянькі Пушкіна Арыны Радзівонаўны?
12. Хто напісаў словы песні «В лесу родилась ёлочка»?
13. Хто склаў першы японска-расейскі слоўнік? Чым яшчэ адметны ягоны аўтар?
15. Чаму Восіп Кавалеўскі лічыцца заснавальнікам манголазнаўства?
16. Як завуць «бацьку якуцкай літаратуры»? Чаму яму далі такое найменне?
17. Якім быў уклад беларусаў у тэатральнае мастацтва Расеі?
18. Што зрабілі нашы землякі для расейскага музычнага мастацтва?
19. Якія польскія кампазітары паходзяць з Беларусі?
20. За што мы шануем Івана Насовіча?
21. Кім мог бы стаць для свайго народа Канстанцін Ушынскі, каб у той час існавала беларуская дзяржава?

## ПРЭМІІ

# Новы фармат Нобелеўскай прэміі

**Цырымонія ўручэння Нобелеўскай прэміі, якая павінна адбыцца ў снежні 2020 года, адбудзецца ў новым фармаце — праз абмежаванні, звязаныя з пандэміяй каронавіруса (COVID-19).**



Пра гэта заявіў дырэктар Нобелеўскага фонду Ларс Хэйкенстан. «Нобелеўскі тыдзень не пройдзе, як звычайна, праз пандэмію. Кожны мусіць нечым ахвяраваць і прыстасоўвацца да цалкам новых абставінаў», — сказаў ён.

Хэйкенстан дадаў, што пераможцы будуць ушанараваны «па-іншаму», але не паведаміў дэталяў.

Падобнае здараецца ўпершыню з 1956 года, калі цудоўны Нобелеўскі банкет, які штогод ладзіцца з удзелам каля 1300 чалавек, у тым ліку членаў шведскай каралеўскай сям'і, будзе адменены.

Цырымонія ўзнагароджання ў Стакгольме і Осла 10 снежня таксама пройдзе ў «новых фарматах». Фонд падкрэсліў, што абвяшчэнне пераможцаў прадоўжыцца з 5 па 12 снежня.

# Прэмія «PEN Pinter 2020»

**Гэтай прэміяй быў адзначаны паэт і спявак Лінтан Квэсі Джонсан. Ён атрымае ўзнагароду ў часе інтэрнэт-цырымоніі, якая будзе арганізавана Брытанскай бібліятэкай 12 кастрычніка.**

Лінтан Квэсі Джонсан — паэт, ікона рэгі (музычны стыль, які ўзнік у 1968 годзе на Ямайцы; яго характэрнай рысай з'яўляецца адсутнасць выключна рытмічных альбо выключна меладычных інструментальных партый).

Джонсан нарадзіўся 24 жніўня 1952 года на Ямайцы. Прыехаў у Лондан у 1963-м, вучыўся ў сярэдняй школе «Tulse Hill» і вывучаў сацыялогію ў Голдсмітскім каледжы, Лонданскім універсітэце.

«У сённяшніх умовах сістэмнай дэманізацыі імігрантаў і расавых меншасцяў у Вялікабрытаніі яго дзейнасць найактуальная», — адзначыў Макс Портэр, выдавец і адзін з «суддзяў» прэміі.

Сам Лінтан Квэсі Джонсан выказаўся пра падзею так: «Атрымаўшы ў 2013 годзе залатую ўзнагароду ад англійскага ПЭН-цэнтра, я са здзіўленнем даведаўся, што праз сем гадоў мне ўручылі прэмію «PEN Pinter». Узнагароды — на карысць кожнаму мастаку... Асабліва прыемна атрымаць узнагароду, якая ўшаноўвае памяць шаноўнага драматурга, Нобелеўскага лаўрэата Гаральда Пінтэра, вольнага мысляра, антыімперыяліста і праваабаронцы».

Прэмія «PEN Pinter» была заснавана ў 2009 годзе дабрачынным англійскім ПЭН-цэнтрам, які абараняе свабоду думкі. Прэмія ўручаецца штогод пісьменнікам, якія пражываюць у Вялікабрытаніі ці Ірландыі, тым, хто дэманструе «жорсткую інтэлектуальную рашучасць... каб вызначыць сапраўдную праўду нашага жыцця і нашага грамадства».

Падчас віртуальнай цырымоніі ў кастрычніку Лінтан Квэсі Джонсан абвесціць свайго пераможцу — «Міжнароднага пісьменніка мужнасці 2020 года», выбранага з міжнароднага шорт-ліста. Адрасатам стане пісьменнік, які актыўна абараняе свабоду слова, часта рызыкуючы ўласнай бяспекай і свабодай.

# Прэміі Амерыканскага ПЭН-цэнтра

**Амерыканскі ПЭН-цэнтр (PEN America) таксама назваў лаўрэатаў Літаратурных узнагарод «PEN America 2020».**

З 1963 года літаратурнымі прэміямі Амерыканскі ПЭН-цэнтр адзначае «выдатныя галасы ў мастацкай літаратуры, паэзіі, навуцы, эсэістыцы, дзіцячай літаратуры, перакладзе і драматургіі». Пры падтрымцы партнёраў і прыхільнікаў у гэтым годзе Амерыканскі ПЭН-цэнтр уручыў амаль 20 розных узнагарод, стыпендый, грантаў і прызоў на агульную суму больш за 330 000 даляраў ЗША.

Сярод самых «грашавітых» узнагародаў — «PEN/Jean Stein Book Award» (75 000 даляраў), яе атрымала Yiyun Li за кнігу «Дзе прычыны канца»; «PEN/Nabokov Award» (50 000 даляраў) — за дасягненні ў галіне міжнароднай літаратуры, якой сёлета ўзнагародзілі M. Nourbese Philip; «PEN/Robert W. Bingham Prize» за зборнік дэбютных апавяданняў (25 000 даляраў), якую атрымала Mimi Lok; «PEN/Mike Nichols Writing» за наватарскія тэксты (25,000 даляраў) і «PEN/Diamonstein-Spielvogel Award» за кнігі па мастацтву і эсэ (10,000 даляраў).

# Украінская прэмія імя Панаса Мірнага

**Сёлета вызначаны лаўрэаты літаратурнай прэміі імя Панаса Мірнага.**

У намінацыі «Літаратура, літаратуразнаўства» ім стаў Юрый Кацэгуб, пісьменнік, краязнаўца — за кнігі «Балбачан. Паміж двума пажарамі», «З Украінай у сэрцы, з мячом у руцэ»; Фелікс Штэйнсбук, доктар філалагічных навук, прафесар кафедры рускіх даследаванняў і ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Універсітэта Каменскага ў Браціславе, — за зборнік крытычных мініяцюрных нарысаў «Інкубацыя яек дыназаўраў».

У намінацыі «Журналістыка» перамагла Валянціна Філаненка, член Нацыянальнага саюза



журналістаў Украіны, паэтка, пераможца Нацыянальнага конкурсу «Украінская мова — мова адзінства».

# Прэмія імя Панцеляймона Куліша

**Прэстыжную літаратурна-мастацкую прэмію імя Панцеляймона Куліша нядаўна атрымала Віра Марушчак, старшыня Мікалаеўскай абласной арганізацыі Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны.**

Міжнародная акадэмія літаратуры і мастацтва Украіны ўзнагародзіла пісьменніцу за кнігу прозы «Алфавіт жыцця» і наватарскія фармацыйныя дасягненні ў галіне мастацкай літаратуры.

# Оскар Уайльд, турма і кнігі

**Адным з апошніх прыпынкаў легендарнага брытанскага пісьменніка Оскара Уайльда перад выгнаннем стала яго любімая кнігарня. Пра гэты эпізод з жыцця літаратара згадваецца ў нядаўна выдадзенай кнізе Томаса Райта «Створаны з кніг: Як чытанне вызначыла жыццё Оскара Ўайльда».**



Як адзначае аўтар кнігі, Уайльд у лісце з турмы прызнаваўся сваім сябрам, што адчувае страх «выйсці ў свет без адзінай кнігі». Было шмат прычынаў, па якіх эмацыйна траўмаваны сацыяльны ізгой мог пакутаваць, «але ў спісе пытанняў, якія стаялі перад Уайльдам, першымі былі кнігі, у якіх ён шукаў суцяшэння і надзеі».

Пасля таго, пісьменніка «за непрыстойныя паводзіны» асудзілі на два гады зняволення і папраўчых работы ў Рэдзінгскай турме, паспяховая пісьменніцкая кар'ера Уайльда завершылася, паколькі выкліканы гэтай справай скандал зрабіў яго персонай non grata ў прэтэнцыёзных велікасвецкіх колах, куды ён калісьці з лёгкасцю ўліўся.

У часе зняволення Уайльд па некалькі разоў перачытаў усе кнігі з турэмнай бібліятэкі, у тым ліку «Пекла (Боскую камедыю)» Дантэ. Таксама ён прасіў сяброў прысылаць яму творы Чосера, новую працу яго любімага аўтара і былога оксфардскага выкладчыка Ўолтара Пейтэра і п'есы драматургаў Елізавецінскай эпохі. Неўзабаве перад тым, як яго датэрмінова вызвалілі, Уайльд папрасіў сваіх блізкіх сяброў купіць для яго кнігі Гюстава Флабэра, Шарля Бадлера, Джона Кітса, Аляксандра Дзюма і Дантэ, пісьменніка, без якога ён проста не мог жыць.

Раніцай 19 траўня 1897 года Уайльд выйшаў за турэмную браму, дзе яго чакалі сябры — мастацтвазнаўца Мора Адэй і крытык Сцюарт Хэдлі. У таксі, едучы на вакзал, ён абмяркоўваў з сябрамі кнігі Дантэ.

Уайльд рыхтаваўся на некалькі гадоў адправіцца ў сумнае выгнанне за межы сваёй роднай краіны.

Ён прапусціў ранні параход у Д'еп на паўночным узбярэжжы Францыі, паколькі вырашыў зайсці ў сваю любімую кнігарню на Пікадзілі, 187, найстарэйшую лонданскую кніжную краму. Як напісаў у вышэйзгаданай кнізе Т. Райт, Уайльд «хацеў зрабіць некалькі хуткіх пакупак, апошніх на ангельскай зямлі». Аднак ён збег, калі адзін з пакупнікоў пазнаў яго ў краме і пачаў прыцягваць ўвагу іншых кліентаў.

Ноччу Уайльд перасёк Ла-Манш і спыніўся ў Д'епе, дзе яго сустрэлі сябры. Яны пасялілі яго ў гатэлі пад псеўданімам Себасцьян Мэлмот, што азначала «вандроўны пакутнік».

Калі Оскар Уайльд адчыніў дзверы ў свой пакой у гатэлі, то заплакаў. І не ад сваіх няшчасцяў, а з-за таго, што ён убачыў перад сабой: яо сябры падрыхтавалі яму букеты кветак і.. вялікі стос кніг.

# Львоўскі форум выдаўцоў — у анлайн-фармаце

**27-мы Львоўскі міжнародны форум выдаўцоў («BookForum 2020»), адзін з найбуйнейшых кніжных кірмашоў Еўропы, пройдзе ў анлайн-рэжыме. Мерапрыемства ў падобным фармаце адбудзецца ўпершыню.**




16–20 верасня Львоўскі міжнародны форум выдаўцоў традыцыйна стане глабальнай пляцоўкай для абмеркавання важных культурна-грамадскіх тэм. Але ў 2020 годзе ён будзе не такім, «як заўсёды». Розніца з папярэднімі фестывалямі адна — мерапрыемства пройдзе віртуальна. Пра гэта паведамілі арганізатары на сваім сайце і старонцы ў Фэйсбук.

Тэма 27-ага «BookForum» — «Перапіс насельніцтва: ведаць, хто мы ёсць». Арганізатары хочуць звярнуць увагу на зменлівасць сучаснага свету і паказаць месца асобы ў гэтым свеце.

«Перапіс насельніцтва — гэта злучэнне сумленных пытанняў і сумленных лічбаў. Гэта магчымасць сказаць праўду пра сябе, якая нечакана будзе цікавая камусьці іншаму», — адзначыла куратарка праекта Ганна Улюра.

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы «Agence France-Presse», englishpen.org, pen.org, oblrada-pl.gov.ua, ukrinform.ua, «Literary Hub», «The Hill», novostiliteratury.ru і telegraf.com.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Калі кожны зробіць тое, што ад яго залежыць, нешта зможа памяняцца»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**АМАП, затрыманні, спартыўныя маладзёны на чорных джыпах і ўзброеныя вайскоўцы. Не, гэта не чарговы безгустоўны баявік і не гісторыя з «ліхіх 90-х». Гэта атмасфера, у якой адбываюцца выбары ў сучаснай Беларусі.**




Фота Радыё Свабода

## Хацеў напісаць заяву — трапіў на Акрэсціна

Павел Шульц назіраў за выбарамі на 32-м участку Савецкага раёна Мінска, які размяшчаўся ў політэхнічнай гімназіі №6. Павел захапіў датэрміновае галасаванне і крыху асноўнага дня.

— Я быў поўны дзень у пятніцу, 7 жніўня. Адмыслова прыйшоў зранку, каб палічыць яўку. У асноўны дзень я падышоў бліжэй да канца, гадзін з сямі, — распавядае Павел. — Даныя па яўцы на датэрміновым галасаванні былі завышаныя штодзённа, і гэта было бачна няўзброеным вокам. Нам не давалі сядзець каля саміх участкаў, таму мы сядзелі на вуліцы каля корпуса гімназіі і назіралі, як людзі заходзяць і выходзяць. Мы лічылі кожнага, хто выходзіў, за выключэннем відавочных супрацоўнікаў гімназіі, вахцёра, міліцыянта. Астатніх, нават у кім мы сумняваліся, усё роўна лічылі як тых, хто прагаласаваў. У выніку атрымалася, што за дзень абодва ўчасткі наведала 102 чалавекі, а сумарна паводле пратаколаў камісій — 303.

Па факце завышэння яўкі на датэрміновым галасаванні Павел Шульц напісаў заяву ў Савецкае РУУС, яе прынялі, але адказу пакуль не далі.

Суразмоўца распавядае і пра іншыя парушэнні, напрыклад, лічбы ў пратаколах вывешвалі без подпісаў.

Калега Паўла Міхаіл Марчанка быў незалежным назіральнікам на суседнім, 31-м участку, размешчаным у гэтай жа гімназіі. Малады чалавек прысутнічаў на сваім участку ў асноўны дзень галасавання — 9 жніўня, з 8 раніцы да 12 ночы.

— Я прыйшоў без чвэрці восем, акурат было апячатванне скрыняў. Нас пусцілі ў памяшканне для галасавання, паказалі скрыні, мы сфатаграфавалі іх. Потым нам сказалі, што ёсць 5 назіральнікаў, якія зарэгістраваліся раней за нас, і яны будуць знаходзіцца тут. Тым, хто быў ад платформы «Сумленныя людзі» альбо самастойна, сказалі ісці ў калідор.

Міхаіл зазначае, што незалежныя назіральнікі сталі фіксаваць яўку, а таксама колькасць людзей з белымі бранзалетамі. Аднак праз 15 – 20 хвілін назіральнікаў папрасілі пакінуць калідор.

— Падпалкоўнік міліцыі і намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы Віктар Кацуба сказалі, што мы ствараем пажарную небяспеку.

Міхаіл прапанаваў паклікаць старшыню камісіі Ірыну Міхайлаўну Шпак, якая паведаміла, што яна адказвае толькі за парадак на ўчастку, а па-за ім — адміністрацыя гімназіі. На патрабаванне намесніка дырэктара назіральнікі вымушаныя былі пакінуць калідор. Міхаіл Марчанка запатрабаваў кнігу заўваг і прапаноў, але яму яе не прадаставілі, спаслаўшыся на тое, што яна ў зачыненай прыёмнай. Тады назіральнік звярнуўся да міліцыянта, і той параіў напісаць заяву ад рукі.

Суразмоўца вырашыў адразу заяву не пісаць, а назіраць далей, стаўшы ля турнікета.

— З іншага ўчастка незалежнага назіральніка, Арцёма Сташэнку, выганялі па такім жа сцэнары. Ён сказаў, што будзе выклікаць міліцыю. Прыехалі два маёры і лейтэнант. Арцём апісаў ім сітуацыю і тое, што яму перашкаджаюць назіраць. Міліцыянт спытаў у яго, ці будзе ён пісаць заяву. Ён сказаў — так, і яму сказалі прайсці ў машыну. Ён стаяў каля машыны з адным маёрам. Я падышоў і спытаў: «Вы яго затрымліваеце?»

Ён адказаў, што не, Арцём проста напіша заяву, а пакуль чакаюць астатніх міліцыянтаў.

На ўсялякі выпадак у гэты момант Міхаіл пачаў відэаздымку, і там бачна, што міліцыянты сядзяць у машыне, і туды ж сядае незалежны назіральнік Арцём Сташэнка. Тады Міхаіл яшчэ раз задаў пытанне, ці яго затрымліваюць, на што той адказвае станоўча. На якой падставе, высветліць не ўдалося, і праз паўгадзіны тэлефон Арцёма ўжо быў недасяжны. Як і на наступны дзень, і праз дзень.

Днямі Міхаілу ўдалося звязацца з Арцёмам. Ён шукае сведкаў свайго затрымання, бо на яго склалі два адміністрацыйныя пратаколы. Адзін — за дробнае хуліганства: нібыта назіральнік замінаў працы камісіі, размахваў рукамі. Другі — за супраціўленне міліцыі, калі яму прапанавалі праследаваць у РУУС. Але ў відэа выдатна бачна, што малады чалавек не хапаўся за абмундзіраванне міліцыянтаў і дзверы машыны, як сцвярджаецца ў пратаколе.

— Арцём распавёў, што яго адвезлі ў РУУС, там ён быў суткі, і на наступны дзень яго адвезлі на Акрэсціна. Са словаў Арцёма, там на яго склалі пратакол за нібыта ўдзел у мітынгу і далі 15 сутак, хаця ён фізічна не мог там быць, бо знаходзіўся ў РУУС. Я разумею, што суд быў на Акрэсціна, але праз 4 дні, калі пачалі вызваляць людзей, яго выпусцілі без рэчаў і папер, збіўшы, і цяпер павінен быць другі суд па гэтых двух пратаколах.

## АМАП, цітушкі і бусы з узброенымі людзьмі

У дзень выбараў пасля затрымання калегі Міхаіл застаўся каля свайго ўчастка і працягнуў фіксаваць яўку.

— Мы зафіксавалі, што прыйшлі 1060 чалавек, з іх 452 былі з белымі стужкамі. Па нашым участку яўка склала 102%. На суседнім участку — больш за 120%, — распавядае Міхаіл.

Незалежныя назіральнікі звярнуліся да старшыні камісіі з просьбай прысутнічаць пры падліку галасоў. Аднак яна паведаміла, што дапусціць толькі тых назіральнікаў, якія ўжо прысутнічаюць на ўчастку.

— За 15 хвілін да заканчэння галасавання закрылі турнікеты — напэўна, каб мы, назіральнікі, не прарываліся туды, — мяркуе Міхаіл Марчанка. — Гэта стварыла цяжкасці і выбаршчыкам, якія прасілі адкрыць турнікет, каб іх выпусцілі.

— Тое абмежаванне колькасці назіральнікаў, якое ўвёў ЦВК — максімум 5 чалавек на ўчастку ў асноўны дзень галасавання, — перастае працаваць у 20 гадзін. Мы, уласна, таму туды і прыйшлі, каб прысутнічаць пры падліку галасоў, — дадае Павел Шульц. — Але нам гэта нахабна забаранілі. Мы прасілі прадаставіць дакумент, на які спасылаецца гэтая забарона. Але старшыня камісіі 31-га ўчастка проста паварочвалася і сыходзіла. Старшыня 32-га ўчастка нават не выйшаў да нас.

Павел спрабаваў звярнуцца да міліцыянта на ўчастку, але адказу ад яго не атрымаў. Тады малады чалавек вырашыў выклікаць міліцыю, каб зафіксаваць парушэнне. Але па нумары 102 яму параілі звяртацца да таго ж прадстаўніка МУС, які дзяжурыць на ўчастку. Яшчэ раз звярнуўшыся да міліцыянта на ўчастку, Павел атрымаў адказ, што той падпарадкоўваецца старшыні камісіі і ніякіх размоваў з ім весці не будзе.

**Гэта непрымальная сітуацыя ў XXI стагоддзі. Пасля гвалту была пяройдзеная чырвоная лінія, цяпер тут немагчыма адчуваць сябе ў бяспецы**

Пасля закрыцця ўчасткаў ля гімназіі сабраліся людзі, якія чакалі выніковы пратакол. На 31-м участку яго вывесілі больш чым праз тры гадзіны пасля закрыцця. Перад гэтым прыехала 10 чалавек АМАПУ, якія запатрабавалі, каб людзі адышлі ад уваходу. Прысутныя зрабілі «жывы калідор», каб сябры камісіі маглі прайсці.

— Недзе а палове на дванаццатую прыехала 10–15 незразумелых людзей без апазнавальных знакаў, у спартыўных касцюмах, з белымі павязкамі, дручкамі і ў спецыяльных пальчатках з кастэтамі. Нехта пачаў крычаць, што гэта цітушкі, баяліся, што нейкая правакацыя. Яны крыху пастаялі, і іх пусцілі ў будынак. І ў 12 гадзін вывесілі пратакол. АМАП дазволіў сфатаграфаваць. Як толькі сфатаграфавалі, пад'ехала тры ці чатыры бусы, поўныя людзьмі. Я падумаў, што гэта АМАП, але потым мне сказалі, што гэта ўнутраныя войскі ледзьве не са зброяй прыехалі, — гаворыць Міхаіл.

## «Вера ў праўду надае моцы»

Аднак пасля завяршэння галасавання клопату ў незалежных назіральнікаў не паменела. Міхаіл Марчанка пачаў збіраць на сваім участку подпісы выбаршчыкаў, якія галасавалі за Святлану Ціханоўскую, каб падаць скаргі. Але і збор подпісаў аказаўся справай рызыкоўнай.

— Мы ў панядзелак (10 жніўня. — НЧ) збіралі подпісы ля карпусоў гімназіі, на наступны дзень я вырашыў збіраць каля пад'езда. Суседзі самі развесілі аб'явы, што можна прыйсці падпісацца з 7 да 11 гадзін. Недзе ў 10.55 прыйшла падпісацца дзяўчына з суседняга дома, і тут з-за рагу выходзяць двое хлопцаў, адзін лысы ў спартыўным касцюме, другі — у шортах, і ідуць у наш бок. Жонка паклікала дзяўчыну ў пад'езд, а я застаўся на ганку размаўляць па тэлефоне. І тут пад'язджае танаваны джып, апускаецца шкло, і чалавек у машыне кажа: «Ён, напэўна, у пад'езд пабег». Я хуценька паварочваюся, заходжу ў пад'езд і зачыняю дзверы. А той лысы хлопец пачынае грукацца і казаць, каб я адчыніў. Дзяўчына, якая прыйшла падпісацца, гадзіну сядзела ў нас дома, баялася выйсці. Яе муж з акна бачыў, што хвілін 20–30 тыя хлопцы чакалі, потым разышліся.

Калі Міхаіл паспрабаваў збіраць подпісы ў сваім раёне, яго папярэдзілі, што побач стаяць бусы з амапаўцамі, і лепш не рызыкаваць, таму далей збор працягваўся аддалена. З улікам такіх абмежаванняў і таго, што многія людзі баяліся падпісвацца, удалося сабраць 198 подпісаў — хаця, паводле афіцыйнага пратаколу, на ўчастку за Святлану Ціханоўскую прагаласавалі 164 чалавекі. Сабраныя подпісы далучылі да заявы, якую падалі ў пракуратуру.

— Таксама я пайшоў у гімназію і напісаў скаргу на намесніка дырэктара па гаспадарчай частцы з нагоды таго, што ён замінаў працы назіральнікаў, папрасіў прыцягнуць яго да дысцыплінарнай адказнасці. Са свайго боку мы зрабілі, што маглі. Далей — праца праваахоўнікаў: калі ласка, апытайце тых, хто быў ва ўчастковай выбарчай камісіі. Чаму спатрэбіліся тры аўтобусы з узброенымі людзьмі супраць сваіх грамадзян, якія галасавалі?..

Калі чыноўнікі замест адказу па факце дашлюць звычайныя адпіскі, незалежныя назіральнікі гатовыя іх абскарджваць.

— Калі кожны чалавек са свайго боку зробіць тое, што ад яго залежыць, нешта зможа памяняцца, — перакананы Міхаіл Марчанка.

Ён дадае:

— Я хачу, каб мае правы не парушаліся. Арганізаваныя злачынныя групы так не затрымлівалі, як затрымліваюць (цяпер. — НЧ) выпадковых людзей! Гэта непрымальная сітуацыя ў XXI стагоддзі. Пасля гвалту была пяройдзеная чырвоная лінія, цяпер тут немагчыма адчуваць сябе ў бяспецы.

Міхаіл працуе ў сферы IT, у яго была магчымасць з'ехаць працаваць у Кіеў. Але ён гэтага не зрабіў. Спачатку суразмоўца быў у ініцыятыўнай групе Бабарыкі.

— Ён рызыкнуў, папрасіў падтрымаць яго. Я не спалохаўся, дык чаму я павінен баяцца? Я раблю ўсё па законе. І калі цяпер апусціць рукі — атрымліваецца, што ўсё, што адбылося, было дарэмна? Вера ў праўду надае моцы, я раблю тое, што мушу рабіць.

# Чаго баяцца дыктатары?

Алег НОВІКАЎ

**Высвятляецца, што пасля Другой сусветнай вайны на нашай планеце былі зрынутыя больш за 300 дыктатур. На базе такога масіву інфармацыі можна нават вызначыць найбольш папулярныя метады звяржэння тыранаў.**



Генерал Піначэт

Дыктатарам быць няпроста. Гэтую банальную думку яскрава давёў Мілан Сволік, аўтар кнігі «The Politics of Authoritarian Rule» («Палітыка аўтарытарнага кіравання»), якая пабачыла свет у 2012 годзе. Падчас працы над кнігай ён падлічыў верагоднасці розных варыянтаў сыходу аўтарытарнага лідара (дыктатара) ад улады. Усяго ў базе даных даследчыка аказаліся 303 дыктатары, якія знаходзіліся ва ўладзе не менш за адзін дзень у перыяд з 1946 па 2008 год, і якія страцілі сваю ўладу неканстытуцыйным шляхам.

Гледзячы на статыстыку, якую прыводзіць Сволік, самая небяспечная для дыктатараў пагроза — пераварот. З 303 тыранаў шляхам перавароту былі зрынутыя 205 (67,7%). Тут як ілюстрацыю можна ўзгадаць славутую партугальскую «рэвалюцыю гваздзікоў», калі 25 красавіка 1974 года афіцэры сярэдняга звяна («рэвалюцыя капітанаў») захапілі ўладу. Пераварот адбыўся вельмі хутка, што дзіўна, калі ўзгадаць, што ў Партугаліі знаходзіўся самы даўгавечны і стабільны дыктатарскі рэжым у Заходняй Еўропе. З іншага боку, партугальская дыктатура яўна не пасавала часу. Напрыклад, кіраўніцтва Партугаліі лічыла, што пісьменнасць уяўляе пагрозу для дзяржавы. У выніку каля 40% насельніцтва краіны заставалася непісьменным. Цікава, што ў якасці прапаганды вайскоўцы выкарыстоўвалі забароненыя песні, якія круцілі на захопленых радыёстанцыях.

У 32 выпадках, якія ўзгадвае Мілан Сволік, дыктатуры зносілі народныя паўстанні. Такая з'ява назіралася ў 10,6% выпадкаў. Класічным можна лічыць крах рэжыму Фердынанда Маркаса на Філіпінах, які існаваў з 1965 па 1986 год. Візітнай карткай дваццацігадовага праўлення Маркаса была махровая карупцыя, а тон ёй задаваў сам прэзідэнт. Яго дачка ўжо ў 20-гадовым узросце дырыжыравала сталічным сімфанічным аркестрам. Адно з міністэрстваў узначальваў былы асабісты кіроўца.

Аднак галоўным раздражняльнікам для народа былі паводзіны Імельды — жонкі гаранта, пра марнатраўнасць якой ходзяць легенды. Спадарыня Маркас карысталася туалетнай паперай з шоўку, якая каштавала не менш $20 за рулон. На Філіпінах да гэтага часу папулярная гісторыя пра тое, як першая лэдзі запатрабавала, каб пляж яе асабістага новага курорта быў акультураны пяском з Аўстраліі. У колькі абышлася дастаўка заморскага пяску самалётамі, ніхто не ведае.

**Нельга забываць, што толькі ў 60 працэнтах выпадкаў пасля завяршэння дыктатарскага перыяду адбываўся пераход да дэмакратыі. Пры гэтым у амаль 40 працэнтах выпадкаў пасля краху дыктатуры ў краіне хутка пачыналася новая дыктатура**

У 1986 годзе, пасля фальсіфікацыі чарговых выбараў, на Філіпінах пачалося паўстанне, якое з часам падтрымала войска. ЗША ўспрынялі падзенне свайго пратэжэ амаль па-філасофску — захавалі партнёрскія адносіны з новымі ўладамі, а самому дыктатару далі прытулак на Гаваях, дзе ён, забыты ўсімі, і памёр у 1989 годзе. Застаецца дадаць, што вядомая на ўвесь свет калекцыя абутку Імельды з 1200 параў, што засталіся ў прэзідэнцкім палацы пасля ўцёкаў Маркасаў, стала асновай першага ў свеце музея абутку.

Хапае выпадкаў, калі дыктатары сыходзілі з пасадаў пад уплывам грамадскага ціску. Такіх казусаў было аж 30 (9,9%). Напэўна, самы вядомы — адстаўка Аўгуста Піначэта, арганізатара путчу супраць левага ўраду Сальвадора Альендэ ў 1972 годзе. У канцы 1980-х гадоў Піначэт стаў імкліва губляць былую папулярнасць, якую атрымаў за кошт палітычнай стабілізацыі і эканамічных рэформаў. Па ўсёй краіне тады прайшлі мільённыя мітынгі, якія прымусілі дыктатара правесці плебісцыт. Падчас яго супраць Піначэта выказалася 55% выбаршчыкаў. Ён заявіў, што чылійцы здзяйсняюць памылку, але ў той жа час пагадзіўся з вынікамі галасавання.

Нарэшце, многія дыктатары станавіліся ахвярамі забойстваў. Сволік налічыў 20 выпадкаў такога кшталту — і гэта, адпаведна, 6,6 %. Прыкладам можа быць забойства 30 траўня 1961 года Рафаэля Леанідаса Трухільё — дыктатара Дамініканскай Рэспублікі. Забойства стала фіналам доўгага нават па мерках Лацінскай Амерыкі праўлення, якое доўжылася з лютага 1930-га і адзначылася фантастычнымі выхадкамі дыктатара.

Трухільё перайменаваў сталіцу дзяржавы Санта-Дамінга ў Сьюдад-Трухільё («горад Трухільё») і абавязаў мясцовыя цэрквы вывешваць плакаты «Бог на нябёсах, Трухільё — на зямлі».

Усе дзяржаўныя работнікі павінны былі «ахвяраваць» 10% зарплаты ў нацыянальную казну ў выглядзе «партыйных унёскаў» як сябры Дамініканскай партыі, куды іх прымушалі ўступаць. За адсутнасць сяброўскага пасведчання можна было трапіць у турму. Важна адзначыць, што за забойствам стаяў Вашынгтон, які раней заплюшчваў вочы на фокусы Трухільё. На фоне нарастаючага палітычнага і эканамічнага крызісу Трухільё расстралялі ва ўласным «Шэўрале» на шашы пад сталіцай.

Яшчэ адзін спосаб ліквідацыі дыктатур — замежная інтэрвенцыя. У гэтай катэгорыі — 16 выпадкаў (5,3%). Сюды трапляе, напрыклад, угандзійскі дыктатар Адзі Амін, які не даваў сумаваць нікому. У адказ на крытыку з Лондану ён абвясціў сябе каралём Шатландыі і абавязаў брытанскіх дыпламатаў насіць яго на насілках. А важыў ён пад 120 кілаграмаў. Аднак у выніку Аміна загубіла жаданне паваяваць па-сапраўднаму. У кастрычніку 1978 года Уганда напала на суседнюю Танзанію. Раптоўнасць нападу была толькі часовым фактарам: хутка танзанійцы ачысцілі сваю тэрыторыю і пачалі прасоўванне ўглыб Уганды. Адступленне ператварылася ва ўцёкі. У апошнім звароце да войска Амін заклікаў «стаяць да апошняга». А пасля палымянага закліку сеў на самалёт і збег у Саудаўскую Аравію.

Як бачым, статыстыка дастаткова цікавая і натхняе на тое, каб задумацца. Аднак нельга забываць, што толькі ў 60% выпадкаў пасля завяршэння дыктатарскага перыяду адбываўся пераход да дэмакратыі. Пры гэтым у амаль 40% выпадкаў пасля краху дыктатуры ў краіне хутка пачыналася новая дыктатура.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Выбудаваная Аляксандрам Лукашэнкам палітычная мадэль з рэпрэсіямі і кантролем над СМІ разбураецца. Лукашэнка недаацаніў Святлану Ціханоўскую, якая смела вырашыла ўдзельнічаць у выбарах пасля арышту яе мужа. Упершыню за дзесяцігоддзі Лукашэнка сутыкнуўся з рэальнай апазіцыяй. Скаргі на фальсіфікацыі і маніпуляцыі падчас выбараў і масавыя пратэсты па ўсёй краіне, жорстка прыглушаныя сілавікамі, пагражаюць маленькай краіне перыядам нестабільнасці».

**El País (Іспанія)**

«Лукашэнка абвінаваціў сваіх апанентаў у тым, што тыя з'яўляюцца агентамі замежных "лялькаводаў", якія хочуць паўтарыць рэвалюцыю Майдана (гаворка пра ўкраінскую рэвалюцыю 2014 года). Але фактаў, якія пацвярджалі б гэты пункт гледжання, няма. Іншымі словамі, пратэсты на Майдане 2014 года, якія мелі выразны празаходні вектар, не сталі для беларусаў крыніцай натхнення. Замест гэтага сцэнар, што разгортваецца ў Беларусі, адлюстроўвае незадаволенасць, якую беларусы адчуваюць да 26-гадовага панавання Лукашэнкі».

**The Washington Post (ЗША)**

«Трамп павінен ясна даць зразумець, што ўмяшанне Расіі (у справы Беларусі) Пуціну без наступстваў не пройдзе, што мы ды нашы саюзнікі ніколі не прызнаем прымусовы "саюз Беларусі з Расіяй", і што мы не прызнаем ніякага марыянеткавага беларускага ўраду, які б прыйшоў да ўлады з дапамогай арміі замежнай дзяржавы».

**The National Interest (ЗША)**

«Самаарганізацыя беларусаў – прыкмета грамадзянскай супольнасці. Але адсутнасць агульнапрызнанага лідара руху, які можа павесці за сабой людзей, значна ўскладняе задачу пратэстоўцам. Зрэшты, з часам лідар, напэўна, з'явіцца. Пытанне выпадку і якасці. Так і Парашэнка ў свой час, па-сутнасці, выпадкова, атрымалася "злавіць хвалю" і пераканаць украінцаў масава прагаласаваць за яго ўжо ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў».

**Дзеркало тиждня (Украіна)**

«Вынік беларускіх выбараў у пэўнай меры стаў вынікам ціску з боку Крамля. Масква хацела, каб Лукашэнка трапіў у такое становішча, да якога яго доўга падводзілі, каб нарэшце размясціць расійскія базы ў Беларусі. З часам расіяне пазбавяцца ад Лукашэнкі. Але не цяпер, і толькі ў выпадку, калі ён перастане слухацца».

**Aktuálně (Чэхія)**

«Для Пуціна падзеі ў Беларусі не могуць не выклікаць трывогу. Калі цяпер Лукашэнка сыдзе, і ў Беларусі адбудзецца "дэмакратычная" рэвалюцыя, – гэта стане падзеяй, якая зможа патрэсці ўладу ў Расіі. (...) Для Пуціна цяпер важна адно: стварыць у Беларусі дзеяздольную ўладу, якая валодала б дастатковым уплывам і падтрымкай народа. У гэтым кантэксце ў расійскім грамадстве ўсё шырэй распаўсюджваецца меркаванне, якое зводзіцца да таго, што ў цяперашніх палітычных умовах Лукашэнку цяжка будзе заставацца на пасадзе прэзідэнта».

**Nihon Keizai (Японія)**

# «Сэрца партыі, якое б'ецца»

Алег НОВІКАЎ

**Гісторыя польскага спецназу часоў сацыялізму міжволі прымушае задумацца наконт ненаканаванасці лёсу сілавіка.**


Фота www.baltnews.ee

«Матарызаваная падтрымка грамадзянскай міліцыі» (па-польску Zmotoryzowane Odwody Milicji Obywatelskiej), або, як яе называлі паводле абрэвіятуры, ZOMO, упершыню з'явілася на публіцы 20 студзеня 1957 года падчас забеспячэння выбараў у Сейм Польскай Народнай Рэспублікі (ПНР). Фармальна, гэта сілавая структура МУС прызначалася для абясшкоджвання асабліва небяспечных злачынцаў, барацьбы са стыхійнымі бедствамі, забеспячэння бяспекі пры правядзенні масавых мерапрыемстваў. Аднак у рэальнасці амаль заўжды выкарыстоўвалася для падаўлення пратэстных выступленняў. Па сутнасці, менавіта хваляванні рабочых 1956-га ў Познані і прымусілі польскіх камуністаў пераглядзець стэрэатып, паводле якога вулічныя беспарадкі бываюць толькі ў капіталістычных краінах.

Сваё «баявое хрышчэнне» фарміраванне прайшло 7 сакавіка 1957 года непадалёк ад Жэшува, дзе брыгада ZOMO разагнала дэманстрацыю 400 сялян, што патрабавалі вяртання зямельнай уласнасці мясцовай парафіі. Гэта было лёгкае заданне. А вось рассеяць дэманстрацыі сталічных студэнтаў супраць закрыцця аднаго з прагрэсіўных часопісаў у кастрычніку 1957-га было не так проста. Сутычкі ў Варшаве цягнуліся аж чатыры дні, у час якіх два чалавекі загінулі.

Як вынік — кіраўніцтва партыі засталося не задаволенае. «Міністэрства ўнутраных спраў, — як было заяўлена на пасяджэнні Палітбюро, — павінна арганізаваць навучанне паліцэйскіх асаблівым формам дзеянняў у выпадку масавага хуліганства. Тэхнічнае абсталяванне міліцыі павінна быць палепшанае». Неўзабаве арсенал ZOMO папоўніўся вадамётамі з ГДР, савецкімі БМП, гранатамі, ахоўнымі шчытамі. Была прыдумана новая камуфляжная форма.

«Зорны час» ZOMO, безумоўна, прыйшоўся на 1980-я, калі генерал Ярузэльскі абвясціў у Польшчы ваеннае становішча. Грамадства адрэагавала пратэстамі, супраць якіх кінулі спецназ. Хутка яго байцы праславіліся сваёй жорсткасцю і бязлітаснасцю. Менавіта тады і нарадзіліся пагардлівыя мянушкі супрацоўнікаў аддзялення — «зомаўцы» і «зомале», або «сэрца партыі, якое б'ецца». Усяго за час ваеннага становішча ад рук байцоў ZOMO загінулі каля 40 чалавек.

З улікам апісаных «подзвігаў», зомаўцы ператварыліся ў негатыўны і шырока ненавісны сімвал існуючага рэжыму. Таму рашэнне новых дэмакратычных уладаў распусціць фарміраванне выглядала цалкам прадказальным. Здарылася гэта ў верасні 1989 года, калі, паводле пастановы дырэктара МУС, на базе ZOMO было створана ОРМО («Атрады папярэджання грамадзянскай міліцыі»). Кадры заставаліся ранейшымі, але іх выкарыстанне стала больш абмежаваным.

Аднак на гэтым гісторыя ZOMO не скончылася. Дастаткова хутка грамадскасць запатрабавала прыцягнення да адказнасці байцоў аддзялення, якія ўдзельнічалі ў самых рэзанансных рэпрэсіўных акцыях. Найбольш гучным працэсам стала справа зомаўцаў, якія бралі ўдзел у пацыфікацыі шахты Вуек, што пад Катавіцэ, у снежні 1981 года.

**У разгар сутыкненняў спецыяльны ўзвод са складу ZOMO адкрыў агонь і забіў 9 чалавек. Увечары зомаўцы святкавалі перамогу, якая праз 15 гадоў прывяла іх на лаву падсудных**

Тады ў адказ на ўвядзенне ваеннага становішча і арышт лідараў прафсаюзу шахцёры абвясцілі страйк. Адначасова было прынята рашэнне пачаць абарону тэрыторыі шахты сіламі саміх гарнякоў. Пачалося будаванне барыкадаў, былі выстаўленыя адмысловыя пасты назірання за навакольнай мясцовасцю, наладжаны пастаўкі харчавання з суседняга горада.

Раніцай 16 снежня пачалося сцягванне да шахты ваенных і міліцэйскіх падраздзяленняў. Разагнаўшы вадамётамі людзей, якія сабраліся каля прахадной, міліцыя пачала абстрэл тэрыторыі спецсродкамі са слезацечным газам. Пасля гэтага сцены тэрыторыі шахты пачалі таранiць танкі, прапускаючы такім чынам за сабой байцоў ZOMO. Шахцёры аказалі супраціў — выкарыстоўвалі інструменты і падручныя сродкі. У разгар сутыкненняў спецыяльны ўзвод са складу ZOMO адкрыў агонь з баявой зброі па забастоўшчыках і забіў 9 чалавек. Увечары зомаўцы святкавалі перамогу, якая праз 15 гадоў прывяла іх на лаву падсудных.

У 1991 годзе пракурор падаў у суд абвінаваўчае заключэнне ў дачыненні да 24 чалавек — былых байцоў ZOMO — удзельнікаў бойні на шахце Вуек. Судовы працэс расцягнуўся надоўга. Нарэшце, 1 чэрвеня 2007 года 15 былых супрацоўнікаў спецыяльнага ўзвода былі прысуджаныя да турэмнага зняволення за ўдзел у забойстве. Большасць з іх атрымалі ад 2,5 да 3 гадоў турмы. Камандзіра ўзвода, Рамуальда Ціслака, асудзілі на 11 гадоў.

Другім непрыемным сюрпрызам для былых супрацоўнікаў стала так званая Dezubekizacją — комплекс прававых мер па пазбаўленні прывілеяў былых супрацоўнікаў службаў бяспекі часоў сацыялізму. У яе межах больш чым 38 тысячам былых функцыянераў сілавых ведамстваў часоў ПНР была істотна скарочана пенсія, што для некаторых стала трагедыяй. Са снежня 2016 года, калі было прынята рашэнне пра скарачэнне пенсій, 37 чалавек, якія падпадаюць пад дзеянне новай пастановы, скончылі жыццё самагубствам або памерлі адразу пасля атрымання рашэння пра скарачэнне даходу.

Такія факты выклікалі крытыку ўрада. Крытыкі лічаць, што ўжыванне прынцыпу калектыўнай адказнасці без уліку індывідуальнай віны характэрнае, хутчэй, для дэспатычных рэжымаў, а не для дэмакратычнай Польшчы. А адзін з польскіх гумарыстаў нават заклікаў урад уплічыць значэнне спецназа для перамогі дэмакратыі. Сапраўды, выкарыстанне байцоў ZOMO супраць мірных людзей у доўгачасовай перспектыве стала адным з фактараў, якія зламалі камуністычную сістэму ў Польшчы.

## ЗАМЕЖНЫЯ ПАЛІТЫКІ ПРА БЕЛАРУСЬ

**Матэвуш МАРАВЕЦКІ, прэм'ер-міністр Польшчы**



«Поспех Цэнтральнай Еўропы залежыць ад салідарнасці вакол пытання Беларусі. Сёння гэтую салідарнасць мы будуем вакол Беларусі разам з Літвой і іншымі балтыйскімі краінамі, Вышаградскай групай. У далейшай перспектыве, спадзяюся, разам з Беларуссю і Украінай мы будзем фарміраваць будучыню Цэнтральнай Еўропы».

**Гітанас НАЎСЕДА, прэзідэнт Літвы:**



«Цяпер захоўваецца статус-кво. Лукашэнка па-ранейшаму распараджаецца ўсімі інструментамі ўлады, а гэта не вельмі добра для майго плана па арганізацыі нацыянальнага дыялогу. Але трэба глядзець, што адбудзецца заўтра. Вельмі магчыма, што сам Лукашэнка хутка акажацца ў сітуацыі, калі яму спатрэбіцца дыялог у той ці іншай форме. Вядома, цяжка прасоўвацца наперад, калі адзін бок адмаўляецца ў гэтым удзельнічаць, але што-небудзь з майго плана ўсё роўна можна ўвасобіць у жыццё. А рэжым — з Лукашэнкам ці без — таксама, напэўна, паступова ўвальецца ў гэты працэс».

**Пётр ПАРАШЭНКА, экс-прэзідэнт Украіны, лідар партыі «Еўрапейская салідарнасць»:**



«У нас амаль дзве тысячы кіламетраў агульнай мяжы. І калі Беларусь будзе анексаваная Расійскай Федэрацыяй, гэта будзе азначаць, што і ў Чарнігаве, і ў Жытоміры на нашых межах будуць стаяць расійскія акупацыйныя войскі. І ў Кіеў, і да заходніх межаў Украіны гэта будзе 100–150 кіламетраў. І гэта дакладна не адпавядае нацыянальным інтарэсам Украіны. Таму наша пазіцыя — мы за тое, каб Беларусь захавала сваю незалежнасць, свой суверэнітэт».

**Жазэп БАРЭЛЬ, вярхоўны прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі:**



«Мы не прызнаем яго (Лукашэнку) легітымным прэзідэнтам. Як і не прызнаем (прэзідэнта Венесуэлы) Нікаласа Мадура. З гэтага пункту гледжання Мадура і Лукашэнка знаходзяцца цалкам у аднолькавых сітуацыях. Мы не прызнаем, што яны былі абраныя законна. Аднак, падабаецца нам гэта, ці не, яны кантралююць урад, і мы павінны працягваць весці з імі справы, нягледзячы на тое, што не прызнаем іх дэмакратычную легітымнасць».

**Сяргей ЛАЎРОЎ, міністр замежных спраў Расіі:**



«Мне здаецца, што ігнараваць прапанову аб пачатку канстытуцыйнай рэформы і запрашэнне ўсіх здаровых сіл, зацікаўленых у нармальным развіцці сваёй краіны прыняць удзел у гэтай канстытуцыйнай рэформе з'явіцца вялікай памылкай (...) Давайце спачатку супакоім сітуацыю, пачнём там нармальны нацыянальны дыялог. Прапанова аб канстытуцыйнай рэформе — выдатная магчымасць гэта зрабіць».

# «Іншага сцяга ў нас няма»

## Што гаварылі пра бел-чырвона-белы сцяг Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін

Сяргей ШАПРАН

**28 жніўня — дзень народзінаў паэта і дыпламата Генадзя Бураўкіна. Гэта лішняя нагода прыгадаць адну гісторыю з жыцця Генадзя Мікалаевіча, калі ён, будучы Надзвычайным і Паўнамоцным паслом, прадстаўляў Беларусь у ААН у Нью-Ёрку.**


Фота з архіва Быкава

Дыпламатычная камандзіроўка за акіян была, па сутнасці, ссылкай для Бураўкіна, які, аказаўшыся ў 1990 годзе ў далечыні ад Радзімы, пісаў і пісаў рапарты аб адстаўцы. Але ўсё было марна — афіцыйны Мінск не прымаў адстаўку. Зрэшты, па словах жонкі паэта Юліі Якаўлеўны, былі ў тым іх заморскім жыцці і радасныя дні — гэта калі Беларусь стала незалежнай, і калі ў верасні 1991 года яе дзяржаўнымі сімваламі былі названыя бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».

— Як жа мы ўзрадаваліся тады! — прыгадвае Юлія Якаўлеўна. — Праўда, тут жа ўзнікла нечаканая праблема: трэба было павесіць новы сцяг на флагшток каля нашага прадстаўніцтва, але ніхто не ведаў дакладных прапорцый бел-чырвона-белых колераў — ні нашая дыяспара ў Амерыцы, ні, тым больш, у афіцыйным Мінску. Але неяк з дапамогай амерыканскіх беларусаў мы здолелі даведацца пра гэта і самі пашылі і адпрасавалі той першы сцяг... Якія ж мы былі шчаслівыя ў тыя дні! Памятаю, што мы нават плакалі, гледзячы на наш бел-чырвона-белы сцяг. Што ж датычыць Генадзя, то ён вельмі хацеў вярнуцца ў Беларусь, бо на радзіме адбываюцца адраджэнне і беларусізацыя, а ён у гэты час за акіянам! І ўсё адно гэта былі хоць і няпэўныя, але найшчаслівыя дні нашага жыцця ў Амерыцы...



Фота Сяргея Шапрана

Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін насілі значок з бел-чырвона-белым сцягам


Генадзь Бураўкін у сваім кабінеце ў беларускім прадстаўніцтве ААН.
Фота з архіва Генадзя Бураўкіна

І хоць бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» былі сімваламі беларускай дзяржаўнасці зусім нядоўга, Бураўкін быў перакананы, што гэта не беззваротна — пра гэта ён казаў за некалькі дзён да сваёй смерці: «Вернуцца», — сказаў Генадзь Мікалаевіч з абсалютнай упэўненасцю, калі я запытаўся ў яго пра гэта. А яшчэ раней ён напісаў:

*Калі мы сыдзем з гэтага жыцця,*
*Сплывем за незабудкавыя далі,*
*Мы вам гукнём з прадонняў небыцця*
*Той самы кліч,*
*Што на зямлі гукалі.*

*Ён знойдзе вас на ўробленым надзеле,*
*Прытоены ў траве і сіняве,*
*Як запавет, як заклік і надзея,*
*І як апошні выдых наш:*
*— Жыве!*

Гэтаксама і Рыгор Барадулін быў перакананы, што бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» абавязкова яшчэ вернуцца. І тут згадваецца цікавае назіранне паэта Міхася Скоблы: «Хто з творцаў носіць пярсцёнак з выявай "Пагоні" — як знак вечнага шлюбу з Айчынай? Адзін Барадулін». Сапраўды, дзядзька Рыгор, ініцыялы якога — РБ — сімвалічным чынам супалі з «ініцыяламі» Радзімы, ніколі не расставаўся з пярсцёнкам, на якім была адчаканеная старажытная «Пагоня». «Канешне, Міхась не памыліўся, — гаварыў дзядзька Рыгор. — "Пагоня" ў маёй душы яшчэ ад Багдановіча, калі я ў школе чытаў ягоную "Пагоню"».

«Пагоня» і сцяг былі і ў паэзіі Барадуліна:

*На белай кашулі чырвоны пісаг*
*Ад злосці падступнага меча.*
*Бел-чырвона-белы балючы сцяг*
*Склікае на сумнае веча.*
*..................*
*Узвіўся, як крык, на крыжацкіх касцях —*
*І погань кіруе ў прадонне —*
*Бел-чырвона-белы крывіцкі сцяг*
*У вечным памкненні Пагоні!*

Ці ў іншым вершы — пад назвай «Дваццаць пятага сакавіка»:

Мы — ратаі святла,
*Крывічы,*
*Верхачы неўміручай Пагоні.*
*Маладзік сакалом на плячы,*
*Гартны меч у цвярдое далоні.*
*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвона-белага сцяга.*
*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Наша свята,*
*Пароль*
*І прысяга!*

Ці элегічнае:
*Хмялюся весняй гаманою*
*Ў забытай радасці ў гасцях.*
*Крыляе бусел нада мною*
*Як бел-чырвона-белы сцяг...*

На абарону нацыянальных сімвалаў неаднойчы паўставаў і Васіль Быкаў. Так, калі трыццаць гадоў таму ворагі бел-чырвона-белага сцяга, як і цяпер, «руліпіся» пра яго дыскрэдытацыю, Быкаў пісаў у адказ: «Пра тое нават нельга сказаць у далёкім ці блізкім замежжы — ніхто цябе не зразумее: чаму так? Які ў гэтым сэнс ці хоць бы якая логіка? Я не ўпэўнены, што тое разумеюць нават тыя, што забараняюць гэтую няшчасную сімволіку. Бел-чырвона-белы сцяг ім, бачыце, ненавісны за тое, што яго насілі паліцаі. Дык паліцаі ж насілі і штаны, што ж тады вынікае з вашых вучоных высноў, шаноўныя панове? Няма сумнення, усё гэта будзе смешна і недарэчна нават праз вельмі кароткі час. Але цяпер не смешна. Цяпер балюча і крыўдна, бо тупы жандарскі бот па-ранейшаму папірае і фізічнае існаванне нацыі, і яе стогадовыя духоўныя набыткі. Якія яна па крошцы выпрацоўвала ўласнымі высілкамі, высілкамі сваіх найлепшых людзей, збірала і зберагала — праз войны, голад, галечу, іншаземнае панаванне».

Іншым жа разам Васіль Быкаў казаў: «Смешна, вядома, не прызнаваць тое, што асветлена часам, крывёю, якая была праліта за справядлівую справу...» І, называючы бел-чырвона-белы сцяг «агульнанацыянальным, спакутаваным, збэшчаным і святым», дадаваў: «Іншага сцяга ў нас няма і не можа быць».

# «Дырэктар Даніловіч хлусіць»

**Больш за 100 гісторыкаў падпісалі ліст да грамадскасці, у якім абвінавачваюць дырэктара Інстытута гісторыі НАН у хлусні і прапагандзе.**

Вось гэты ліст:

«У эфіры першай праграмы БТ 20 жніўня 2020 года выступіў дырэктар Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук Вячаслаў Даніловіч у якасці эксперта па бела-чырвона-беламу сцягу.

У гэтым выступе кандыдат гістарычных навук Даніловіч прапанаваў "задумацца" над сімволікай бела-чырвона-белага сцяга і асудзіў беларускую грамадзянскую супольнасць за яго выкарыстанне ў пратэстах. У якасці аргумента была агучаная замшэлая дэмагагічная тэза пра ўжыванне гэтага сцяга беларускімі калабарантамі ў часы нямецкай акупацыі.

Між тым, добра вядома (і не толькі гісторыкам), што бел-чырвона-белы сцяг здаўна прысутны ў беларускай гісторыі і з'яўляецца непадважальнай нацыянальнай і гістарычнай каштоўнасцю беларускага народа.

Нацыянальныя сцягі падчас Другой сусветнай вайны ўжываліся калабарантамі ўсіх краінаў, акупаваных гітлераўскай Германіяй. У тым ліку расійскімі — пад афіцыйным сімвалам сучаснай Расіі бела-сіне-чырвоным сцягам на баку Гітлера ваявалі сотні тысяч расійцаў.

Выкарыстанне нацыянальнага сцяга якімі-небудзь варожымі сіламі не прыводзіць да ягонай дэвальвацыі. Бела-чырвона-белы сцяг, пад якім у жніўні 2020 года праходзіць мірная беларуская рэвалюцыя, не можа быць скампраметаваны нават тым, што пад ім прымаў прысягу першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь — сённяшні дыктатар Аляксандр Лукашэнка.

У вырашальны момант гісторыі краіны кожны грамадзянін вымушаны выбіраць — на чыім баку яму стаць. Спадар Вячаслаў Даніловіч выбраў бок антыбеларускай дыктатуры і выкарыстаў у яе абарону сваю афіцыйную пазіцыю дырэктара акадэмічнай установы.

Гэты антынавуковы і антымаральны чын паставіў яго па-за межамі не толькі беларускай грамадзянскай, але і навуковай супольнасці.

Аляксандр Краўцэвіч, доктар гістарычных навук (Гродна), Аляксандр Смалянчук, доктар гістарычных навук (Гродна), Генадзь Сагановіч, доктар габілітаваны (Мінск), Алег Яноўскі, доктар гістарычных навук (Мінск), Святлана Марозава, доктар гістарычных навук (Гродна), Тадэвуш Гавін, доктар габілітаваны (Гродна), Ганна Энгелькінг, доктар габілітаваны (Варшава), Юры Гардзееў, доктар габілітаваны (Кракаў), Ольга Ковалевська, доктар гістарычных навук (Кіеў), Dr Русціс Камунтавічус (Коўна), Захар Шыбека, доктар гістарычных навук (Тэль-Авіў), Вячаслаў Швед, доктар гістарычных навук (Гродна), Алег Латышонак, доктар габілітаваны (Беласток), Андрэй Катлярчук в.а. дырэктара інстытута сучаснай гісторыі ўніверсітэта Сёдэрторн (Södertörn University, Швецыя), Андрэй Янушкевіч, кандыдат гістарычных навук (Мінск), Уладзімір Ляхоўскі, кандыдат гістарычных навук (Мінск) ды іншыя».

Падпісантаў ліста становіцца больш з кожным днём.

Сяргей КАЙКО

# Стыль свабоды

## Як фрыстайл стаў самым «антылукашэнкаўскім» відам спорту

**Пра адкрыты ліст спартоўцаў і працаўнікоў галіны ведаюць ужо, здаецца, усе. Рашучая нязгода з афіцыйнымі вынікамі прэзідэнцкіх выбараў — і патрабаванні правесці новыя. Эмацыйнае асуджэнне гвалту праваахоўнікаў у дачыненні да мірных пратэстоўцаў — і заклік да расследавання і пакарання адказных за зверствы. Фактычны ўльтыматум — у выпадку пераследу аўтараў маніфесту яны пакідаюць за сабою права салідарна рэагаваць. Аж да таго, каб адмовіцца ў будучым удзельнічаць у спаборніцтвах у складзе зборнай Беларусі. І ў дадатак паведаміць пра рэпрэсіі ў міжнацыянальныя спартовыя інстанцыі, у тыл ліку Міжнародны алімпійскі камітэт.**

### Між мінулым і будучыняй

Ліст выклікаў буйны рэзананс, і, натуральна, не толькі ў вузкапрафесійным асяродку. Кажуць, замітусіліся міністэрствы-ведамствы, паспрабавалі аказаць ціск, застрашыць наступствамі. Але затым, выглядае, занялі пазіцыю тактычнага чакання. Зразумела: гэта не забастоўку на фабрыцы задушыць ці зняць са шматпавярховіка чарговы бел-чырвона-белы сцяг. Калі супраць улады выступаюць зоркі і алімпійскія чэмпіёны — гэта з усіх бакоў асаблівы выпадак.

Пад пасланнем спартыўнай грамадскасці падпісаліся амаль 350 чалавек. Шмат сярод іх простых і ўразлівых працаўнікоў — функцыянераў ды трэнераў. Ёсць журналісты і прадстаўнікі прэс-службаў. Ёсць славутасці мінулага — такія, як плыўчыха Аляксандра Герасіменя, баскетбалісты Аляксандр Куль і Ягор Мешчаракоў, баскетбалістка Таццяна Троіна, лёгкаатлетка Надзея Астапчук, гандбаліст Дзяніс Рутэнка, вясляр Дзям'ян Турчын. Ёсць дзеючыя атлеты, у тым ліку вельмі статусныя — як капітан жаночай баскетбольнай зборнай Кацярына Сныціна і яе калега-цэнтравая Алена Леўчанка, лёгкаатлеткі Вольга Мазуронак, Марына Арзамасава, Эльвіра Герман, дзесяціборац Андрэй Краўчанка, баксёр Дзмітрый Асанаў, плывец Павел Санковіч, валейбалісты Артур Удрыс, Андрэй Радзюк, Сяргей Антановіч...

Шмат выключна годных людзей, якія не пабаяліся выказаць грамадзянскую пазіцыю пасярод небывалага цунамі рэпрэсій і беззаконня. Амаль няма футбалістаў і хакеістаў, але гэта ўжо даўно нікога не здзіўляе. Самае ж цікавае ў тым, што ліст падпісалі лідары аднаго з самых пасляховых і медаляёмістых відаў спорту — фрыстайлу. Пра што хочацца сказаць асобна.




### Патрыярх Казека

Фрыстайл — гэта так званая лыжная акрабатыка. Высокія палёты і не заўсёды мяккія пасадкі на снежны схіл. Гэта небяспечны і прыгожы від спорту, які добра ведаюць і шануюць у Беларусі.

Нават калі да спорту вы абыякавыя, усё адно павінны ведаць, хто такія Аляксей Грышын, Дзмітрый Дашчынскі, Ала Цупер ці Антон Кушнір. Гэта беларускія спартовыя знакамітасці, якія рэгулярна здабывалі медалі на Алімпіядах і Кубку свету. Гэта людзі, якія шмат гадоў глядзелі на нас з тэлеэкранаў і вулічных бігбордаў. Беларускі фрыстайл — гэта як славутыя «танчыкі». Зроблены ў нас, але ведаюць яго ўсюды. Гэта нацыянальны здабытак — асабліва паважаны тым, што канкурэнцыю яму аказваюць расіяне і кітайцы з іх магутнымі рэсурсамі, а ён квітнее ўжо каторае дзясяцігодзе.

Бацька (вось тут без аніякай іроніі) беларускага фрыстайлу — трэнер Мікалай Казека. Ён яго фактычна стварыў напачатку суверэнітэту, і ён жа па сённяшні дзень застаецца ў фарватары, рухаючы са сваімі выхаванцамі насустрач чарговай Алімпіядзе. У красавіку Мікалаю Іванавічу споўнілася 70 гадоў, але ён захоўвае бадзёрасць, энтузіязм і волю да перамогі. Здаецца, адсунь яго ад любімай справы — той справе будзе гамон ці каля таго.

Казека падпісаў адкрыты зварот спартоўцаў з нагоды апошніх падзей у краіне. У гэтым ёсць пэўная сенсацыя, бо, як шмат хто з людзей сталага веку, 9 жніўня ён галасаваў за Аляксандра Лукашэнку. І гэтага асабліва не хаваў.

Аднак прайшло пару тыдняў — і меркаванне мэтра радыкальна змянілася. Не будзем варажыць, што перакулілася ў свядомасці патрыярха беларускага спорту. Не ён такі адзін, хто да нязменнага кіраўніка краіны ставіўся памяркоўна, але затым быў моцна ўражаны развіццём падзей. Беспардонныя 80 працэнтаў, абвешчаныя выбаркамам на чале з непараўнальнай Лідзіяй Ярмошынай. Жудасны гвалт амапаўцаў і іншых сілавікоў, каб знішчыць народны пратэст. Чалавек з рэфлексіяй і эмпатыяй, Мікалай Казека проста не змог ад гэтага адгарадзіцца. А затым не змог і прамаўчаць. І цяпер ён у шэрагу тых, каму сумленне не дазваляе жыць з гэтым далей.

### Чэмпіёнка Гуськова

У лютым 2016 года Лукашэнка дасылаў да Ганны Гуськовай узнёслыя віншаванні. Прэса цытавала: «Абараняючы гонар краіны, ты падарыла беларусам сапраўднае свята. Сёння ўсе з заміраннем сэрца сачылі за яскравым, самаадданым выступленнем, якое прынесла нам першае, такое доўгачаканае золата Алімпіяды...»

Не дзіва: Ганна насамрэч нарабіла шоргату ў алімпійскім Пхенчхане, калі сягнула ў пераможную далеч і стала лепшай фрыстайлісткай свету. Казека звыкла каардынаваў яе фінальны скачок, стоячы прама на схіле, а потым па-бацькоўску абдымаў гераіню пад воблiскі фотаўспышак. Тады ж кіраўнік дзяржавы ўзнагародзіў Гуськову ордэнам Айчыны III ступені, яна адзначыла ў інтэрв'ю яго ўвагу, і гэта выглядала як ідылія. Цягам аднаго дня Ганна ўвайшла ў шэрагі беларускіх спартовых селебрыці, і яшчэ доўга-доўга пасля вяртання на радзіму не ведала адбою ад журналістаў.

Магла б гэтак і далей. Непрыкметна адмаўчацца ў гэтыя жнівеньскія дні, як гэта робяць тыя ж футбаліст Аляксандр Глеб ці хакеіст Міхаіл Грабоўскі. Ці здзейсніць акт палітэсу, выступіўшы супраць гвалту, як тэнісістка Вікторыя Азаранка і біятланістка Дар'я Домрачава, «не заўважыўшы» статыстычных анамалій пры падліку галасоў.

Магла б — але зрабіла інакш. Гуськова таксама падпісала адкрыты ліст спартоўцаў з пагрозай адмовіцца ад зборнай, калі «вертыкаль» будзе ціснуць. Ганна праявіла грамадзянскае пачуццё, па сутнасці, паставіўшы яго вышэй за ўласныя перспектывы. Спартыўныя — бо што будзе далей? Фінансавыя — бо чаго-чаго, а скарачэння грашовых выплат ад роднай дзяржавы чакаць нядоўга. І многіх іншых, замест чаго яна зараз атрымлівае падзяку і павагу простых людзей і спартыўных заўзятараў.

### Рамантычная Раманоўская

Якраз 28 жніўня Ганна Гуськова сустрэла свой 28-ы дзень нараджэння. Яна на самым піку кар'еры і свой поспех яшчэ можа паўтарыць у 2022-м на Гульнях у Пекіне. Іншая справа — Аляксандра Раманоўская, у якой усё толькі пачынаецца.

Аляксандры Раманоўскай — 24 гады, яе кар'ера яшчэ бярэ разгон. Але дзяўчына ўжо паспела нарабіць спраў і ўварвацца ў залаты фонд сусветнага фрыстайлу. Так, ёй не пашчасціла ў Пхенчхане. Яна заняла толькі 14-е месца і вельмі з гэтай нагоды засмуцілася. Зрэшты, талент ёсць талент, а школа Мікалая Казекі была і застаецца ўнікальным беларускім Хогвартсам. У мінулым годзе на першынстве свету ў амерыканскім Парк-Сіці менавіта маладая мінчанка Раманоўская пераўзышла ўсіх канкурэнтак і выйграла залаты медаль. Бліскучы 2019-ы Саша дапоўніла перамогамі на этапах Кубка свету і на Універсіядзе ў Краснаярску. Пасля такога спурту толькі і застаецца, як цэліць на Алімп, маючы на ўвазе Пекін–2022.

Але зноў жа: ці будзе ўсё гэта ў біяграфіі перспектыўнай спартоўкі? Бо яна таксама не змагла праглынуць выбарны і паслявыбарны дзяржаўны вандалізм у дачыненні да грамадзян з альтэрнатыўным меркаваннем. Раманоўская падпісала адкрыты ліст, бо інакш не магла.

Увогуле, гэтая дзяўчына ніколі не хавала ўласных перакананняў. Яе інтарэс да жыцця комплексны, і сацыяльна-палітычных тэмаў яна не цураецца. Яшчэ ў чэрвені, калі электаральная эпапея толькі набірала ход і фіксаваліся першыя выпадкі махлярства, Аляксандра не стрывала і выдала ў інтэрнэт непадробны боль: «Аднойчы я ўдзельнічала ў Алімпійскіх гульнях, дзе ад справядлівага судзейства была адна толькі назва. Цяпер я назіраю ў сваёй краіне выбары, якія язык не павернецца назваць сумленнымі і справядлівымі. У гэтым свеце наогул такія рэчы маюць права на існаванне? Ці гэта пусты гук? Ужо цягне на ваніты, шчыра кажучы...»

Прайшло два месяцы, чэмпіёнка свету зноў не маўчыць і прызнаецца, што пасля адкрытага звароту адчувае ціск. Гаворыць, што ўжо прынятая пастанова аб скарачэнні стыпендый у фрыстайле. Дадае, што на гэтым яе кар'ера можа скончыцца. Але яна не адступіць. Яна з таго пакалення, якое нарадзілася пры Лукашэнку, іншага жыцця на радзіме не бачыла — і цяпер вельмі хоча пабачыць.

### Выпаленая зямля

А цяпер давайце ўявім, што Міністэрства спорту і адпаведная федэрацыя працягнуць лінію паводзінаў свайго непасрэднага кіраўніка. Той дзейнічае вядома як: не падабаецца — валі, як нядаўна было агучана наконт настаўнікаў, якія не ўхваляюць дзяржаўную ідэалогію.

Вынік будзе адзін: замест квітнеючага віду спорту застанецца выпаленая зямля. Бо Казека — гэта глыба, самародак, на якім трымаецца ўсё. Бо Гуськова і Раманоўская — гэта правадыры сённяшняга фрыстайлу, на якіх галоўныя надзеі на медалі Пекіна. Бо іншыя зоркі ўжо ва ўзросце. Антону Кушніру — 35 гадоў, Але Цупер і таго больш — 41, і абодва ўжо спрабуюць сябе на трэнерскай ніве. Ці варта душыць іншую думку цаной такога самазнішчэння? Ці варта страляць сабе ў нагу дзеля, мякка кажучы, сумнеўных выгодаў і ўдаваных іміджавых наступстваў?

Так, беларуская ўлада здольная на максімальна радыкальныя крокі, і ў Купалаўскім тэатры гэта добра ведаюць. Аднак усё мае мяжу — пры той умове, што недзе ў высокіх калідорах яшчэ пануе хоць які здаровы сэнс.

А сэнс той дыктуе адно: ваюючы з нязгоднымі ў спорце, вельмі лёгка не толькі нашкодзіць сабе, але і дапамагчы іншым. Умоўная Украіна, у выпадку чаго, з радасцю працягне руку апальным беларускім фрыстайлістам. І тыя будуць перамагаць пад новым сцягам — і пад усеагульныя рэспекты сусветнай спартыўнай супольнасці.

Алег НОВІКАЎ

# Дасье ў карыкатурах: Як свет смяецца з Лукашэнкі

**Няма сумневаў, што наша краіна перажывае гістарычны час. Таму яшчэ ніколі беларуская тэматыка не была так маштабна прадстаўленая на старонках замежных СМІ. У тым ліку, у карыкатурах.**




Найбольш замежнікаў уразіў брутал на беларускіх выбарчых участках, які ўлады нават не хавалі, робячы стаўку на гвалт. На малюнку выдання Cagle Cartoon Лукашэнка хваліцца, што зрабіў на выбарах усіх апанентаў адным няхітрым прыёмам.




Асобна звяртаецца ўвага на тое, што жорсткага дыктатара з вялізарным сілавым апаратам па сутнасці прымусіла баяцца звычайная жанчына. Мастак Deutche Welle для раскрыцця тэмы выкарыстаў бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня.




А вось мастак з рэсурсу Cartoon movement параўнаў выбарчы працэс у РБ з тэхналогіяй па вытворчасці туалетнай паперы.




Натуральна, заўважылі мастакі і тое, як улада паводзіла сябе з апазіцыйнымі кандыдатамі. На малюнку International Herалld Tribune паліцэйскіх інструктуюць катаваць усіх кандыдатаў, акрамя афіцыйнага.




Яшчэ адным сюжэтам для мастакоў сталі спробы заблакаваць інтэрнэт. Мастак з рэсурсу Irancartoon іранізуе наконт таго, як можа выглядаць альтэрнатыўны канструктыўны Instagram ад беларускай улады.




Не забыліся мастакі і высмеяць нерашучасць лідараў Еўрасаюза. На карыкатуры выдання Politico Еўрасаюз дапамагае зрынуць дыктатара арыгінальным спосабам.

## Звольнілася аўтарка «Terra incognita»

**Карэспандэнтка Белтэлерадыёкампаніі Ксенія Луцкіна напісала ў сваім Фэйсбуку, што пасля 15 гадоў працы яна сышла з БТ.**

Луцкіна распавяла, што была аўтаркай праектаў «Terra incognita» ў «Невядомай Беларусі», наведала зону адчужэння ў Беларусі і Украіне, пабывала на ЧАЭС, каб скласці сотні чарнобыльскіх гісторый у цыкл «Зямля страчаная. Зямля здабытая», была аўтаркай амаль дваццаці дакументальных фільмаў пра гісторыю Беларусі.

Былая ўжо супрацоўніца БТ была сярод тых, хто ўдзельнічаў у забастоўцы на Белтэлерадыё. Раней у інтэрвію «Свабодзе» яна расказала, што не згодныя з палітыкай кіраўніцтва кампаніі журналісты абмяркоўваюць магчымасць стварэння ўласных перадач, каб распаўсюджваць іх праз Youtube.

**Радыё Свабода**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1433

Падпісана да друку 27.08.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.